*Светлай памяці бацькоў маёй жонкі Аляксандры і Георгія Андрэевых прысвячаю сваю кнігу*



## АД АЎТАРА

За сваю шматгадовую навуковую працу даводзілася выступаць у друку па досыць шырокім коле пытанняў. А вось за што бяруся ў гэтай публікацыі, тут я ў поўным сэнсе слова пачатковец. Але не адважыцца на такі крок не маю права, бо размова ж датычыць асвятлення жыццёвага шляху бясконца дарагога мне чалавека, з якім я ішоў нага ў нагу з 1 мая 1957 года па 11 чэрвеня 2011 года. Завуць гэтага чалавека Ефрасіння Георгіеўна Андрэева, а ў прыватных, сямейна-бытавых зносінах — проста Фрося ці Тося. Прычым не толькі названая вышэй, але і некалькі іншых сур'ёзных прычын абумовілі маё жаданне ўзяцца за пяро, каб з яго дапамогай працягнуць дыялог — няхай сабе і ў віртуальным фармаце — з чалавекам, з адыходам якога ў невядомы свет шмат што да непазнавальнасці змянілася ў маім самотным жыцці. Не будзе перабольшаннем сцвердзіць, што зробленае Ефрасінняй на беларускай зямлі, роднай зямлі яе мужа, на якую яна ўпершыню ўступіла ўлетку 1958 года, заслугоўвае таго, каб яно знайшло сабе як мага больш поўнае адлюстраванне ў друкаваным слове. Я ведаю некалькі дзясяткаў слынных людзей Бацькаўшчыны, што навекі пакінулі яе, сышоўшы ў магілу, аднак, акрамя сухіх артыкулаў у энцыклапедычных даведніках, пра іх нічога нідзе не знайсці больш вартага. О, як шмат мы трацім ад такога недаравальнага забыцця, бо ў жыцці ж кожнага з такіх людзей побач з асабістым, прыватным — у большыні выпадкаў цікавым і адметным — вельмі багата такога, што самым цесным чынам звязана з карэннымі інтарэсамі краіны, што пазітыўна адбівалася на яе эканамічным, сацыяльна-палітычным, нацыянальна-культурным развіцці. Без усялякага сумневу, азнаямленне з жыццёвым шляхам шчыра адданых нацыянальнаму ідэалу роднага краю людзей будзе толькі множыць лік іх паслядоўнікаў. А сёння яны, мо як ніколі раней, вельмі патрэбныя краіне, бо яна зведвае неверагодныя цяжкасці ва ўсіх сферах жыццядзейнасці ча-

лавека, і асабліва ў нацыянальна-культурнай, у рэчышчы якой і працавала мая жонка на працягу больш за сорак гадоў. Будучы рускай па паходжанні, яна вельмі хутка інтэгравалася ў беларускае нацыянальна-культурнае жыццё, самастойна, без усялякай падказкі збоку ўбачыла небяспечныя адмоўныя з'явы ў ім, без рашучага пераадолення якіх беларусы не маглі б доўгі час існаваць як самабытны этнас, як адметны кампанент славянскай супольнасці народаў. Змірыцца з такой трагедыяй было не ў характары па-сапраўднаму з рускай душой педагога. Праз глыбокае асэнсаванне навуковых прац заходнееўрапейскіх, рускіх, беларускіх вучоных-педагогаў яна беспамылкова бачыла ў адукацыі той магутны сродак, з дапамогай якога можна было істотна зменшыць негатыўнае, разбуральнае ўздзеянне дзяржаўнай палітыкі русіфікацыі беларускага народа, ад якога яна ўжо зусім не аддзяляла сябе ў апошнія гады свайго жыцця. Калі ў канцы 1980-х — пачатку 1990-х гадоў на Беларусь прыйшло так даўно жаданае, выратавальнае для яе нацыянальна-культурнае адраджэнне, Ефрасіння не толькі з вялікай радасцю сустрэла, але і актыўна ўдзельнічала ў ім. Гэтай святой справе ўсяляк спрыяла праз адпаведную арганізацыю навучальна-выхаваўчага працэсу з будучымі педагогамі, падрыхтоўку і выданне падручнікаў, дапаможнікаў, праз частыя выступленні ў перыядычным друку. Я доўга думаў, што прынясе большую карысць беларускаму нацыянальнаму інтарэсу: змяшчэнне ўсіх выдадзеных артыкулаў Ефрасінні ў адной кнізе ці мой аповед пра жыццёвы шлях яе аўтара. Спыніўся на апошнім варыянце, бо меў вельмі вялікае жаданне расказаць пра яе не толькі як навукоўца, актыўнага ўдзельніка беларускага нацыянальна-культурнага адраджэння, але і як пра любую, шчыра каханую жонку, дарагога чалавека. Гэта ў значнай меры дапамагло мне ў набыцці, захаванні так патрэбнага для агульнага стану здароўя спакою падчас працы над успамінамі і, упэўнены, дапаможа і пасля іх апублікавання. Што датычыць выдання артыкулаў Ефрасінні, змешчаных у перыядычным друку, паасобнай кнігай, спадзяюся, што рана ці позна такое адбудзецца нават і без майго ўдзелу. Ход падзей паказвае, што значная частка беларусаў арганічна не прымае сучасную дзяржаўную палітыку русіфікацыі, галоўным правадніком якой з'яўляецца само кіраўніцтва Рэспублікі Беларусь. Пры самай мізэрнай магчымасці выступіць супраць такога антынацыянальнага курсу тут жа ўсплываюць на паверхню новыя свежыя сілы і будуць з усёй рашучасцю ратаваць народ ад стагоддзямі абрыдлай яму русіфікацыі. Поспех у змаганні з гэтай бядой у многім будзе залежаць ад ідэалагічнай падрыхтоўкі людзей, для чаго якраз і ёсць прамы сэнс выдаць адной кніжкай раскіданыя

ў розных перыядычных выданнях артыкулы Е. Андрэевай па праблеме нацыянальна-культурнага адраджэння. Сфармуляваныя ў іх палажэнні ніколі не ўстарэюць. Важна і тое, што яны належаць небеларусу. А такіх людзей ёсць і надалей будзе нямала ў нашай краіне. Ад іх пазіцыі вельмі і вельмі многае будзе залежаць у справе нашага немінучага чарговага нацыянальна-культурнага адраджэння. Цвёрда ўпэўнены, што сучасныя, будучыя пакаленні беларусаў цалкам заслугоўваюць такой гістарычнай перамогі. Адной з асобаў, што не ўяўляла свайго жыцця без актыўнага ўдзелу ў нацыянальна-адраджэнскім руху, да таго ж жонцы, я і прысвячаю сваю кнігу. Такіх асобаў у далёкім і блізкім мінулым, сёння і заўтра было, ёсць і будзе нямала на беларускай зямлі. І як добра было б, каб яны не заставаліся ў забыцці. Хацелася б прасіць усіх, хто хоць трохі валодае дарам мастацкага, публіцыстычнага слова, спаўна выкарыстаць яго дзеля персаналізацыі беларускага нацыянальна-культурнага адраджэння. У людской памяці трэба захоўваць як мага больш тых, хто самааддана працаваў на карысць гэтай святой справы, тады, можа, яна насуперак волі і жаданню ўсіх ворагаў Беларушчыны хутчэй стане нашай доўгачаканай рэчаіснасцю. Духу беларускага нацыянальна-культурнага адраджэння ў належнай ступені адпавядаюць сваім зместам многія не даведзеныя да канца рукапісныя творы Ефрасінні. Пры магчымасці пастараюся спаўна здаць іх у архіў, бо цвёрда ўпэўнены: у нашай гісторыі яшчэ будуць так жаданыя для сапраўдных патрыётаў краіны гады нацыянальнага ўздыму. Яму толькі на карысць будуць тэарэтычныя напрацоўкі мінулых гадоў, у чым ёсць пэўная заслуга і Е. Андрэевай.

Аўтар выказвае глыбокую падзяку шматпаважанай Надзеі Сармант за бясплатны набор на камп’ютары рукапісу гэтай кнігі, выдадзенай за ўласны кошт.

# 1. СУСТРЭЧА І ПЕРШЫЯ ГАДЫ ЖЫЦЦЯ НА РАДЗІМЕ МУЖА

Працяглы час пасляваенная Беларусь належала да ліку саюзных рэспублік, куды шырокай плынню падаваліся на сталае пражыванне мігранты. Спачатку галоўнай прычынай такой плыні з'яўлялася вялікая патрэба дапамагчы ёй хутчэй устаць на ногі пасля перанесеных цяжкіх выпрабаванняў у гады вайны і нямецкай акупацыі. У 1946–1948 гадах у Беларусь пацягнулася нямала мігрантаў і па зусім іншай прычыне: страшэнны голад у прылеглых да яе (Беларусі) рускіх і ўкраінскіх рэгіёнах. Іх жыхары падаваліся ў асноўным у сельскія населеныя пункты колішняй Заходняй Беларусі, дзе асабліва не спяшаліся да ўтварэння калгасаў, таму яе жыхары мелі пэўныя запасы прадуктаў харчавання, якія ахвотна мянялі з прыбыльцамі на прамысловыя тавары. Такі фактар міграцыі меў часовы характар: у заходніх раёнах Расійскай Федэрацыі і Украіны становішча на збожжавым рынку пакрыху паляпшалася, а на раней не ахопленай калектывізацыяй беларускай тэрыторыі ўводзіўся сацыялістычны лад гаспадарання.

Даволі масавая міграцыя людзей з усіх саюзных рэспублік у БССР добра паспрыяла хуткаму правядзенню ў пасляваенныя гады русіфікацыі яе грамадскага жыцця. Каб пасяліцца, знайсці ў Беларусі адпаведную працу, зусім не патрэбна было ведаць яе нацыянальную мову, чаго ніяк нельга сказаць пра рэспублікі Прыбалтыкі, Закаўказзя, Сярэдняй Азіі.

Нетыповая ў Беларусі ў параўнанні з усімі іншымі саюзнымі рэспублікамі моўная сітуацыя паслужыла падставай для мяне, Леаніда Лыча (1929 г. н., мястэчка Магільнае Уздзенскага раёна Мінскай вобласці) і маёй жонкі сібірачкі Ефрасінні Андрэевай (1931 г. н.), каб улетку 1958 года пераехаць у гэтую найбольш зрусіфікаваную ў СССР рэспубліку з Уфы Башкірскай АССР. Былі мы педагогамі: я — выкладчык гісторыі, жонка — рускай мовы і літаратуры. Пераехаць у Беларусь збіраліся ў 1957 годзе (год заканчэння мною Башкірскага дзяржаўнага педінстытута імя К. А. Ціхамірава), але Міністэрства асветы БССР адгаварыла спасылкай на адсутнасць у школах усёй рэспублікі вакансій гісторыка і выкладчыка рускай мовы і літаратуры. Такі несуцяшальны адказ ад гэтага міністэрства атрымалі і ў 1958 годзе, што, аднак, не перашкодзіла рушыць з Башкірыі ў бедную на педагагічныя вакансіі Беларусь. Ініцыятыва пераезду належала аўтару гэтых радкоў. Хрушчоўская адліга, нягледзячы на сваю

недаўгавечнасць, усё ж трохі абудзіла нацыянальна-культурны рух, бо сляды русіфікацыі бачнымі былі — толькі ў розных ступенях — ва ўсіх нярускіх рэспубліках, краях і абласцях. Углядаючыся, як на сваіх нацыянальных нівах шчыруюць башкіры і татары, захацелася і мне, маладому гісторыку, штосьці карыснае ў гэтым плане зрабіць для беларусаў, што магло быць рэальным толькі з маім пераездам на гістарычную радзіму. Такое адбылося ў сярэдзіне лета 1958 года. Толькі вось бяда, сапраўднага размаху ў ёй не атрымаў нацыянальна-культурны рух. Да таго ж яшчэ былі ў мяне сур'ёзныя праблемы з валоданнем роднай мовай. Практычна цалкам развучыўся размаўляць на ёй. Добра, што хоць усё разумеў пачутае на роднай мове. З жонкай Ефрасінняй пачалі неадкладна шукаць месца працы ва Уздзенскім раёне, бліжэй да месца майго нараджэння мястэчка Магільнага. Ніхто нічога канкрэтнага не абяцаў нам, хаця і згаджаліся мы на любыя варыянты: я — выкладаць фізкультуру, ваенную справу, яна — працаваць у пачатковых класах, быць за піянерважатую. Паколькі жаданага шчасця не знайшлі на маёй малой радзіме, без затрымкі кінуліся ў адміністрацыйны цэнтр Беларусі — Мінск. Літаральна ўжо на другі дзень пасля прыбыцця ў сталіцу Ефрасіння вяла канкрэтную размову ў аддзеле кадраў Мінскай цеплаэлектрацэнтралі № 3 (МЦЭЦ-3) аб уладкаванні на пасаду загадчыцы запланаванага тут да адкрыцця праз тры-чатыры месяцы дзіцячага сада № 96. Прэтэндаваць на такую пасаду яна мела права, бо некалі закончыла Уфімскае дашкольнае педагагічнае вучылішча. Кіраўніка аддзела кадраў МЦЭЦ-3 задавальняла, што наведвальніца некалькі гадоў папрацавала інспектарам Уфімскага раённага аддзела народнай адукацыі і, значыцца, валодала пэўнымі звычкамі развязваць пытанні арганізацыйнага плана, без чаго не абысціся пры арганізацыі дзіцячай дашкольнай установы, працы ў ёй. Маючы немалую зацікаўленасць да такой кандыдатуры, аддзел кадраў нават выдаў Ефрасінні на рукі нейкі дакумент з мэтай паспрыяць афармленню прапіскі ў горадзе Мінску. У выпадку няўдачы паабяцалі пазваніць у пашпартны стол міліцыі Заводскага раёна. Усё закончылася паспяхова, хаця ўжо ў той час існавалі вельмі сур'ёзныя абмежаванні з прапіскай у гарадах і тым больш у беларускай сталіцы. У значнай ступені дапамагла адсутнасць у пашпарце 27-гадовай Ефрасінні паметкі пра знаходжанне ў шлюбе. На такі крок мы асабліва не спяшаліся ісці (сям'ю стварылі 1 мая 1957 года), бо не надавалі сур'ёзнага значэння афіцыйнаму заключэнню шлюбу, што тады, не ў прыклад сённяшняму часу, было даволі рэдкай з'явай.

Непераадольнай цяжкасці з пошукам працы ў беларускай сталіцы не зведваў і я. Выбар прыпаў на школу-інтэрнат № 17 у раёне Юбілейнай плошчы. Зараз у гэтым будынку размешчаны Нацыянальны інстытут адукацыі. Кантынгент у школе-інтэрнаце быў надзвычай складаны: пераважалі дзеці з праблемных сем'яў, сіроты, якіх выхоўвала вуліца, а не бацькі. Дырэктар школы Грамовіч (імя не памятаю) ахвотна браў мяне ў штат, даведаўшыся, што я меў вопыт працы ў Стэрлітамакскай дзіцячай працоўнай калоніі (Башкірыя), трохі валодаў струннымі музычнымі інструментамі. А вось мая руская мова вельмі насцярожыла кіраўніка школы (карыстаўся ў размове са мной толькі беларускай мовай), бо навучальна-выхаваўчы працэс у ёй вялі па-беларуску. На развітанне пачуў такія суцяшальныя словы: «На працу залічваю вас 15 жніўня 1958 года, але вы ўжо хоць сёння пакідайце Мінск і едзьце да 1 верасня на вёску да сваёй мамы і вучыцеся і ад яе, і ад сваіх землякоў беларускай мове». Так я і зрабіў: пры любой магчымасці ўступаў у дыялог з вяскоўцамі, але найбольш любіў размаўляць з мамай, беларуская мова ў якой тады была надзвычай чыстай, не засмечанай русізмамі. Шмат часу адводзіў чытанню ў голас беларускамоўнай літаратуры.

Беларускай мовай мог бы за адведзеныя дырэктарам школы пятнаццаць дзён авалодаць і лепш, каб не меў вельмі важнага абавязку: афармленне прапіскі ў Мінску. Вось яна то і паслужыла для мяне і Ефрасінні прычынай пайсці на афіцыйнае заключэнне шлюбу. Адбылося гэта вельмі хутка — у дзень падачы заявы ў родным Магільнянскім сельскім Савеце. Мінула якіх-небудзь дзесяць дзён, як мая жонка (у пашпарце тады яна лічылася незамужняй) прапісалася ў пашпартным стале Заводскага раёна, а тут ізноў наведалася ў гэтую ўстанову, праўда, не адна, а з мужам, што вельмі здзівіла яе супрацоўнікаў. І дзівіцца было з чаго: прыехала дзяўчына ў Мінск з далёкай Башкірыі адна, а ўжо праз дзесяць дзён пабралася шлюбам. Прысутны ў тыя хвіліны ў пашпартным стале малады ў форме лейтэнанта міліцыянер з лёгкай усмешкай на твары заўважыў: «У такой прыгожай дзяўчыны муж мог бы з'явіцца і на трэці дзень па прыбыцці ў Мінск. А яна ж уступіла ў шлюб праз дзесяць дзён». Пашпартыстка ўсміхнулася і ўзяла мой пашпарт на прапіску. Так і я, дзякуючы ўраджэнцы Сібіры, маёй рускай жонцы, зрабіўся паўнапраўным жыхаром горада Мінска. Цяпер Ефрасіння і Леанід маглі спакойна аддавацца абранай працы. Жонка афіцыйна прыступіла да яе 8 жніўня 1958 года. Мяне па-добраму здзіўляў яе сапраўдны энтузіязм. Адкрыццё дзіцячага сада — гэта ў многіх дачыненнях даволі моцны арэшак. Найбольш клопатаў

узнікала з набыццём мэблі. Якія толькі гарады Беларусі ёй давялося наведаць! Затое за месяц-два вывучыла лепш за мяне маю радзіму. Іншым разам па некалькі дзён знаходзілася ў горадзе, дзе набывала мэблю. Пры ўсіх цяжкасцях, штучна ўчыненых перашкодах сад удалося ў патрэбных памерах і ў вызначаны тэрмін забяспечыць ёю.

Як вялікі аматар усяго прыгожага, Ефрасіння не пашкадавала часу, энергіі, каб зрабіць як мага больш добраўпарадкаванай тэрыторыю сада. Знаходзіўся ж ён зусім недалёка ад МЦЭЦ-3, і паветра ў гэтым раёне не вызначалася сваёй чысцінёй. Калі ў адзін з выхадных дзён мы з жонкаю наведалі маю родную вёску (да 1950-х гадоў — мястэчка) Магільнае, мы доўга блукалі па лесе і нават наведалі апісанае Якубам Коласам у паэме «Новая зямля» ўрочышча Ліпава. Прыемна было назіраць, як Ефрасіння любавалася лясным ландшафтам гэтага месца, дзе старыя дубы, ліпы, клёны і іншыя пароды раслiннага свету межавалі з яшчэ зусім маладымі дрэўцамі гэтых жа парод. Калі ж прыйшла чарга ўпрыгожваць тэрыторыю дзіцячага сада дрэўцамі, кустамі раслін, Ефрасіння пажадала гэта зрабіць за кошт ляснога багацця Ліпава. Ад Мінска яно знаходзіцца на адлегласці каля ста кіламетраў. Дырэкцыя МЦЭЦ-3 не палічылася з выдаткамі і для перавозкі саджанцаў з Ліпава да дзіцячага сада выдзеліла на цэлы выхадны дзень грузавую машыну. У іх адборы і выкопванні дапамагаў нам мясцовы ляснік Волесь Дземідовіч. Як даведаўся, дзеля чаго гэта ўсё робіцца, вельмі абрадаваўся і нават адмовіўся ад усялякай платы за дапамогу. Позна ўвечары дзясяткі маладых дрэўцаў з Ліпава ўжо знаходзіліся на тэрыторыі дзіцячага сада, а на наступны дзень былі высаджаны. Амаль усе яны прыжыліся, чым, як ніхто іншы, радавалася і ганарылася Ефрасіння. І многа гадоў пазней, калі ёй па розных справах даводзілася наведваць раён МЦЭЦ-3, абавязкова старалася хоць мімаходзь паглядзець, як растуць пасаджаныя з яе непасрэдным удзелам дрэвы. Некаторыя з іх і па сёння ўпрыгожваюць тэрыторыю таго дзіцячага сада.

## 2. ЛІНГВІСТЫЧНАЯ ЗАЦІКАЎЛЕНАСЦЬ БЕЛАРУССЮ

Як філолаг па адукацыі Ефрасіння, нягледзячы на сваю занятасць, не магла не звярнуць увагу на тагачасную моўную сітуацыю ў Беларусі. Гэта ж былі 50-я гады, калі ў Мінску колькасна пераважалі нядаўнія вясковыя жыхары з роднай беларускай мовай, якой ім паступова трэба было цурацца, паколькі партыйныя і савецкія органы ўзялі цвёрды курс на абслугоўванне ўсіх сфераў грамадскага жыцця рэспублікі рускай мовай, г. зн. праводзілі тыповую дзяржаўную палітыку русіфікацыі беларускага народа. Супраціву з яго боку не назіралася, бо бальшавіцкія ідэолагі сумелі ўбіць людзям у галаву шкодную думку пра неабходнасць у інтарэсах будучага шчаслівага камуністычнага грамадства ісці да гэтай запаветнай мэты толькі з набыткамі самай багатай і распаўсюджанай у СССР рускай культуры і мовы. Паколькі Ефрасіння ўзгадоўвалася ў Башкірыі ў зусім іншых культурна-моўных варунках, яна і не разумела, і не апраўдвала ўсяго таго, што рабілі зацятыя бальшавіцкія русіфікатары на Беларусі. Наведваючы маю родную вёску Магільнае з на дзіва характэрнымі для яго жыхароў моцнымі нацыянальна-культурнымі традыцыямі, надзвычайнай адданасцю роднай беларускай мове, старалася лавіць кожнае яе слова, даймаць мяне няспыннымі просьбамі перакласці яго на рускую мову, што я рабіў з вялікім задавальненнем. Ды і сам я пасля такога доўгага расстання з матчынай мовай упіваўся яе прыгажосцю, працягваючы дасканаліць сваё валоданне дарагім родным словам, чаго ад мяне вымагала праца ў беларускамоўнай школе-інтэрнаце № 17 г. Мінска. Відаць, ні ад кога я і мая жонка не ўзбагаціліся такім вялікім запасам карэннай лексікі нашага народа, правільным вымаўленнем слоў, як ад маёй бабкі Марылькі, якая тады ўжо набліжалася да сярэдзіны свайго дзевяностагоддзя. Нарадзілася яна, не баюся памыліцца, у самым цэнтры аўтэнтычнага беларускага нацыянальнага жыцця — у вёсцы Кухцічы, што на Уздзеншчыне. З яе вуснаў я не пачуў аніводнага рускага слова, чаго ўжо не магу сказаць пра сваю маму. Ва ўсім вінаватыя настаўнікі мясцовай беларускамоўнай агульнаадукацыйнай сярэдняй школы. Не было такога года, каб яны не кватаравалі ў нас. Некаторыя з іх асабліва не сябравалі з родным словам (а мо як след і не валодалі ім), выкарыстоўваючы нямала русізмаў. Яны не маглі не трапіць у лексіку і мамы, а вось бабка Марыля менш уступала ў дыялог з настаўніцамі, таму і захавала чысціню беларускай мовы. Здаецца, каб нашыя размовы з гэтай, зусім не сапсаванай рускім уплывам

беларускай жанчынай былі запісаны на магнітафоне, лепш падрыхтаванай за яе асобы па правільнай пабудове сказа, дасканалым вымаўленні слоў нельга было б адшукаць. Маю Ефрасінню асабліва здзіўляў такі праклён бабкі: «А каб ты калом пайшла!» Такія словы яна часта ўжывала да свінні ці каровы, калі яны не слухалі яе ці ўчынілі якую-небудзь шкоду. Такога праклёну мне не даводзілася пачуць не толькі ў іншых вёсках, а і ў жыхароў самога Магільнага. Не выключана, што ён прывезены з Кухцічаў.

Ад выхавацелек свайго сада Ефрасіння не раз чула самыя цёплыя водгукі пра пастаноўкі Беларускага драматычнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы, чым не магла не падзяліцца са мною. Словам, сама сітуацыя склалася так, што наведванне гэтага славутага тэатра стала для нас неадкладнай справай, вялікім жаданнем, што і здзейснілася ў адзін з восеньскіх вечароў 1958 года. Калі не памыляюся, глядзелі мы тады спектакль па п’есе Кандрата Крапівы «Людзі і д’яблы». З маёй дапамогай Ефрасіння ў асноўным разабралася са зместам спектакля і прасіла надоўга не адкладваць чарговы візіт у гэты тэатр. Так яно і практыкавалася.

Заўважыў, што жонку дужа цікавілі беларускамоўныя перадачы спектакляў па правадным радыё, што тады з’яўлялася проста нормай. Пры ўсёй занятасці заўсёды з вялікай ахвотай тлумачыў сэнс незразумелых ёю слоў з тых радыёперадач, а калі штосьці мне не ўдавалася з перакладамі, занатоўваў гэтае слова ці выраз на паперку і ўдакладняў затым з калегамі па працы ў школе-інтэрнаце. Была ж яна, яшчэ раз паўтаруся, беларускамоўнай. Але, на вялікі жаль, роднае слова не так часта гучала ў камунікацыйных зносінах настаўнікаў, за выключэннем тых, хто выкладаў беларускую мову і літаратуру. Таму вяртанне мяне да матчынай мовы, усе спробы набыцця звычкі прыстойнага літаратурнага вымаўлення па-беларуску адбываліся даволі марудна. Дый, па праўдзе кажучы, асаблівага жадання не мелася на гэта, бо не бачыў перспектывы ў роднага слова.

А вось у жонкі, на дзіва, інтарэс да беларускай мовы з месяца ў месяц павышаўся. Як мне стала вядома, пры працаўладкаванні ў сад нянек, санітарак яна перавагу аддавала тым, хто звяртаўся да яе па-беларуску ці з яскрава выяўленым беларускім акцэнтам. Дэфіцыту на такія кадры не мелася, бо сад жа знаходзіўся на ўскрайку горада і на працу ў яго з вялікай ахвотай ішлі жыхары сельскай мясцовасці, дзе тады, не ў прыклад сённяшнім дням, панавала не засмечаная рускай лексікай беларуская мова. Пазней даведаўся, што такую практыку пры прыёме людзей на працу Ефрасіння ўвяла з адной-адзінай мэтай: хутчэй самой атрымаць жаданыя навыкі валодання роднай мовай народа, сярод якога лёс наканаваў ёй жыць.

Калі пра ўсё гэта я даведаўся, мяне ўжо перастала здзіўляць, чаму яна амаль кожны дзень прыносіла з працы ўсё новыя і новыя незразумелыя ёй словы, просячы дапамагчы разабрацца ў іх сэнсе.

Затое мяне здзівіла нешта зусім іншае ў поглядах жонкі на моўную сітуацыю. Дзесьці незадоўга перад выездам улетку 1959 года дзіцячага сада на дачу мы вырашылі трохі часцей наведваць спектаклі тэатра імя Янкі Купалы, бо такой жа магчымасці не будзе аж да самай восені. Не выключана, што такое насычанае тэатральнае жыццё і выклікала ў Ефрасінні нечаканае для мяне пытанне:

— Так все-таки, чем же объяснить, что у вашего народа такой красивый, в том числе и для нас, русских, язык, в чем хорошо убедилась после посещений театра, что на этом языке говорит более половины населения республики, а власти, городские образовательные школы, высшие и средние специальные учебные заведения и многие другие сферы жизнедеятельности человека используют только русский язык?

Доўга думаць над адказам на пастаўленае пытанне не давялося, бо сёе-тое ж ведаў з партыйных установак па моўным пытанні.

— Наша страна, — з поўнай упэўненасцю сцвярджаю, — с большим успехом решает исторической важности задачу построения коммунистического общества с его единой для всех советских народов культурой и языком. Для этого больше всего подходят богатые, широко распространенные на всей огромной территории СССР русская культура и язык. Поскольку коммунизм не за горами и сегодняшняя молодежь обязательно будет жить в его условиях, поэтому считаю, что нет никакой надобности сохранять, распространять среди нее подлежащие к скорому непременному отмиранию белорусскую культуру и язык.

— Ну а если по каким-либо причинам растянется время строительства коммунизма, а у белорусов уже не будет ни своей национальной культуры, ни своего национального языка? Кто тогда должен будет отвечать за искусственно проведенную культурно-языковую ассимиляцию этого славянского народа с богатой историей, самобытной культурой?

— Отвечать никому не придется, — настойліва пераконваю сваю жонку. — Ты только вдумайся, какие высокие рубежи наметила партия в проекте Тезисов по развитию народного хозяйства СССР в 1959–1965 годах. А это же всего лишь семь лет, а смотри — на какой высокий рубеж выйдет страна!

На гэтым наша размова закончылася, а жыццё працягвалася.

## 3. БЫЛІ Ў ПРАЦЫ ПОСПЕХІ, НЯЎДАЧЫ І КАНФЛІКТЫ

Як бездакорнай у выкананні службовых абавязкаў, добрасумленнай ва ўсім загадчыцы дзіцячага сада Е. Андрэевай кіраўніцтва МЦЭЦ-3 ужо ўвосень 1960 года выдзеліла аднапакаёвую кватэру плошчаю каля 10 кв. метраў, што нас вельмі абрадавала, бо аклады ж не былі высокімі ні ў яе, ні ў мяне. Аднак бездакорнасць выканання маёй жонкай сваіх службовых абавязкаў мела і адваротны бок. Дзіцячы сад МЦЭЦ-3 уваходзіў у сістэму дашкольных установаў Савета народнай гаспадаркі БССР. Трэба сказаць, што апошнім развіццю іх надавалася належная ўвага. У пачатку 1960-х гадоў было запланавана ўвесці ў эксплуатацыю элітны для таго часу дзіцячы сад № 143 дзесьці паблізу вуліц Калектарная і Мяснікова (гадоў пяць-сем таму будынак сада знесены), разлічаны ў асноўным для дзяцей работнікаў самога апарата СНГ БССР. Памятаючы, як паспяхова справілася мая жонка з адкрыццём сада для дзяцей работнікаў МЦЭЦ-3, адпаведныя структуры СНГ БССР не знайшлі лепшай за яе кандыдатуры, каб прызначыць на пасаду кіраўніка сваёй прэстыжнай дзіцячай установы. Адбылося такое прызначэнне 10 жніўня 1961 года. Справа рухалася проста на выдатна. Жаданне працаваць у гэтым прэстыжным у вачах дашкольных работнікаў садзе было ў многіх, таму яго ўдалося даволі хутка ўкамплектаваць патрэбнай колькасцю і высокай кваліфікацыі педагагічнымі кадрамі, старанным да працы маладым абслуговым персаналам.

Ад кіраўнікоў розных катэгорый не раз чуў, што далёка не проста выконваць такія функцыі ў калектывах з колькаснай перавагай асобаў жаночага полу. Нешта падобнае гаварыла і мая жонка, асабліва калі на яе змясціла крытычны матэрыял газета «Советская Белоруссия» (26 мая 1964 г.). Аўтарам яго быў добра вядомы ў журналісцкіх колах Г. Колас. У даволі грунтоўным артыкуле на маральныя тэмы «Уходящие» ён пісаў пра грубыя парушэнні заканадаўства Е. Андрэевай пры звальненні з працы Валі Лепінай (замяшчала дзвюх выхавацелек падчас іх дэкрэтнага адпачынку). Не вывучыўшы як след прычыны звальнення (пазнаёміўся толькі з заявай мужа «пацярпелай»), Г. Колас вынес вельмі сур'ёзны вердыкт: «Нельзя не согласиться с В. Лепиным: таких (Андреевых. — *Л. Л.*) надо наказывать. Их дела и поступки должны выставляться на общественный суд. В одиночку с ними бороться труднее, потому что они никогда не гнушаются запрещенных приемов (падкрэслена мною. — *Л. Л.*), прибегать к которым в ответ каждый из нас считает делом бесчестным». У той час

кіраўнікі прадпрыемстваў і ўстаноў абавязваліся неадкладна рэагаваць на такога роду крытычныя матэрыялы і нярэдка вінаватых звальнялі са службы. Прыняць такое рашэнне былі ўсе падставы ў кіраўніцтва СНГ БССР, а не спяшалася прымаць толькі дзякуючы таму, што высока цаніла працу Е. Андрэевай. Да таго ж у яе абарону выступаў увесь педагагічны калектыў дзіцячага сада. Са свайго боку Е. Андрэева звярнулася з прэтэнзіяй да рэдакцыі газеты «Советская Белоруссия» за надрукаванне матэрыялу без усялякай праверкі фактаў і перамагла. Хоць і з вялікім спазненнем (20 кастрычніка 1964 года), аднак рэдакцыя прызнала, што «обвинения в ее адрес являются безосновательными» і прынесла ёй «свои извинения».

Недзе прыкладна ў гэты ж час Е. Андрэеву напаткала яшчэ адна непрыемнасць. На гэты раз — фінансавая. Моцна давярала людзям, таму не выяўляла асаблівай стараннасці да захоўвання грашовых збораў з бацькоў за ўтрыманне іх дзяцей у садзе. Крадзеж касы адбыўся тады, калі ўжо закончылі такія зборы: паступіла прыкладна 450 рублёў. У жонкі ж сярэдняя месячная зарплата не перавышала 70 рублёў, мая раўнялася 83 рублям (за мінусам 25% аліментаў), таму пакрыць скрадзеную суму сталася не такой ужо лёгкай справай. Усе спробы калектыву дапамагчы пацярпелай рашуча адхіліліся ёю. Трохі выручыла выдадзеная кіраўніцтвам Саўнаргаса БССР грашовая прэмія ў памеры месячнага акладу. Як бы цяжка ні было, крадзеж пакрылі. А вось трох сваіх сяброўак, для якіх службовы кабінет загадчыцы сада заўжды быў адчынены, яна назаўжды страціла. Мо і памылялася, але лічыла, што толькі хто-небудзь з іх мог «выграбці» грошы з касы кабінета, калі ён у адсутнасць гаспадыні заставаўся на некалькі хвілін адчыненым. Кожная з гэтых трох сяброўак па сваёй ініцыятыве пастараліся пагаварыць з загадчыцай пра сваю невінаватасць. Звычайна Ніна выказвала свае падазрэнні датычна Ліды і Валі, Ліда — датычна Ніны і Валі, Валя — датычна Ліды і Ніны. Пасля таго непрыемнага здарэння ніхто з іх не наведваў нашу кватэру, бо да гэтага не давала падстаў загадчыца. Выявіць злачынцу не здолелі і следчыя работнікі. У іх нават была спроба абвінаваціць загадчыцу ў інсцэніраванні крадзяжу. Не без падтрымкі кіраўніцтва Саўнаргаса БССР ад гэтай версіі следчыя вымушаны былі адмовіцца, але вінаватага так і не знайшлі.

З практыкі працы маёй жонкі ў якасці загадчыцы дзіцячага сада № 143 не магу абмінуць і такога. У першыя дні жыцця ў Мінску ёй кінулася ў вочы прысутнасць даволі значнай колькасці яўрэяў сярод яго насельніцтва. Ва Уфе ёю такога не назіралася. Мне ж, наадварот, падалося, што іх цяпер менш, чым у канцы 1940-х — пачатку 1950-х гадоў. Некалькі прадстаў-

нікоў гэтай адной з самых старажытных у Беларусі этнічнай супольнасці прыняла на працу ў свой сад. І не памылілася: са сваімі прафесійнымі абавязкамі спраўляліся бездакорна. З урачом сада Рэняй Гальперынай, яўрэйкай па нацыянальнасці, вельмі хутка завяліся сапраўдныя сяброўскія стасункі. І па сённяшні дзень памятаю, як па яе запрашэнні мы дзесьці ў раёне Юбілейнай плошчы правялі вечар у атачэнні яўрэяў, дзе ўдосталь наеліся іх нацыянальных страў, наслухаліся на іх роднай мове песень.

Яўрэі з ліку працаўнікоў дзіцячага сада, як толькі маглі, пастараліся арганізаваць для яго кіраўніцы кансультацыі ў самых кваліфікаваных гінеколагаў іх жа нацыянальнасці. Аднак, як высветлілася, прычыны бясплоднасці да такой ступені аказаліся сур'ёзнымі, што ні кансультацыі, ні лячэнне не дазволілі справіцца з гэтай так нежаданай хваробаю. Як абсталяваліся з жыллём, нам вельмі хацелася мець дзяцей.

У садзе № 143 Ефрасінні давялося выступіць у ролі сапраўднага арбітра ў даволі сур'ёзных спрэчках паміж яго ўрачом Рэняй Гальперынай і некаторымі членамі калектыву. 12 мая 1965 года ў мясцовы камітэт дзіцячага сада № 143 Саўнаргаса БССР урач Рэня Мацвееўна Гальперына звярнулася з заявай незвычайнага для савецкіх часоў зместу:

«Прошу разобрать поступок воспитательницы младшей группы Устиновой В. Н., наклеветавшей в преднамеренном подбросе в рассольник 17.04.1965 г. во время варки его на кухне ампулы в связи с тем, что как раз еврейский праздник — пасха и, по обычаю, нужна русская кровь».

Па-рознаму можна было б рэагаваць Е. Андрэевай на выкладзены ў заяве непраўдападобны факт, паабяцаўшы, што ён проста не будзе ўзяты пад увагу, і як працавала Р. Гальперына ўрачом, так і далей будзе знаходзіцца на гэтай пасадзе. Але пацярпелая жадала поўнай рэабілітацыі перад калектывам, пакарання даносчыка. У сваю чаргу не суніміліся і некаторыя выхавацелькі, патрабуючы строгіх санкцый супроць урача. У такой неардынарнай, выключна рэдкай сітуацыі ніяк не магла бяздзейнічаць кіраўнік дзіцячага сада. Смецця з хаты вырашыла не выносіць, а разабрацца самой. Калі каго і падключала збоку для парады, дык гэта толькі мяне. У абсурднасці абвінавачвання ні яна, ні я не сумняваліся, але трэба было ёй сваю пазіцыю па дадзеным пытанні выкласці перад калектывам вельмі грунтоўна, аб'ектыўна.

Мяне проста здзіўляе, што ўся выкліканая разборам заявы ўрача «пісаніна» з мая 1965 года знаходзілася дома ў асабістым архіве Е. Андрэевай. І не толькі. У ім можна знайсці амаль усё найбольш важнае з таго, што датычыла яе працы на ніве дашкольнага выхавання, у Міністэрстве

адукацыі БССР, Мінскім дзяржаўным педагагічным інстытуце, а затым у БДПУ імя Максіма Танка. Захоўваецца нават ад 1959 года санітарная кніжка. Ефрасіння, відаць, спадзявалася, што калі не я, дык нехта іншы абавязкова будзе карыстацца яе архівам. На шчасце, такое выпала мне, а не якой-небудзь пабочнай асобе.

З матэрыялаў архіва даведваемся, што ўжо на трэці дзень пасля падачы Рэняй Гальперынай заявы яна разглядалася на вытворча-прафсаюзным сходзе працаўнікоў дзіцячага сада № 143. Пратакол атрымаўся даволі грунтоўным, змяшчае выступленні большыні прысутных на сходзе. З такіх выступленняў найбольш пераканаўчым на карысць урача было ў выхавальніцы Сінюковай. Яна ніяк не магла пагадзіцца, каб Рэня Гальперына напярэдадні яўрэйскай Пасхі кінула ампулу ў кацёл, страву з якога падавалі і яе дзіцяці. На такой пазіцыі, як вынікае з унесенай у пратакол рэплікі, стаяла і загадчыца сада Е. Андрэева, заявіўшы выхавальніцы Усцінавай, што ўрач не магла кінуць ампулу ў кацёл яшчэ і таму, што «нясе адказнасць за харчблок».

У поўным сэнсе слова можна прызнаць інтэрнацыяналісцкім выступленне выхавальніцы Дубаўцовай на адрас пляткаркі Усцінавай. Прывяду некалькі сказаў: «Устае пытанне, як такі выхавацель выхоўвае дзяцей… калі так выступае супраць яўрэяў. Па-мойму, тыя часы, калі на іх было ганенне, ужо даўно прайшлі (…) Маё меркаванне: абвінаваціць чалавека (яўрэйку) у наўмысным злачынстве (падкінула ампулу ў кацёл. — *Л. Л.*) проста антысемітызм. Не ведаю, ці сумяшчальна гэта са званнем выхавацеля?»

Ход абмеркавання заявы Рэні Гальперынай (педыятр з дзевяцігадовым стажам) надаў ёй дастаткова падстаў, каб смела сказаць наступнае: «Дараваць вам (выхавальніцы Усцінавай. — *Л. Л.*) гэтага я не магу, таму што гэта не проста плётка, а наўмыснае перакананне і падбухторванне супроць яўрэяў. Вы ж жонка афіцэра, і я напішу па месцы працы вашага мужа, таму што такое не кожны выдумае. І ніколі я вам гэта не дарую, таму што гэта, як пры фашыстах».

Са справядлівымі меркаваннямі большыні ўдзельнікаў вытворча-прафсаюзнага сходу аб невінаватасці ўрача Рэні Гальперынай пагадзілася загадчыца дзіцячага сада Е. Андрэева. Прыводжу некалькі вытрымак з яе выступлення (у яго рукапісным першасным варыянце велізарная колькасць правак, што можна разглядаць як вялікую адказнасць аўтара за кожнае сваё слова): «Калі яна (Усцінава. — *Л. Л.*) прынесла ампулу мне, дык адразу сказала, што падазрае толькі Гальперыну. На гэта я ёй адказала, што такога

быць не можа. Але пасля таго, як выхавацель у другі раз так пераканаўча сцвярджала, што ампула з’явілася ў супе, я, вядома, абвінаваціла медсястру, а таксама кухарку, якую рашуча падтрымала Усцінава, разлічваючы ўцягнуць яе ў барацьбу з загадчыцай». «Я спрабавала, — працягвала сваё выступленне Е. Андрэева, — пераканаць Усцінаву, што Гальперына не вінаватая, што ўрач адказвае за якасць стравы. Пры расследаванні гэтага пытання я пераканалася, што ампула прынесена дзецьмі як цацка». Дашкольніцу Ліду падвучылі гаварыць, што ампулу яна дастала з супу, Усцінава разам з няняй, што яны выкарысталі дзеля абвінавачвання ўрача яўрэйскай нацыянальнасці ў расізме. Спробы загадчыцы сада пераканаць Усцінаву ў памылковасці такога погляду не далі станоўчага выніку, таму і цяпер яна на сходзе не жадае прасіць прабачэння ў Рэні Мацвееўны.

Улічваючы сур’ёзны характар разглядаемай плёткі Усцінавай, а таксама іншыя парушэнні ёю службовай дысцыпліны, сход пастанавіў «прасіць адміністрацыю дзіцячага сада вызваліць тав. Усцінаву ад займаемай пасады». Ці адбылося такое на практыцы, аўтару невядома. Дый гэта не самае галоўнае для маёй працы. Уся соль у тым, што калектыў дзіцячага сада № 143 без удзелу каго-небудзь з прадстаўнікоў кіраўніцтва Саўнаргаса БССР ці райкама кампартыі смела ўзяў на сябе ініцыятыву барацьбы з антысеміцкімі настроямі і правёў яе на належным узроўні.

Па розных каналах пра апісаныя вышэй падзеі ў садзе № 143 даведаліся і тыя, каму гэтая дзіцячая ўстанова належала. Паколькі ва ўсіх выпадках праўда была на баку Е. Андрэевай, аўтарытэт яе ўзрастаў, прычым не толькі сярод педагагічнай інтэлігенцыі сістэмы дашкольнага выхавання. Не раз узнагароджвалася кіраўніцтвам Саўнаргаса БССР ганаровымі граматамі за актыўную і добрасумленную вытворчую і грамадскую працу. Але самай вялікай узнагародай для нашай сям’і з’явілася выдзяленне ўлетку 1963 года аднапакаёвай кватэры ў буйнапанэльным доме ў мікраграёне Мінскага камвольнага камбіната.

## 4. ПАГЛЫБЛЯЕМ ВЕДЫ, ІМКНЁМСЯ Ў НАВУКУ

Паляпшэнне жыллёвых умоў сталася вельмі дарэчы. Канчаткова пераканаўшыся, што ў школе-інтэрнаце мне ўжо не было сэнсу працягваць працу (ад пасад завуча ці дырэктара школы катэгарычна адмовіўся), у снежні 1962 года падаўся ў сферу акадэмічнай навукі, але ў свае амаль 34 гады змог уладкавацца толькі на пасаду старшага лабаранта Інстытута

гісторыі Акадэміі навук БССР з акладам 55 рублёў у месяц, у той час, як на папярэднім месцы зарабляў 140 рублёў. Пагадзіцца на такое рэзкае змяншэнне зарплаты, думаю, змагла б далёка не кожная жонка. Мая ж пагадзілася, заўважыўшы з усмешкай:

— Ты человек неглупый, рассудительный, напористый, умеешь добиваться поставленной цели. Упущенное в зарплате сегодня — наверняка наверстаешь завтра.

І яна не памылілася. За шэсць месяцаў працы старшым лабарантам здаў усе кандыдацкія мінімумы, таму неўзабаве перавялі на пасаду малодшага навуковага супрацоўніка з месячным акладам 83 рублі.

Рыхтуючыся да здачы кандыдацкіх мінімумаў, адначасова сёе-тое рабіў па дысертацыі, прысвечанай гісторыі чыгуначнага транспарту Беларусі. Вельмі шкадаваў, што ва ўмовах невялікай аднапакаёвай кватэры не мог сядзець за кнігамі, працаваць над паперамі да позняга часу, бо гэта перашкаджала сну жонкі, якая звычайна дужа стомленай прыходзіла дамоў з працы. Атрыманая кватэра хоць таксама была аднапакаёвай, але затое з кухняй, дзе я мог, не парушаючы сну Ефрасінні, засядзецца і да поўначы. Справы з напісаннем дысертацыі пайшлі куды больш паспяхова, чаму не магла не радавацца і мая палавінка. Але аднойчы і яна мяне і здзівіла, і абрадавала нечаканай інфармацыяй:

— А ты знаешь, дорогой мой, и я не желаю отставать от жизни. Записалась и уже два раза ходила со своей подружкой на курсы по изучению английского языка. Думаю, что им я обязательно овладею, что откроет мне путь для поступления на заочное отделение аспирантуры Минского пединститута.

Я з вялікай радасцю падтрымаў такую задуму, бо не зусім прыемна назіраць было, як з-за маёй навуковай працы жонка не ведала, чым заняцца дома. А цяпер я ўжо бачыў яе больш з кнігай у руках, чым за якім-небудзь заняткам на кухні. Вельмі цешыла, што ў вольны ад працы час яна наведвала бібліятэкі і, не спяшаючыся, рыхтавала сябе да паступлення на завочнае аддзяленне аспірантуры.

Да залічэння мяне ўвосень 1962 года ў завочную аспірантуру Інстытута гісторыі АН БССР я не меў аніводнай публікацыі ў газетах ці часопісах, хаця дарам пісьмовага слова няблага валодаў. Мяркую па тым, што калі пісаў курсавыя працы, будучы студэнтам-завочнікам Башкірскага дзяржінстытута, усе яны атрымлівалі толькі станоўчыя адзнакі і нават ставіліся ў прыклад маім аднакурснікам. Таму за напісанне артыкулаў у перыядычным друку ўзяўся з вялікай упэўненасцю, што спраўлюся з гэтай задачай.

Пачатак маіх публікацый звязаны з выступленнем у жніўні 1963 года ў газеце «Советская Белоруссия» з артыкулам пра будаўніцтва першага ў рэспубліцы электрыфікаванага чыгуначнага ўчастка Мінск–Аляхновічы. Такога роду публікацыі вымагала ад мяне тэма кандыдацкай дысертацыі: «Чыгуначнікі Беларусі ў гады сямігодкі (1959–1965)». Акрамя названай публікацыі ў тым жа годзе выйшлі з друку яшчэ тры артыкулы, што зусім няблага для першага года завочнага навучання ў аспірантуры.

Не ўтойвала сваёй радасці ад маіх публікацый і Ефрасіння. Болей за тое, яны, лічу, мо, як нішто іншае, падштурхнулі і яе ўзяцца за пяро. Трохі ўжо напрактыкавалася на ніве грамадскага дашкольнага выхавання, была знаёма з некаторымі супрацоўнікамі перыядычнага педагагічнага друку. Чаму ж тады і самой не паспрабаваць выступіць у ім? І гонар, і нейкая капейчына да зарплаты, якая была невысокай і ў мяне, і ў яе. Рыхтавала артыкул на базе матэрыялаў сваёй дашкольнай установы. Ён прысвячаўся вырошчванню вазонаў з дзецьмі старэйшага дашкольнага ўзросту. Рэдакцыя часопіса «Народная асвета» ахвотна згадзілася ўзяць рускамоўны рукапіс артыкула і надрукавала яго ў трэцім нумары за 1964 год. Ад вялікай радасці Ефрасіння гатова была пусціцца ў скокі.

— Это же надо, — з усмешкай заявіла яна, — да сего времени даже строчки моей не напечатано в русской газете или журнале, а тут на тебе — целая статья в белорусскоязычном журнале. Просто невероятно, что я, русская по национальности, начала свое вхождение в печать не на родном мне, а на белорусском языке.

— Жаль, что не только ты, но и я, белорус, не в состоянии подготовить материал для периодической печати на белорусском языке, который в основном только и используется ею в своей практике. Из-за длительного отрыва от родного слова не могу пользоваться им на письме.

— Это со всех точек зрения не оправдано и нелогично, особенно для тебя. Крайне неприятно, что написанное мною на моем рабочем языке редакции необходимо переводить на белорусский. Совсем иное чувство овладевало бы мною, если бы сама написала текст по-белорусски.

— Тут у тебя, дорогая, целая уйма сложных проблем. Однако твой возраст, большое, как я твердо убедился, желание обелорусизироваться подают хорошие надежды. Будем надеяться на лучшее и всячески стремиться к нему.

І яно спадарожнічала нашай сям'і. У вольную часіну я не бачыў Ефрасінні без кнігі. Ведаў, што, калі яе няма па вечарах дома, значыцца, працуе ў бібліятэках, пераважна ва ўрадавай імя Максіма Горкага. Такое

нястрымнае імкненне да павышэння сваіх тэарэтычных ведаў самым станоўчым чынам адбівалася і на працы загадчыцы дзіцячага сада. Яе часта запрашалі выступаць на метадычных аб’яднаннях, навукова-практычных канферэнцыях дашкольных работнікаў, чаго не маглі не заўважыць кіраўнічыя асобы з Міністэрства асветы БССР. Прапанавалі працу ў яго дашкольным аддзеле, ад чаго неразумным было адмаўляцца. Улілася ў яго калектыў 13 верасня 1965 года.

## 5. СЯМЕЙНАЯ БЕЛАРУСІЗАЦЫЯ

Няўхільнае жаданне Ефрасінні ўвайсці калі-небудзь у свет вялікай навукі, стаць па-сапраўднаму высокай кваліфікацыі прафесіяналам у міністэрскім апараце не давалі жаданага эфекту з-за невалодання беларускай літаратурнай мовай. У тыя ж гады менавіта на ёй выходзілі два асноўныя міністэрскія перыядычныя выданні: «Настаўніцкая газета» і часопіс «Народная асвета». Іншым разам у сваім перакладзе іх артыкулаў на рускую мову столькі ўсяго недарэчнага наробіць, што і мне цяжка разабрацца з сэнсам тых выпісак. Яе часта выручалі калегі па працы. Балазе тады яны амаль усе добра валодалі беларускай мовай, хаця і не размаўлялі на ёй, паколькі службовае справаводства ў Міністэрстве асветы БССР вялося па-руску. Беларускую мову трэба было абавязкова вывучаць Ефрасінні, але ўсё неяк не выпадала сур’ёзна заняцца гэтай важнай, патрэбнай справай. І ўсё ж выпала, прычыну чаго трэба шукаць найперш ува мне.

Сваім тыпова беларускім прозвішчам Лыч і месцам нараджэння амаль у цэнтры беларускай этнічнай тэрыторыі — Уздзеншчына — я даволі хутка прыцягнуў да сябе ўвагу супрацоўнікаў Інстытута гісторыі АН БССР, якія, нягледзячы на мэтанакіраваную дзяржаўную палітыку русіфікацыі, вызначаліся цвёрдай нацыянальнай зарыентаванасцю, перадусім Міхаіла Біча, Васіля Тоўстага і Міхася Чарняўскага. Заўважу, што ўсе яны былі родам з былой Заходняй Беларусі. На іх частыя пытанні: «Чаму не хочаш размаўляць па-беларуску?» звычайна тлумачыў тым, што доўгі час (каля дзесяці гадоў) пражываў па-за межамі сваёй рэспублікі і роднай мовай у якасці літаратурнай ніколі не карыстаўся. Мае аб’ектыўныя тлумачэнні не браліся імі пад увагу, і яны пры любой нагодзе не пераставалі задаваць мне адно і тое ж пытанне. Не бяруся катэгарычна сцвярджаць, што толькі пад уплывам гэтых калег я пачаў усё больш і больш задумвацца пра сваю адказнасць за лёс беларускага народа, бо ўжо і тады быў цвёрда

ўпэўненым, што са стратай роднай мовы яму прыйдзе канец. Думаю, на мае моўныя паводзіны паўплывалі і іншыя фактары. Словам, дзесьці за год да маёй абароны кандыдацкай дысертацыі (адбылося гэта ў чэрвені 1966 г.) я пакрысе стаў ужываць на калідоры беларускую мову. Калі ж хто-небудзь з безнадзейна асіміляваных беларусаў крытыкаваў мяне за карэнную моўную трансфармацыю, называў белаю варонаю, я, як толькі мог, адстойваў свой выбар. Аднойчы падчас такіх дэбатаў падышоў да нас старшы навуковы супрацоўнік інстытута, кандыдат гістарычных навук Мацвей Злотнік, яўрэй па нацыянальнасці, які добра дапамог мне ўладкавацца на працу ў гэтую ўстанову. Дачакаўшыся канца спрэчак, ён адвёў мяне ўбок і ў катэгарычнай форме заявіў:

— Вы что, не в курсе языковой политики нашего государства? Не знаете, как оно смотрит на национальные языки? Да еще перед защитой кандидатской диссертации! Даже если состоится защита, я вам не советовал бы разговаривать в нашем коллективе на белорусском языке. Оставьте его лучше для домашних разговоров.

Такая сур'ёзная размова са старэйшым калегам (дарэчы, перад вайной і некалькімі гадамі пазней ён працаваў у органах пракуратуры) не магла не падзейнічаць на мяне, асабліва па публічным выкарыстанні беларускай мовы. Але варта было абараніць кандыдацкую дысертацыю, дык адразу ўсё крута перамянілася. Ужо не пад чужым, а пад уласным уплывам прыйшоў да высновы, што гэта ж проста не лагічна: належаць да навукоўцаў-гісторыкаў і не валодаць, не карыстацца спрэс — і дома, і на працы — роднай мовай свайго народа. Неназаву даты таго знакавага ў маім жыцці дня, але з працы ішоў дамоў толькі з адной-адзінай думкай у галаве, як карэнным чынам змяніць моўную сітуацыю ў сям'і, не закрануўшы пачуцці, гонар дарагой мне рускай жонкі. Ад некаторых сваіх калег не раз чуў, як непрыхільна ставяцца іх жонкі да спробаў усталяваць за норму бытаванне ў сям'і сваёй роднай беларускай мовы, галоўным чынам з-за моцнай заклапочанасці, што гэта негатыўна адаб'ецца на рускамоўным развіцці іх дзяцей, а адсюль і на іх паспяховасці ў школе. Ведаў адзін недарэчны выпадак, калі па гэтай прычыне нават распалася сям'я. А ў мяне ж, сам сабе думаю, жонка руская. Але я не ўзяў пад увагу гэты фактар і, як толькі зайшоў у кватэру, спакойным, упэўненым голасам прамовіў:

— Мая дарагая, з сённяшняга дня ў нашай кватэры ўжо больш не пачуеш ад мяне аніводнага рускага слова. Я цвёрда вырашыў у сваёй навуковай дзейнасці, зносінах з калегамі на працы, у сям'і выкарыстоўваць толькі

беларускую мову, для чаго, як досыць добра пераканаўся, у мяне нестае ні неабходнага запасу слоў, ні практыкі правільнага маўлення. З гэтымі цягам многіх гадоў усталяванымі хібамі нідзе так зручна не выпадае змагацца, як у хатніх умовах, дзе цябе ніхто не чуе, акрамя самых блізкіх людзей.

— О, как ты своим мудрым решением обрадовал меня, — з лёгкай усмешкай на твары сказала Ефрасіння. — Я и сама не раз задумывалась над тем, как получить хотя бы самые элементарные навыки устной разговорной белорусской речи. Сейчас я уверена, что получу, поскольку буду находиться рядом с таким обеспокоенным учителем, как Леня. Только ты не будь уж очень строг со своей ученицей. Не забывай, что ей идет 35-й год, и лучшее время для изучения языков безвозвратно упущено.

Пасля пачутых слоў я ад радасці быў на сёмым небе, бо вельмі ж ужо не хацелася мець з-за гэтага скандал з дарагім, каханым чалавекам. А такое магло быць у жыцці, бо ад цвёрдай, глыбока ўсвядомленай думкі стаць беларускамоўным навукоўцам нішто не магло адарваць мяне. Дзякаваць Богу, я знайшоў поўнае разуменне ў сям'і, за што нізка кланяюся, апускаюся на калені перад памяццю аб сваёй незабыўнай любай Ефрасінні.

У нас не было прылады запісаць на плёнку размовы, што ад таго знакавага дня вяліся ў нашай кватэры. З якім задавальненнем я — а можа, і мае сябры — слухалі б сённяшнюю моўную трасянку. Павінен прызнаць, што авалодванне вуснай беларускай мовай надзвычай цяжка давалася маёй жонцы — філолагу па адукацыі. У значнай ступені перашкаджала характэрная ёй ад прыроды сарамлівасць. Калі яна на што-небудзь адважвалася, дык толькі будучы да канца ўпэўненай, што гэта падуладна ёй. Складаны працэс авалодвання вуснай беларускай мовай не паддаваўся гэтаму. І ўсё ж дзесьці праз месяц з дзесяці прамоўленых Ефрасінняй у хатніх умовах слоў хоць адно-два былі беларускімі. Часам устаўляліся яны не да канца ўсвядомлена і вымаўляліся неяк зусім не так, як гэта рабілася прыроднымі носьбітамі беларускага слова.

Мой беззваротны прафесійны і наш сямейны пераход на беларускую мову вымагалі перагледзець кола знаёмых, якія па самых розных прычынах наведвалі нашую кватэру, найчасцей прыходзілі проста ў госці. Зрабіў такую карэкціроўку з той мэтай, каб у час застолля іх руская мова не выбівала беларускую, а наадварот, каб апошняя панавала над першай, што будзе добрай школай для гаспадыні кватэры па засваенні ёю беларускай мовы. Праблему з гасцямі лёгка вырашылі, а вось смеласці гэта нікольні не надало Ефрасінні. Віной усяму гэтаму, як ужо зазначалася вышэй, з'яўлялася яе прыроджаная сарамлівасць. У прысутнасці чужых

людзей у яе з беларускай мовай атрымлівалася на парадак горш, чым як мы былі ў кватэры ўдваіх. Я ж у гэтым пытанні не адступаў ад жонкі ні на крок. Асабліва настойваў замест прынятых падчас застолляў рускіх словазваротаў ужываць беларускія: «Калі ласка», «Пакаштуйце», «Смачна», «Дзякуй», «Да пабачэння» і інш. Сёе-тое стала атрымлівацца, але не так, як у адсутнасць гасцей, перад якімі, як беларускамоўнымі, адчувала занадта вялікую адказнасць. Першым пачуў ад яе гэтыя беларускія словазвароты наш шчыры сямейны сябар Уладзімір Содаль. Другім быў мой глыбокапаважаны калега Васіль Тоўсты.

Бясконца абрадавала мяне, калі Ефрасіння ў мэтах хутчэйшага пераадолення сваёй беларускамоўнай непісьменнасці падпісалася на «Настаўніцкую газету» і часопіс «Народная асвета». Часам слухаючы, як яна, не ўмеючы, з вялікімі хібамі ў вымаўленні ўголас чытала што-небудзь з гэтых перыядычных выданняў, у мяне ўтвараўся камяк у горле, на вочы набягалі слёзы, бо баяўся, каб яна не адмовілася ад гэтай задумы з-за такіх цяжкасцяў. Каб заахвоціць да чытання беларускамоўных твораў, купіў ёй паасобнай кніжкай паэму Якуба Коласа «Новая зямля». На другі ці трэці дзень ужо пачалося знаёмства з яе зусім не мудрагелістым зместам, затое вельмі сакавітай прыгожай мовай. Практычна толькі паасобныя словы і выразы прасіла перакласці. У маёй жонкі быў незвычайна прыгожы, проста непаўторны смех, што не раз падкрэслівалі нашыя сябры і знаёмыя. Але так, як яна смяялася, чытаючы паэму «Новая зямля», я яшчэ ніколі не чуў. Не наслухацца было. А тым часам у голаў прыйшла трывожная думка: «Ефрасіння ж са смехам вывучае беларускую мову. Ці сур’ёзна ўсё гэта?» Як неўзабаве пераканаўся: сур’ёзна. Пасля неаднаразовага прачытання (часцей за ўсё ўголас) «Новай зямлі» ў нашай кватэры ўсё часцей і часцей пачалі з’яўляцца беларускія кніжкі. Зразумела, купляў, прыносіў іх дамоў, чытаў не я.

У мяне была свая, даволі эфектыўная метода авалодвання беларускай мовай. Дый часу не шкадаваў на гэта. У 1967 годзе ўжо нават асмеліўся выступіць па напісаным тэксце ў якасці неафіцыйнага апанента па абароне кандыдацкай дысертацыі па гістарычнай праблематыцы, чым здзівіў многіх членаў Савета па абароне дысертацый АН БССР (такое ж ужо гадамі не практыкавалася!), у тым ліку і яго старшыню акадэміка-сакратара Аддзялення грамадскіх навук АН БССР, паэта Пятра Глебку. Даведаўшыся ад членаў Савета, што я, як і ён, родам з Уздзеншчыны, абмяняўся пасля абароны дысертацыі са мной некалькімі словамі і дазволіў пры любой нагодзе без стуку ўваходзіць у яго кабінет. Во якой сілішчай

стала для нас родная беларуская мова! Некалькі разоў для візіту такая нагода з радасцю выкарыстоўвалася. Шкада, што ранняя смерць (1969) майго глыбокапаважанага земляка не дазволіла ўсталявацца паміж намі цесным творчым сувязям.

## 6. ПАВАЖАЦЬ НАЦЫЯНАЛЬНАЕ ВУЧЫЛІСЯ Ў СУСЕДЗЯЎ

Займаемая пасада ў рэспубліканскім апараце дашкольнага выхавання адкрыла для маёй жонкі шырокія магчымасці знаёміцца з практыкай працы такога роду перадавых дзіцячых устаноў Масквы, а самае галоўнае — многіх саюзных рэспублік. Даволі часта і ў Мінску штосьці ладзілася па арганізацыі сустрэч з іх дашкольнымі работнікамі. З боку апошніх найбольш пытанняў мелася датычна моўнага развіцця беларускіх дзяцей. Яно не здзіўляла толькі тых, хто прыязджаў з Масквы, Ленінграда, Свярдлоўска і іншых гарадоў Расійскай Федэрацыі з іх тыпова рускім укладам жыцця. Затое прадстаўнікі ад саюзных рэспублік ніяк не маглі згадзіцца з непераканаўчымі тлумачэннямі адказных работнікаў дашкольнага выхавання рэспублікі Беларусь прычын амаль поўнай адсутнасці яе роднай мовы ў дзіцячых садах. Як дашкольныя работнікі з іншых рэспублік ні стараліся пачуць ад нашых дзетак іх родную мову, гэтага ніяк не ўдавалася. Звычайна самыя вольныя ад шкоднага ўздзеяння на душы людзей заганнай палітыкі КПСС педагогі саюзных рэспублік устрымліваліся ад хвалебных слоў пры падвядзенні вынікаў свайго візіту ў Беларусь, што ніколькі не турбавала працаўнікоў дашкольнага аддзела. А вось дэлегацыя Францыі аднойчы прымусіла іх як след пахвалявацца. Яе кіраўнік у першы дзень візіту выказаў пажаданне наведаць у сталіцы рэспублікі не абы-які там сад, а па-сапраўднаму нацыянальны, беларускамоўны. Відаць, выязджаючы яшчэ з Францыі, добра ведаў, што яго няма ў Мінску. Паабяцалі зрабіць такое праз два-тры дні, перад самым ад’ездам французаў дамоў. Слова стрымалі, толькі такі сад давялося адшукаць не ў Мінску (тут яго і днём з агнём не маглі б знайсці), а дзесьці ў раённым цэнтры Гродзенскай вобласці. Хадзілі чуткі, што ў гэты сад паназвозілі дзяцей і запрасілі выхавацелек з вясковых дзіцячых садоў, дзе і сапраўды збольшага панавала беларуская мова, галоўным чынам, дзякуючы таму, што дзяржаўная палітыка русіфікацыі яшчэ цалкам не адкрала родную мову ў насельніцтва сельскай мясцовасці і яго дзетак проста ніяк не вы-

падала ўзгадоўваць на чужой, недаступнай ім рускай мове. Усяго гэтага да тонкасцяў не разумела французская дэлегацыя, і не выключана, што па прыездзе ў сваю краіну магла сцвярджаць, што самыя юныя пакаленні беларусаў цалкам не пазбаўленыя магчымасці развівацца ў адпаведнасці з уласнымі нацыянальнымі культурна-моўнымі традыцыямі.

Я не ставіў перад сабой мэту пераканаць Ефрасінню ў заганнасці, шкоднасці такога антынацыянальнага выхавання і навучання дзяцей у беларускіх дашкольных установах. І сябе поўнасцю апраўдваю, бо да такой вельмі правільнай высновы паступова, глыбока абдумана, узважана прыходзіла і яна, што мяне вельмі радавала, абнадзейвала, што недалёкі той час, калі яна зразумее поўную неадпаведнасць працы нашых дашкольных устаноў святому беларускаму, нацыянальнаму інтарэсу. І хоць гэта ніколькі не магло зрушыць з месца развязванне дадзенай праблемы, няхай, думаў, ведае, што яна ёсць і што за яе ніхто не бярэцца.

Дзесьці ўлетку 1965 года Ефрасіння з крайне прыгнечаным настроем вярнулася дамоў з Рыгі. У гэты прыгожы горад яна разам з іншымі педагогамі вазіла дзяцей для ўдзелу ў конкурсе-аглядзе мастацкай самадзейнасці. З вопытнымі артыстамі-прафесіяналамі два месяцы да паездкі штудзіравалі дзяцей, і ўсе былі проста ў захапленні ад іх майстэрства. У Рыгу ехалі, як на вялікае свята, у моцным спадзеве, што вернуцца дамоў калі не пераможцамі, дык вельмі здольнымі выканаўцамі ва ўсіх жанрах мастацкай самадзейнасці, што былі прадугледжаны праграмай. Выступленні дзяцей доўжыліся два дні. Са слоў Ефрасінні, вынікамі беларусаў, мяркуючы па апладысментах, радаваліся і самі дзеці, і дарослыя. Аднак гэтая радасць ураз праваліласся пад зямлю, калі само журы стала аналізаваць выступленні дзяцей. Яно прызнала, што беларускія дашкаляты ўмеюць і спяваць, і скакаць, і вершы дэкламаваць, толькі ўсё гэта амаль такое, як і ў іх аднагодкаў з Расійскай Федэрацыі. Заяўлялася, што ў выступленнях дзяцей з Беларусі журы не ўбачыла нічога нацыянальнага, адметнага ад рускага, што зусім не характэрна дзіцячым калектывам з усіх астатніх саюзных рэспублік.

Не адрываючы вачэй ад бязрадаснай Ефрасінні, працягваю далей уважліва слухаць інфармацыю пра тую няўдалую паездку. Старшыня журы (латышка), гледзячы ў бок Ефрасінні, заявіла, што пры ўсёй павазе да нашых блізкіх і дарагіх суседзяў-беларусаў мы ніяк не маглі ўзняць іх вышэй за апошняе месца. Спадзяёмся, што кіраўніцтва дашкольнага аддзела Міністэрства асветы БССР зразумее прычыны такой няўдачы

і ў чарговы раз ужо ў сталіцы якой-небудзь іншай саюзнай рэспубліцы беларускія дзеткі заваюець жаданае для сябе месца.

Кіраўнікі беларускай дзіцячай дэлегацыі не сталі аспрэчваць цалкам справядлівае рашэнне журы, а каб не псаваць настрой дзецям, узялі вялікі грэх на сваю душу, сказаўшы, што ім прысудзілі трэцяе месца. Паведамляла мне жонка пра ўсё гэта ледзь не са слязамі на вачах.

Падобныя мерапрыемствы, як правіла, заканчваліся нават і сярод жанчын застоллем з мінімальнай дозай спіртнога. Ад гэтай нікім зверху не ўзаконенай і не забароненай акцыі не маглі адступіць заўжды надзвычай гасцінныя латышы. Як след падсілкаваных гаспадароў і гасцей пацягнула да спеваў. Па прапанове нядаўняй старшыні журы кожная з дэлегацый ад Расійскай Федэрацыі і саюзных рэспублік меліся праспяваць па адной песні. У якасці іх выбіраліся толькі на роднай мове. Прысутныя з вялікім задавальненнем слухалі, надзяляючы гучнымі апладысментамі, песні, выкананыя латышамі, эстонцамі, кіргізамі, туркменамі, азербайджанцамі… Не ў прыклад ім беларусы выканалі штосьці з рэпертуару Людмілы Зыкінай і, вядома ж, на рускай мове. Апладзіравала ім пераважна толькі дэлегацыя з Расійскай Федэрацыі. Настрой беларускіх работнікаў дашкольнага выхавання ад той злашчаснай паездкі ў Рыгу быў страшэнна прыгнечаным. Сорамна было не толькі за дзяцей, але і за саміх сябе. На радзіме нікольні не зведвалі б такога сораму, бо тут усё рускае ў практыцы дашкольных устаноў ужо не першы год разглядалася больш важным, перспектыўным за сваё нацыянальнае беларускае.

Паездка ў Рыгу не раз станавілася прадметам сур’ёзнай гаворкі ў калектыве дашкольнага аддзела Міністэрства асветы БССР. Нарэшце прыйшлі да высновы, што дзяцей нейкім чынам трэба далучаць да набыткаў нацыянальнай культуры, каб Беларусь не выдзялялася «белай варонай» сярод іншых саюзных рэспублік, якія, нягледзячы на русіфікатарскую палітыку Маскоўскага Крамля, усё ж узгадоўвалі свае маладыя пакаленні ў нацыянальным духу. Вярнуць такі дух у сцены дзіцячых садоў Беларусі сталася вельмі няпростай справай, галоўным чынам з-за няздольнасці многіх выхавацеляў працаваць у родным культурна-моўным рэчышчы. Сур’ёзнай падтрымкі ў набыцці неабходнага матэрыялу не знайшлі ў акадэмічных навукоўцаў, якія займаліся даследаваннямі розных пытанняў беларускай народнай творчасці. Атрыманыя маёй жонкай матэрыялы ад супрацоўнікаў Інстытута этнаграфіі, мастацтвазнаўства і фальклору, Інстытута літаратуры Акадэміі навук БССР не маглі ў поўным аб’ёме задаволіць патрэбы дашкольных устаноў па арганізацыі працы з дзецьмі

так, каб дапамагчы ім узгадоўвацца сапраўднымі нацыянальнымі патрыётамі. Цалкам падзяляю думку Ефрасінні, што ўсё ж галоўнай перашкодай, якая не дазваляла дзецям адпавядаць такім якасцям, з'яўлялася адсутнасць ужо ў самога беларускага народа адпаведных для гэтага ўмоў, асабліва ў гарадской мясцовасці. Тут практычна спрэс панаваў рускі дух, і захаваць дзяцей дашкольнага ўзросту ад яго ўплыву, рабіць іх у такіх неспрыяльных варунках беларусамі было проста немагчымым. Дый на гэта, справядліва заўважала яна, не пайшла б абсалютная бальшыня бацькоў, па-першае, з-за вялікай дозы атрыманай імі самімі не па сваёй волі русіфікацыі, па-другое, неабходнасць уладкавання дзяцей з нацыянальных дзіцячых садоў у рускамоўныя школы. Чагосьці пазітыўнага ад усталяванай у краіне антынацыянальнай сістэмы адукацыі грамадства не магло дамагчыся.

Усяго гэтага Ефрасінні не ўдалося б зразумець, калі б яна не працавала ў рэспубліканскім апараце дашкольнага выхавання, калі б не рыхтавала дысертацыі па гісторыі гэтага першапачатковага звяна народнай адукацыі. Прафесійнае сталенне, паглыбленне тэарэтычных ведаў, а галоўнае — даволі выразная заклапочанасць жонкі недаацэнкай партыйна-савецкімі органамі, кіраўніцтвам Міністэрства асветы БССР ролі нацыянальнага фактару ва ўзгадаванні маладых пакаленняў не маглі не радаваць мяне, і яшчэ асабліва таму, што гэтую занепакоенасць выказвала асоба небеларускай нацыянальнасці. Не раз прыходзіла ў галаў думка, каб падобных людзей з некарэннага насельніцтва рэспублікі ў нас было паболей, мо тады не такія цяжкія наступствы чыніла б нашай культуры русіфікацыя. Беларусы ж з прычыны сваёй шматвяковай прыгнечанасці чужымі палітычнымі рэжымамі развучыліся ці баяцца смела падаць голас у сваю абарону.

## 7. ДАСЯГНЕННІ І НЯЎДАЧЫ ЕФРАСІННІ НА ШЛЯХУ ДА КАНДЫДАТА НАВУК

Паглыбленне ведаў Ефрасінні па беларускай мове заканамерна спрыяла здзяйсненню яе жадання быць больш дасведчанай у пытаннях гісторыі, народнай адукацыі і нацыянальнай культуры Беларусі, што мною ўсяляк падтрымлівалася. І не дарэмна, бо без усяго гэтага наўрад ці ўзнікла б у жонкі жаданне ўзяцца за напісанне кандыдацкай дысертацыі па гісторыі дашкольнага выхавання Беларускай ССР у пасляваенныя гады (1946–1970). Без праблемы ўдалося адшукаць і кіраўніка па правядзенні такога

даследавання. Ім стаў багатага прафесійнага досведу нядаўні намеснік міністра асветы БССР, а з 1964 года — загадчык кафедры педагогікі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта Сцяпан Умрэйка. Як на практыцы вырашалася праблема пасляваеннага аднаўлення і развіцця дашкольнага выхавання, ён добра ведаў, бо нават ужо ў першыя месяцы пасля вызвалення ўсходніх раёнаў Беларусі ад нямецкіх захопнікаў (з восені 1943 года) знаходзіўся на пасадзе намесніка наркама асветы БССР. Маючы такога добра дасведчанага кіраўніка па кандыдацкай дысертацыі, грэх было б не напісаць яе. Аднак даводзілася ўвесь час памятаць: да кіраўніка ніяк нельга было ісці з сырымі, на скорую руку напісанымі тэкстамі. Працавала над імі з надзвычай вялікай адказнасцю, іншым разам амаль да 12-й гадзіны ночы, чаго я зусім не ўхваляў. Не рэкамендаваў і рваць на кавалкі свежанапісаныя тэксты, калі яны падаваліся ў чымсьці недасканалымі. Раіў такое рабіць праз два-тры дні пасля паўторнага прачытання.

Ходам працы над кандыдацкай дысертацыяй разам з яе аўтарам быў бясконца задаволены і я. Нас радавала, што сур'ёзных прэтэнзій адносна напісаных да дысертацыі тэкстаў не меў і С. Умрэйка. Болей за тое, ён не шкадаваў слоў на пахвалу яе аўтара, не раз казаў, што азнаямленне са зместам дысертацыі выклікае ў яго, да самых дробных падрабязнасцей, успаміны пра тыя цяжкія пасляакупацыйныя месяцы, калі даводзілася тэрмінова рабіць такія нялёгкія крокі па аднаўленні дашчэнту разбураных дашкольных устаноў, ствараць у іх па магчымасці нармальныя ўмовы для арганізацыі педагагічнага працэсу, працы з дзецьмі.

Радавала, што ў Ефрасінні ўсё добра ладзілася з публікацыямі па тэме дысертацыі, у чым, прызнаюся, і мая немалая заслуга, бо меў прыяцельскія сувязі з супрацоўнікамі рэдакцый шэрагу газет і часопісаў. З надрукаваных да абароны дысертацыі артыкулаў пералічу наступныя: «Развіццё сеткі дашкольных устаноў у пасляваенныя гады» (Народная асвета. 1968. № 11), «Подготовка и повышение квалификации педагогических кадров дошкольных учреждений» (У зб.: Вопросы истории: тезисы докладов XII конференции молодых ученых Белорусской ССР. 1969. Лістапад), «Пераемнасць у выхаваўчай працы перадддашкольных і дашкольных груп» (Народная асвета. 1970. № 8). Значная колькасць артыкулаў была надрукавана ў Беларускай Савецкай Энцыклапедыі, а таксама ў «Блокноте агитатора» (партыйны орган).

Друкаванай прадукцыі па тэме кандыдацкай дысертацыі хапала, каб выйсці з ёю на абарону. Заставалася толькі аформіць некаторыя патрэбныя для гэтага дакументы, у тым ліку і службовую характарыстыку (складзена

10 чэрвеня 1971 г.). Вось на ёй то акаяннай нечакана і «апёкся» дысертант. Сфабрыкавалі такую, што з ёю нельга было б прэтэндаваць нават на заняцце пасады настаўніка пачатковых класаў.

У асабістым архіве Ефрасінні, надзвычай акуратнай па сваім стаўленні да захавання рознай дакументацыі, мне ўдалося адшукаць копію той характарыстыкі, якую проста ніяк нельга не выкарыстаць у дадзенай публікацыі.

«Характеристика Минпроса БССР на инспектора по дошкольному воспитанию Андрееву Е. Г.

Андреева Е. Г. в должности инспектора по дошкольному воспитанию работает с 10 сентября 1965 года. Имеет хорошую теоретическую подготовку… Работу дошкольных учреждений знает. Вместе с тем инициативы и старания в работе не проявляет, отдельные поручения выполняет недобросовестно и небрежно, неуживчива в коллективе, держит себя высокомерно, авторитетом среди работников аппарата не пользуется. Свои личные интересы ставит выше общественных. От предложенной работы в НИИП (Научно-исследовательский институт педагогики. — *Л. Л.*; в этом месте характеристики рукой Е. Андреевой написано, что с нею не было никакого разговора о таком переходе) отказалась, заявив, что будет работать там, где ее лично больше устраивает. К выполнению общественных поручений относится недобросовестно, болезненно реагирует на критические замечания».

Ад імя кіраўніцтва Міністэрства асветы БССР характарыстыку падпісаў намеснік міністра Фёдараў, ад партыйнай арганізацыі — Васілеўская, прафсаюзнай — Лісоўскі.

Першы з падпісантаў характарыстыкі нядоўга пратрымаўся на сваёй пасадзе. Працоўны шлях працягваў у якасці дацэнта ў Мінскім педінстытуце, не раз сустракаўся ў яго сценах з доктарам педагагічных навук, прафесарам Ефрасінняй Георгіеўнай Андрэевай. Падчас такіх сустрэч адчуваўся сябе вельмі няёмка. Зразумела, з-за дачыненняў — няхай сабе і ўскосных — да той «ліпавай» характарыстыкі на Е. Андрэеву. Каб зняць усялякі негатыў ад такіх сустрэч, яна першай нагадала былому намесніку міністра асветы пра тую недарэчную сітуацыю, сказаўшы, што сёння не мае да яго аніякай крыўды. Дацэнт Фёдараў дужа абрадаваўся ад пачутых слоў і пры чарговых сустрэчах колішнюю, незаслужана пакрыўджаную і ім ахвяру заўжды абдаваў усмешкаю.

Ефрасіння добра разумела прычыну выдачы ёй фіктыўнай службовай характарыстыкі. Загадчыца дашкольнага аддзела Міністэрства асветы БССР Іраіда Фаміцкая паталагічна баялася высокаэрудзіраваных, аўтарытэтных сярод педагагічнай інтэлігенцыі людзей, усяляк старалася пазбавіцца ад тых, хто мог бы рэальна прэтэндаваць на яе пасаду. У маёй жонкі такіх якасцяў хапала. Праўда, яна ніколі не імкнулася выбіцца ў кіраўнікі, але гэтаму не магла ці не жадала паверыць яе начальнік.

Непрадбачанае, незаслужанае фіяска са службовай характарыстыкай моцна паўплывала на наш настрой. Аднак Ефрасіння адважылася зрабіць візіт да міністра асветы БССР Міхаіла Мінкевіча. Сустрэў вельмі непрыязна і амаль даслоўна пераказаў змест той праклятай характарыстыкі, з-за чаго наведвальніца да высокай кіраўнічай асобы не стрымалася і горка расплакалася, чаго, здавалася б, ніколі не павінна быць у апартаментах такога міністэрства.

Без усялякай падказкі збоку мы зразумелі, што ў штаце дашкольнага аддзела Міністэрства БССР не месца Ефрасінні, што існы кіраўнік яго (аддзела) ні за што не пагодзіцца і праз год даць станоўчую характарыстыку. Стаў у знаёмых свайго інстытута даведвацца, хто з іх мог бы нам дапамагчы. Наткнуўся і на такога, хто па партыйна-савецкай рабоце быў добра знаёмы з міністрам. Па маёй просьбе у іх адбылася размова, але безвыніковая: міністр не жадаў адмяняць тое, што росчыркам яго пяра набыло юрыдычную сілу. Параілі і мне наведаць міністра, спаслаўшыся на тое, што ў яго яшчэ да канца не страчана павага да ўсяго нацыянальнага, і ты сваёй беларускай мовай выклічаш у яго не толькі павагу да сябе, але штосьці добрае здабудзеш і для жонкі. Мае дарадчыкі не памыліліся. У цэлым у нас адбылася вельмі карэктная размова. У час яе дзе-нідзе і міністр устаўляў беларускае слова, не дазволіў нікому зайсці ў свой кабінет падчас майго візіту. Што ж датычыць жончынай справы, тут ён заставаўся пры сваім рашэнні, але пры развітанні крыху абнадзеіў, сказаўшы: «Давайце трохі пачакаем».

Гэтыя «трохі» доўжыліся тыднямі, месяцамі, толькі псуючы наш сямейны настрой. Моцна затурбаваліся няўдачлівым лёсам Ефрасінні і шматлікія яе знаёмыя, калегі з дашкольнага свету. Па сваёй ініцыятыве, без атрымання згоды ад незаслужана пакрыўджанай, яны склалі на адрас ЦК КПБ падрабязны ліст з пералікам усіх галоўных заслуг Ефрасінні Андрэевай на ніве дашкольнага выхавання рэспублікі. Рабіліся — але безвынікова — спробы наведаць каго-небудзь з кампетэнтных работнікаў рэспубліканскага партыйнага апарату. Як неўзабаве высветлілася, гэтая

ініцыятыва толькі нашкодзіла справе. Міністр адукацыі страшэнна разлютаваўся, што вонкі вынесена смецце з яго апартаментаў, і неадкладна прыняў рашэнне аб пераводзе з 1 лістапада 1971 года Е. Андрэевай на пасаду малодшага навуковага супрацоўніка Навукова-даследчага інстытута педагогікі Міністэрства асветы БССР. Здавалася б, загадчыцы дашкольнага аддзела І. Фаміцкай трэба было толькі радавацца такім вырашэннем пытання і далей не чыніць аніякай перашкоды чалавеку, які мэтанакіравана імкнецца ў навуку. Як толькі падпісалі загад на звальненне і аформілі перавод Е. Андрэевай у НДІ педагогікі, варожыя ёй сілы імгненна звярнуліся да кіраўніцтва гэтай установы з просьбай любой цаной не дапусціць яе працаўладкавання. І яно пагадзілася, спаслаўшыся, што ў Інстытуце пакуль што няма вакансіі. Жонку гэта моцна ўсхвалявала, а я быў выключна спакойны, бо ў той час НДІ педагогікі ўзначальваў не які-небудзь партыйны, савецкі функцыянер, а добра вядомы ў рэспубліцы беларускі літаратуразнаўца, доктар філалагічных навук Васіль Івашын. Пры маім жаданні на яго маглі б выйсці і прасіць за Е. Андрэеву чалавек 5–7 з навуковых работнікаў Інстытута літаратуры АН БССР, дзе больш за дваццаць гадоў працаваў В. Івашын. Але я вырашыў нікога не прасіць і самому наведаць яго. За дзесяць-пятнаццаць хвілін не толькі станоўча вырашылі пытанне з працаўладкаваннем маёй жонкі, але і некалькімі словамі перакінуліся дзеля аналізу іншых надзённых праблем, пераважна незайздроснага стану нацыянальнай культуры, мовы.

Ефрасіння Андрэева вельмі хутка і лёгка акліматызавалася ў зусім новым для яе калектыве. Ад многіх не раз чула шчырыя словы спачування за ўсё, што давялося незаслужана перажыць у дашкольным аддзеле Міністэрства асветы БССР. Хуткай акліматызацыі паслужыла і тое, што ў калектыве НДІ педагогікі працавала нямала маіх сяброў і знаёмых, моцна заклапочаных няспынным разбурэннем нацыянальных асноў народнай адукацыі. Як яны хутка зразумелі: да ўсяго гэтага не была абыякавай і мая жонка, што толькі павышала яе аўтарытэт сярод калег. На далейшае ўмацаванне зарыентаванасці маёй жонкі на беларускасць у сістэме адукацыі ў найбольшай ступені паўплывалі В. Протчанка, Я. Лаўрэль, Т. Куцанава, В. Варапаева. На яе карысць пайшло, што партыйную арганізацыю ў Інстытуце педагогікі ўзначальваў Міхаіл Абраменка, паколькі я меў самае непасрэднае дачыненне да абароны ім кандыдацкай дысертацыі. Пашчасціла і тое, што аддзел, у якім працавала Ефрасіння, узначальвала мая зямлячка з Язвінаў (знаходзіцца за тры кіламетры на захад ад Магільнага) Галіна Сянькевіч. Як былая партызанка, яна смела адстойвала,

дзе толькі трэба, не толькі ўласныя, але і інтарэсы сваіх супрацоўнікаў. І ў мяне, і ў Ефрасінні не існавала аніякіх сумненняў, што пасля года працы ў гэтым інстытуце яна абавязкова атрымае станоўчую службовую характарыстыку і зможа выйсці на абарону кандыдацкай дысертацыі. Практыка такое цалкам пацвердзіла. 14 красавіка 1972 года на пасяджэнні савета Мінскага дзяржаўнага педагагічнага інстытута імя Максіма Горкага яна паспяхова абараніла кандыдацкую дысертацыю па тэме «Развіццё грамадскага дашкольнага выхавання ў Беларускай ССР у 1945–1970 гг.» Апанентамі былі прадстаўнікі з Масквы і Растова-на-Доне, на якіх ніяк не маглі паўплываць работнікі дашкольнага аддзела Міністэрства асветы БССР. Не хапіла ў іх смеласці схіліць на свой бок і неафіцыйнага апанента Галіну Сянькевіч, добра ведаючы яе незалежніцкі характар, выключную справядлівасць, калі справа датычыцца чаго-небудзь прынцыпова важнага. Абарона прайшла на належным узроўні. Праўда, аўтар дысертацыі моцна хвалявалася, што не магло ў нейкай ступені не падзейнічаць і на мяне. Той дзень (14 красавіка) і папярэдні яму вызначаліся высокай сярэднядзённай тэмпературай — плюс 17 градусаў. Усе людзі хадзілі па-летняму адзетымі. Апанент з Растова-на-Доне, як толькі выйшла з вагона, адразу зняла з сябе дэмісезоннае паліто, якое я з ахвотай нёс да самага гардэроба Мінскага дзяржаўнага педінстытута. Затое ў дзень ад'езду (15 красавіка) растаўчанцы ніколькі не было лішнім тое паліто.

## 8. У ІПАСТАСЯХ ПЕДАГОГА, НАВУКОЎЦА, ПУБЛІЦЫСТА

Ефрасіння, як гэта здараецца з усімі пасля паспяховай абароны дысертацыі, была на сёмым небе ад вялікай радасці. І як тут і сапраўды не быць на ўзлёце, калі не толькі сцвердзілася ў навуцы, але і прымусіла, калі не ўсіх, дык большыню сваіх нядобразычліўцаў прызнаць паражэнне, адмовіцца ад далейшага цкавання невінаватага чалавека. Адкрыліся спрыяльныя ўмовы для плённай навуковай дзейнасці. І яны з належнай аддачай выкарыстоўваліся. Радавалі прыязныя, добразычлівыя дачыненні з калегамі па працы. Ніякіх прэтэнзій не мела з боку кіраўніцтва інстытута. Толькі працуй і радуйся жыццю. За актыўны ўдзел у Рэспубліканскіх педагагічных чытаннях, прысвечаных 50-годдзю ўтварэння СССР (адзначалася ў 1972 г.), дырэкцыя НДІ педагогікі ўзнагародзіла Ефрасінню Андрэеву Ганаровай граматай. Так жаданая ступень кандыдата педагагічных навук,

актыўная грамадска-асветніцкая дзейнасць зрабілі Ефрасінню дастаткова вядомай і за межамі інстытута педагогікі. Уважліва прыглядваліся, а затым пачалі настойліва запрашаць яе на працу на кафедру дашкольнай педагогікі Мінскага педінстытута. Доўга вагалася з пераходам, бо Інстытуту педагогікі, як ніякай іншай навуковай, навучальнай установе, была абавязана выхадам на абарону кандыдацкай дысертацыі. Ведала, што яе кіраўніцтва не будзе вітаць пераход на сталую выкладчыцкую працу. І ўсё-такі ён адбыўся. З кастрычніка 1973 года больш як на трыццаць пяць гадоў звязала свой лёс са сталічным педагагічным інстытутам. Спачатку працавала выкладчыкам, а затым знаходзілася на пасадзе дацэнта кафедры дашкольнай педагогікі, а з 1980 года — на кафедры агульнай педагогікі. Вучонае званне дацэнта прысвоілі ў 1976 годзе. Хаця змена працы патрабавала шмат часу на падрыхтоўку лекцый, ніколі не забывалася пра напісанне навуковых, навукова-папулярных артыкулаў у часопісы і газеты. Несумненнай удачай Ефрасінні трэба прызнаць яе выступленне на старонках перыядычнага педагагічнага выдання Расійскай Федэрацыі «Дошкольное воспитание» з артыкулам «В те грозные годы» (1975. № 5). У наступным годзе з артыкулам «Сацыяльная палітыка Савецкай дзяржавы ў адносінах да маці і дзіцяці ў гады чацвёртай пяцігодкі (1946–1950)» прабілася на старонкі аўтарытэтнага ў рэспубліцы акадэмічнага часопіса «Весці Акадэміі навук БССР. Серыя грамадскіх навук» (№ 6).

Без усялякага майго ўплыву, а цалкам па сваім жаданні Ефрасіння з усіх праблем дашкольнага выхавання перавагу аддавала моўнаму аспекту. На выбар яго ў першую чаргу маглі паўплываць супярэчлівыя нацыянальнаму інтарэсу моўная сітуацыя ў Беларусі плюс базавая філалагічная адукацыя вучонага-педагога. Не бачачы нічога крамольнага ў сваіх дзеяннях, Ефрасіння па ўласным жаданні стала праводзіць у сваім дзецішчы — дзіцячым садзе МЦЭЦ-3 сталіцы — разам з дзвюма выхавацелькамі заняткі па самым элементарным азнаямленні рускамоўных дашкольнікаў з беларускай лексікай, пераважна бытавога характару. Дзяцей у такую групу адбіралі толькі са згоды бацькоў. І дзеці, і бацькі былі вельмі задаволенымі вынікам першага года навучання беларускай мовы. Такое ж можна сказаць і пра выхавацеляў, інакш бы яны не згадзіліся і ў наступным годзе весці заняткі, але ўжо без удзелу Ефрасінні Георгіеўны, якая ў гэтых мэтах выбрала сабе адзін з вясковых садоў Мінскага раёна, дзе ўся праца з дзецьмі вялася на рускай мове, а пастунаць на вучобу даводзілася ім у беларускамоўную школу, што вельмі негатыўна адбівалася на моўным развіцці, псіхічных паводзінах дашкалят. Ініцыятыву дацэнта Мінскага педінстытута ўхвалілі

не толькі бацькі дзяцей і выхавацелі, але і кіраўніцтва мясцовай школы. Заняткі доўжыліся два гады і далі шмат каштоўнага эксперыментальнага матэрыялу, які разам з тым, што быў назапашаны ў дзіцячым садзе МЦЭЦ-3, не раз выкарыстоўваўся для выступлення ў перыядычным друку, на навукова-практычных канферэнцыях. Без усялякіх праблем удалося змясціць артыкул «Речь дошкольников» у часопісе «Сельское хозяйство Белоруссии» (1977. № 7), галоўнымі чытачамі якога, як сведчыць сама назва, з'яўляліся жыхары вясковай мясцовасці, у дзіцячых садах якой панаваў поўны хаос з арганізацыяй заняткаў па мове. У тым жа годзе ў зборніку матэрыялаў навукова-практычнай канферэнцыі «Пути и факторы коммунистического воспитания учащейся и студенческой молодежи» (Минск) надрукаваны яе артыкул «Воспитание культуры речи дошкольников в семье». Ефрасіння станавілася агульнапрызнаным сярод дашкольнай педагагічнай інтэлігенцыі спецыялістам па даследаванні адной з самых актуальных, наўмысна заблытанай бальшавіцкімі ідэолагамі праблемы ў дзіцячых садах Беларусі. Менавіта па віне гэтых ідэолагаў дадзеную праблему немагчыма было асвятліць у рэспубліканскім педагагічным перыядычным друку. Пры самай мінімальнай надзеі на поспех Ефрасіння адважылася звярнуцца ў расійскі часопіс «Дошкольное воспитание», бо з нацыянальных рэгіёнаў РСФСР у яго рэдакцыю ад практычных работнікаў дзіцячых садоў паступала нямала просьбаў дапамагчы ў арганізацыі працы па развіцці мовы дзяцей у тых месцах, дзе, акрамя роднай, шырока ўжывалася яшчэ і руская мова. Нібыта ў адказ на гэтыя просьбы і з'явіўся ў названым часопісе (№ 7 за 1978 г.) артыкул Е. Андрэевай «О некоторых особенностях развития речи дошкольников в условиях двуязычия». За артыкул аўтару дзякавалі з многіх самых аддаленых нацыянальных раёнаў Расійскай Федэрацыі, бо і там русіфікацыя практычна не пакінула аніякай надзеі на захаванне іх народамі сваёй этнакультурнай самабытнасці. Сапраўдных нацыянальных патрыётаў, у т. л. і дашкольных работнікаў, такі жахлівы стан не мог не хваляваць. Прафесійна арганізаваная праца па азнаямленні дзяцей з роднай мовай справядліва разглядалася многімі выхавацелямі ў якасці аднаго з дастаткова эфектыўных сродкаў супрацьстаяння культурна-моўнай асіміляцыі ў форме русіфікацыі.

Надрукаванне артыкула ў часопісе «Дошкольное воспитание» вельмі моцна паўплывала — у моўным плане — і на самую Ефрасінню. У варунках тагачаснага мэтанакіраванага выцяснення беларускай мовы з грамадскага жыцця, і асабліва ў сферы адукацыі, у вучонага-педагога Е. Андрэевай нават пачало, як ніколі раней, расці жаданне не толькі дасканала

авалодаць, але і карыстацца родным словам беларускага народа ва ўсіх відах камунікацыйных зносін з людзьмі. Усё гэта давалася зусім не проста, асабліва з напісаннем артыкулаў. У часопісе «Полымя» яе артыкулы пра Алаізу Пашкевіч (Цётку) і Уладзіславу Францаўну (жонку Янкі Купалы) друкаваліся ў 1981 і 1982 гадах у перакладзе з рускай мовы на беларускую. Гэтага не ведалі супрацоўнікі музея імя Янкі Купалы і падчас адной з сустрэч са сваімі наведвальнікамі, прысвечаных стагадоваму юбілею беларускага народнага песняра, запрасілі да сябе Ефрасінню, прапаноўваючы штосьці цікавае сказаць і пра яго жонку. Доўга і ўпарта адмаўлялася, бо лічыла некарэктным з нагоды такой знакавай падзеі ў жыцці беларускага народа ды перад такой шаноўнай аўдыторыяй выступаць па-руску. Тэкст сваёй прамовы напісала па-руску, а затым з дапамогай слоўніка пераклала на беларускую мову і па некалькі разоў у дзень чытала напісанае ўслых. Атрымалася няблага. А калі некаторыя з супрацоўнікаў музея даведаліся, што Ефрасіння па нацыянальнасці руская, ураджэнка Сібіры, дык за такі гераічны, інтэрнацыяналістычны ўчынак некаторыя кінуліся абдымаць і цалаваць яе. 1982 год — год святкавання стагадовага юбілею Янкі Купалы і Якуба Коласа — мы сталі лічыць у сваёй сям'і годам першага публічнага выкарыстання Ефрасінняй беларускай мовы. Ад гэтага часу ў мяне ўжо не было сур'ёзных моўных праблем з жонкаю пры наведванні нашай кватэры маімі шчыра адданымі роднаму слову сябрамі. Ледзь стрымліваўся ад слёз, калі чуў першыя жончыны тэлефонныя беларускамоўныя размовы. Асабліва радавала, што ўсе гэтыя перамены з выкарыстаннем беларускай мовы адбываліся натуральным шляхам, без усялякага «ідэалагічнага» ўздзеяння з майго боку. І не будзем забывацца, што ўсё гэта мела месца ў даперабудовачныя часы, калі проста на вачах гінула беларуская мова і не было каму слова сказаць у яе абарону. З агульнай колькасці вучняў толькі чвэртка іх навучалася ў беларускамоўных школах, а астатнія тры чвэрткі школьнікаў узгадоўваліся ў рускім культурна-моўным фармаце, з нулявымі ведамі сваёй нацыянальнай гісторыі. Не дзіўна, што ў такіх варунках, калі хто-небудзь публічна размаўляў па-беларуску, на яго глядзелі, як на нейкага дзівака.

На нашае няшчасце, не ўсё ладзілася ў маёй жонкі з працай на дашкольнай кафедры Мінскага педінстытута. Адбывалася нешта такое, з чым некалі давялося сутыкнуцца ў калектыве дашкольнага аддзела Міністэрства асветы БССР. Загадчыцу кафедры Галіну Петрачэнку не вельмі радавалі творчыя дасягненні значна маладзейшага за яе, добра вядомага сярод педагогаў рэспублікі дацэнта Ефрасінні Андрэевай. У выпадку

якіх-небудзь сур'ёзных недахопаў, таго і глядзі, могуць адбыцца змены ў кіраўніцтве кафедрай. Каб не дапусціць такога, Галіна Петрачэнка сумела перацягнуць на свой бок, наблізіць да сябе амаль усіх супрацоўнікаў кафедры, з якіх абсалютная бальшыня прагаласавала ўлетку 1980 года супраць пераабрання Ефрасінні Андрэевай на пасаду дацэнта, што сваёй рэдкасцю, небываласцю здзівіла нават само кіраўніцтва педінстытута. І здзіўляцца было з чаго, бо паўторна не абраны на пасаду дацэнт да гэтага часу не меў аніякіх заўваг датычна сваёй педагагічнай працы, карыстаўся павагай у студэнтаў, актыўна выступаў у друку — і раптам такое фіяска. У розных складзеных да гэтага часу характарыстыках Е. Андрэева прызнаецца кваліфікаваным выкладчыкам, які праводзіць заняткі «метадычна правільна, на высокім ідэйным і тэарэтычным узроўні», стала ўдзельнічае «ў прапагандзе педагагічных ведаў сярод дашкольных работнікаў і насельніцтва. У дачыненнях з таварышамі і студэнтамі патрабавальная, дысцыплінаваная, прынцыповая». Толькі пахвалу мела ад кіраўніцтва педінстытута за актыўнае выступленне ў педагагічным перыядычным друку, у т. л. і ў агульнасаюзным.

Не магу не сказаць слова падзякі рэктарату, парткаму, прафкаму інстытута. Не жадаючы ўскладняць сітуацыю, яны перавялі маю жонку на кафедру агульнай педагогікі, што не перашкодзіла ёй працягваць чытаць лекцыі і праводзіць семінарскія заняткі на дашкольным факультэце. І толькі як стала весці курс па гісторыі педагогікі, пакінула гэты факультэт.

Па-рознаму склаліся дачыненні маёй жонкі з тымі, хто нячыстую руку прыклаў да сыходу яе з кафедры дашкольнай педагогікі. Былі такія, што ледзь не са слязамі на вачах прасілі прабачэння за свой неабдуманы ўчынак, тлумачылі, што на такі крок давялося пайсці па вялікай просьбе загадчыцы кафедры дашкольнай педагогікі Галіны Петрачэнка. Ёй не стала нікольки лягчэй пасля пазбаўлення ад непажаданай асобы. Калектыў заўжды штосьці бударажыла. Давялося нават, страшэнна падарваўшы ўласныя сілы, сысці з пасады загадчыцы кафедры, за якую гадамі трымалася і рукамі, і нагамі. І як часта ў такіх выпадках здараецца, з дыягназам інфаркт ці інсульт трапіла ў бальніцу. Працяглы час пасля выпіскі знаходзілася дома на бюлетэні. Пра хваробу колішняга няўдзячнага начальніка, хаця і з вялікім спазненнем, усё ж даведалася мая жонка. Паколькі сама пасля перанесенага ў 1971 годзе вельмі сур'ёзнага захворвання (штосьці падобнае на інсульт ці інфаркт) увесь час блага сябе адчувала. З такім аслабленым здароўем людзі заўжды спачуваюць тым, каго не абмінаюць падобнага роду выпрабаванні лёсу. Для Ефрасінні не стала выключэннем з

гэтага правіла прыкутая да пасцелі Г. Петрачэнка. Візіт вельмі мала ў чым нагадваў наведванне хворага чалавека. Замест заклапочанай гаворкі пра ход лячэння, набыццё прыпісаных дактарамі прэпаратаў, як толькі хворая выцерла ад буйных слёз вочы, пачалі згадваць нядобрай памяці падзеі, звязаныя з неатэстацыяй маёй жонкі. Галоўная віноўніца іх ва ўсім дакарала педагогаў за нібыта няправільнае інфармаванне яе пра ўзаемадачыненні Е. Андрэевай з калектывам, адказнасць за што, як пазней высветлілася, памылкова ўсклалі зусім не на таго чалавека. Кволая гаспадыня кватэры не магла стрымацца ад чарговага прыліву слёз, калі прызналася, што аніводзін з той кагорты «блізкіх, надзейных» супрацоўнікаў кафедры не наведаў яе ні ў бальніцы, ні дома. Вось парадокс дык парадокс: нявінная ахвяра тых плётак прыйшла наведаць прыкутую да ложка віноўніцу ўсіх яе бед, а «лепшыя» калегі па працы засталіся абыякавымі да гора сваёй былой кіраўніцы.

Вымушаны сыход Ефрасінні з кафедры дашкольнай педагогікі пайшоў на карысць не толькі ёй, а ў некаторай ступені і педагагічнаму працэсу, бо зацягнуты ў беспрычынныя канфлікты чалавек не можа плённа працаваць. Найбольшую колькасць лекцый даводзілася чытаць па гісторыі дашкольнага выхавання, гісторыі адукацыі. Узяла за правіла — і не памылілася — максімальна выкарыстоўваць, дзе гэта толькі магчыма, беларускія матэрыялы, што вельмі віталі студэнты. Сама ж, дзякуючы такому падыходу, узбагачала свае веды па гісторыі адукацыі Беларусі. І яна, і я радаваліся адсутнасці ўсялякіх непаразуменняў як з калегамі кафедры агульнай педагогікі, так і з яе кіраўніцтвам, што станоўча адбівалася не толькі на працы са студэнтамі, але і на правядзенні навуковых даследаванняў. Сказанае можна пацвердзіць змяшчэннем на старонках часопіса РСФСР «Дошкольное воспитание» артыкула «Вновь обретенное детство» (1979, № 7; 0,8 д. а.); выступленнем у 1984 годзе з дакладам на тэму «Влияние передовой советской педагогической мысли на формирование теории дошкольного воспитания в Белорусской ССР (1917–1941)» на канферэнцыі ў Баку, прысвечанай праблеме выкладання гісторыі педагогікі; удзелам у напісанні фундаментальнай калектыўнай працы «Асвета і педагагічная думка ў Беларусі са старажытных часоў да 1917 г.» (выйшла ў свет у 1985 г.).

Можа, як нішто іншае, у вялікую заслугу сваёй Ефрасінні стаўлю, што пры ўсёй немачы са здароўем, наўмысна створаных канфліктах службовага характару яна ніколі не адсоўвала на задні план думкі пра сур'ёзную навуку. Так сталася, што мы разам у адзін і той жа час працавалі над доктар-

скімі дысертацыямі. Напачатку думалася, што першым на гэты запаветны рубеж выйду дзесьці ў пачатку 80-х гадоў я. Тэма маёй дысертацыі была звязана з даследаваннем нацыянальнага пытання ў міжваенны перыяд, чаго стараліся не закранаць даследчыкі Беларусі, хаця ў яе з гэтым найменш за ўсё ладзілася справа. Пададзены мною рукапіс першага варыянту дысертацыі на папярэдняе абмеркаванне сустрэлі вельмі насцярожана, галоўным чынам з-за таго, што ў ім больш гаварылася пра недахопы, чым пра дасягненні ў правядзенні, як тады прынята было пісаць, ленінскай нацыянальнай палітыкі ў Беларускай ССР. Ходам такога абмеркавання рукапісу дысертацыі асабліва не быў усхваляваны, бо я і сапраўды не ставіў сабе мэту ўзняць на «ўра» гэтую палітыку ў дачыненні да БССР. Да таго ж меў вялікі спадзеў, калі штосьці няладнае адбудзецца з абмеркаваннем рукапісу доктарскай дысертацыі, здаць яго ў выдавецтва «Беларусь», бо яно ўжо пакрысе стала выпускаць у свет прысвечаную нацыянальнай праблематыцы літаратуру. Але мне і тут не пашанцавала. У арганізаванай па ініцыятыве выдавецтва рэцэнзіі на рукапіс нават адзначылі, што ў ім многа з таго, за што ў канцы 1920-х — пачатку 1930-х гадоў панеслі справядлівае пакаранне беларускія буржуазныя нацыяналісты. У такой неспрыяльнай сітуацыі самым разумным варыянтам для мяне было не лезці на ражон, пачакаць, а там, дзе трэба, трохі згладзіць вострыя вуглы. Што я і пачаў рабіць.

Адчуваючы, што з маёй доктарскай дысертацыяй ніяк нельга спяшацца, сказаў жонцы, што бяру на сябе асноўны аб'ём сямейна-бытавых клопатаў з тым, каб у яе больш часу заставалася на напісанне такой жа катэгорыі навуковай працы. На маю прапанову згадзілася без асаблівага жадання, бо хацела, каб доктарам навук першым усё-такі стаў я. Не атрымалася.

Навуковай працай жонкі нельга было быць незадаволеным. Галоўнае, што наладзіла добрыя кантакты з рэдакцыйна-выдавецкім цэнтрам педінстытута і рэгулярна выпускала неабходную для абароны доктарскай дысертацыі літаратуру, што даволі часта з'яўляецца вельмі складанай справай. Рэктарат інстытута задаволіў просьбу Е. Андрэевай аб пераводзе ў дактарантуру, што адкрыла яшчэ больш магчымасцяў для паспяховай працы над дысертацыяй. Яе напісанне ўкладвалася ў вызначаныя тэрміны. Каб абысці ўсялякія рыфы, што маглі ўзводзіцца яе аўтару ў Мінску, намі было прынята рашэнне арганізаваць яе абарону нават не ў Маскве, Ленінградзе, Кіеве ці якім-небудзь іншым блізка размешчаным ад беларускай сталіцы горадзе, а ў Тбіліскім ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга дзяржаўным універсітэце, хаця там у нас не мелася аніводнага

знаёмага з прафесараў і выкладчыкаў. Кіраўніцтва ўніверсітэта ахвотна згадзілася арганізаваць абарону доктарскай дысертацыі мінскай даследчыцы. Яе вельмі прыхільна сустрэў увесь калектыў кафедры педагогікі, якую ўзначальваў Д. Берышвілі. Абмеркаванне дысертацыі «Становление и развитие общественного дошкольного воспитания в Белорусской ССР (1917–1941)» адбылося 27 студзеня 1987 года, хаця яе аўтар па розных прычынах жадаў больш позняга тэрміну. Выступілі тры чалавекі, у іх ліку член-карэспандэнт Акадэміі педагагічных навук СССР, доктар педагагічных навук, прафесар У. П. Абаладзэ. Змест выпіскі з пратакола пасяджэння кафедры на ўсе сто працэнтаў задаволіў дактаранта. Прывяду такую цытату з гэтага дакумента: «Все они дали высокую положительную оценку вынесенному на обсуждение исследованию, отметив, что по глубине раскрытия всех основных аспектов проблемы, огромному вкладу в развитие теоретических основ историко-педагогической науки, совершенствование практической деятельности дошкольных учреждений на современном этапе посредством умелого отбора положительного опыта прошлых лет научный труд Е. Г. Андреевой вполне отвечает уровню докторской диссертации». Лічачы, што абмеркаваная на пасяджэнні кафедры праца адпавядае патрабаванням Вышэйшай атэстацыйнай камісіі пры Савеце Міністраў СССР, яе рэкамендавалі да абароны. Прайшла яна паспяхова, сведкай чаму давялося быць і мне, на чым вельмі настойвала жонка. Іншага выніку і быць не магло, бо, як адзначана ў Заключэнні спецыялізаванага савета па абароне доктарскіх дысертацый Тбіліскага дзяжуніверсітэта, у даследаванні Е. Г. Андрэевай «впервые в белорусской советской историко-педагогической науке с позиций марксистско-ленинской методологии глубоко и всесторонне изучен генезис проблемы становления и развития общественного дошкольного воспитания за период с конца XIX в. до 1941 г., включены в научный оборот многие ранее не известные архивные материалы, произведен обстоятельный сравнительно-исторический анализ опубликованных и неопубликованных данных государственной и ведомственной статистики». Салідна быў прадстаўлены дактарант, адзначалася ў названым заключэнні, сваімі публікацыямі па тэме дысертацыі: 44 працы. Акрамя гэтага: «…сделаны доклады и сообщения на 18 всесоюзных, региональных, республиканских научно-практических конференциях и семинарах по народному образованию. Успешно прошли апробацию на дошкольных факультетах и отделениях педагогических институтов Белоруссии опубликованные автором четыре спецкурса по истории дошкольной педагогики объемом 20 п. л. По изданным диссер-

тантом научным трудам читаются спецкурсы, выполняются рефераты, курсовые и дипломные работы. Материалы первой главы диссертации Е. Г. Андреевой вошли в сокращенном виде в качестве самостоятельных двух разделов в фундаментальный научный коллективный труд «Просвещение и педагогическая мысль в Белоруссии от древнейших времен до 1917 года» (на белорусском языке), Минск, 1985 г.

Каб да канца давесці справу з дысертацыяй, Ефрасінні ўсё ж давялося паехаць у Маскву для наведвання Вышэйшай атэстацыйнай камісіі пры Савеце Міністраў СССР. Рэцэнзенты прыдраліся — думаецца, справядліва — да аўтара, што належным чынам не паказала нацыянальную спецыфіку ў практыцы дашкольных выхаваўчых устаноў, месца ў ёй беларускага культурна-моўнага фактару. Прапанавалі на працягу двух-трох дзён выкласці гэта ў пісьмовай форме на трох-чатырох аркушах і азнаёміць з іх зместам Прэзідыум ВАКа. Да ўсяго гэтага Ефрасіння была добра падрыхтаванай, паколькі дадзеныя пытанні мы ўжо не раз узнімалі дома ў нашых размовах. Паводле яе слоў, у падрыхтаваным для ВАКа адказе нават пару разоў ужыла ў дачыненні да практыкі дзіцячых садоў у 1930-х гадах тэрмін «русіфікацыя» (у Беларусі за гэта адразу паставілі б крыж на дысертацыі), што не выклікала аніякага пярэчання ў тых, ад каго залежаў лёс дысертацыі. Тлумачыцца гэта тым, што ў другой палове 1980-х гадоў ужо нямала чаго негатыўнага было выказана на адрас хвалёнай ленінскай нацыянальнай палітыкі, і асабліва ў сферы адукацыі. 20 ліпеня 1988 года Ефрасінні Георгіеўне Андрэевай ВАК прысудзіў навуковую ступень доктара педагагічных навук, а 31 студзеня 1991 года рашэннем Дзяржаўнага камітэта СССР па народнай адукацыі прысвоена вучонае званне прафесара па кафедры педагогікі. Радасці не было канца і краю. Не раз з гумарам казала: «Ведала, нябось, па што ўлетку 1958 года ехала на радзіму мужа. У Башкірыі, напэўна, дапрацавала б да самай пенсіі на пасадзе настаўніка рускай мовы і літаратуры».

Працяглы час выкладання гісторыі педагогікі, рэгулярныя выступленні ў друку па нацыянальнай культурна-моўнай праблематыцы цалкам не адарвалі Ефрасінню ад яе першапачатковай у навуковай дзейнасці тэмы — дашкольнага выхавання. Хаця не так і часта, але пры любой зручнай нагодзе імкнулася напісаць штосьці і ў гэтым плане. Не забывалася і на сваё дзецішча — сад № 96 МЦЭЦ-3 горада Мінска. З вялікім задавальненнем атрымалі ад яго кіраўніцтва запрашэнне прыняць 27 лістапада 1998 года ўдзел у святкаванні 40-годдзя гэтай дашкольнай выхаваўчай

установы. Прысутнічаў на гэтым урачыстым мерапрыемстве і я: такое пажаданне было ў саміх арганізатараў. Вечар прайшоў на належным узроўні, запамінальна. Людзі радаваліся, што ім пашчасціла сустрэцца паміж сабою: каму праз трыццаць, а каму і праз больш гадоў. У ліку першых далі слова маёй жонцы. Неяк дома мы не пагаварылі, на якой мове ў дадзеным выпадку трэба выступаць. Усе без выключэння карысталіся толькі рускай мовай. Я думаў, што аналагічным чынам паступіць і першая загадчыца дзіцячага сада. Але нечакана для ўсіх, не выключаючы і мяне, яна загаварыла па-беларуску, што, думаю, здзівіла кожнага з прысутных на вечарыне. Найбольш за ўсё яе такія словы: «Я бясконца рада, што ў далёкім 1958 годзе лёс закінуў мяне на радзіму мужа Беларусь. Я вельмі хутка палюбіла яе народ, яго багатую родную культуру і мову. Мне вельмі хацелася навучыцца размаўляць па-беларуску, і гэтае жаданне спраўдзілася. Роднай мовай Беларусі карыстаюся ў працы са студэнтамі Беларускага дзяржаўнага педагагічнага ўніверсітэта імя Максіма Танка, дзе працую прафесарам».

Выступленне Ефрасінні было вельмі сціслым, бо ўзяць слова жадаў амаль кожны з колішніх супрацоўнікаў сада. Не дачакаўшыся заканчэння моцна ўпадабанага намі святочнага мерапрыемства, мы з жонкай развіталіся з прысутнымі і памкнуліся з ледзь прыкметнай усмешкай на тварах на выхад. Тут я заўважыў, што за намі неадступна ідзе чалавек, які сядзеў побач з дырэктарам МЦЭЦ-3. Не чакаючы ад нас зусім натуральнага ў такой сітуацыі пытання, ён прамовіў па-беларуску: «Такая паважаная за прыгожую літаратурную беларускую мову дама не павінна дабірацца дамоў на гарадскім транспарце. Я вас з вялікім задавальненнем адвязу на ўласнай машыне». Гэтую ласкавую прапанову мы ахвотна прынялі, бо ўжо было даволі позна, з неба церушыў ні то дождж, ні то снег. У першыя ж хвіліны язды мы даведаліся, што за рулём сядзіць намеснік дырэктара МЦЭЦ-3 па ідэалогіі. Ён быў бясконца рады, калі пачуў, што маё прозвішча Лыч.

— О, дык мы з жонкай, якая выкладае беларускую мову і літаратуру, проста зачытваемся вашымі артыкуламі ў «Народнай волі» і ў «Настаўніцкай газеце»! Нішто так, як яны, не дапамагаюць людзям зразумець усе хібы нашага нацыянальна-культурнага жыцця, адшукаць шляхі выратавання ад культурна-моўнай асіміляцыі. Вялікі дзякуй вам! Пішыце, народ трэба вучыць і вучыць, каб ён добра ўсвядоміў, што яго чакае наперадзе пасля вырачэння ад роднай мовы.

На яго просьбу выступіць калі-небудзь у калектыве работнікаў МЦЭЦ-3 па надзённых пытаннях нацыянальнага жыцця Беларусі даў згоду, палічыўшы неабходным выказаць сур'ёзныя сумненні датычна атрымання дазволу на гэта ад ідэалагічнай службы Заводскага райвыканкама, бо яе супрацоўнікі не маглі не ведаць з друку, як рашуча я крытыкую нацыянальную палітыку сучаснага кіраўніцтва Рэспублікі Беларусь. На развітанне абмяняліся тэлефоннымі нумарамі. Як я і прадбачыў, ніхто мяне не запрасіў на сустрэчу з калектывам МЦЭЦ-3.

## 9. БЕЛАРУСКАЕ НАЦЫЯНАЛЬНА-КУЛЬТУРНАЕ АДРАДЖЭННЕ СТАЛА ЯЕ СТЫХІЯЙ

Пасля абароны доктарскай дысертацыі ў Ефрасінні з'явілася непараўнальна больш часу для выступлення ў перыядычным друку, які тады быў перапоўнены матэрыяламі па нацыянальнай тэматыцы, перадусім па такім важным яе складальніку, як культурна-моўны. Устрымацца ад удзелу ў дыскусіях па гэтым пытанні ніяк не магла Ефрасіння, шчыра абрадаваная неблагімі пазітыўнымі зрухамі тагачаснага беларускага нацыянальна-культурнага адраджэння. Ніводная амаль з пяцідзесяці папярэдніх публікацый яе так не радавала, як змешчаны ў чацвёртым нумары часопіса «Нёман» за 1989 год артыкул «Белорусский язык: взгляд русского». Хто толькі з прадстаўнікоў творчай, навуковай інтэлігенцыі нацыянальнай арыентацыі не тэлефанаваў ёй, каб выказаць словы шчырай падзякі! Былі званкі і ад прадстаўнікоў інтэлігенцыі рускай нацыянальнасці, што жылі ў нашай рэспубліцы. Адны ўхвалялі выкладзеныя ў артыкуле палажэнні і нават прапаноўвалі стварыць рускае грамадскае таварыства ў абарону беларускай мовы (далей размоў справа не пайшла), другія, наадварот, лаялі за здраду рускаму народу, распальванне канфлікту паміж двума братнімі славянскімі народамі. Названы артыкул, без перабольшвання, вельмі паспрыяў росту прэстыжу маёй жонкі ў шырокіх колах грамадства, і найперш сярод інтэлігенцыі, прычым не толькі педагагічнай, як гэта было раней. І ўвогуле неабходна адзначыць, што той 1989 год быў вельмі ўраджайным для Ефрасінні на публікацыі па пытаннях народнай адукацыі і мовы. Вось у дадатак да згаданага вышэй артыкула назвы яшчэ некаторых з іх: «Навучанне ў дзіцячым садзе 5–6-годак роднай беларускай мове сродкамі дыдактычнай гульні» (Мінск, МДПІ імя Горкага, 4,0 д. а.), «Беларусізацыя 20-х гадоў і школа» (час. «Беларуская мова і

літаратура ў школе» № 7, 1,0 д. а.), «Возрождение национальной школы» (час. «Коммунист Белоруссии», № 9, 0,6 д. а.; сумесна з Л. М. Лычом). Такія добрыя вынікі з публікацыяй сваіх прац у 1989 годзе тлумачыла вялікім жаданнем паднесці як мага больш каштоўны падарунак свайму мужу з нагоды яго 60-годдзя. Зразумела, такім падарункам я быў вельмі задаволены. Не абышлося без падарунка і ў наступным годзе, пра што парупілася рэдакцыя газеты «Звязда», надрукаваўшы 14 студзеня 1990 года артыкул Е. Андрэевай «Слова беларуса — не латынь». Памер яго — толькі два абзацы. Але якія! У іх справядліва давалася станоўчая ацэнка праекта Закона «Аб мовах у Беларускай ССР» і адначасова прапаноўвалася з-за крайне высокай ступені дэфармацыі нацыянальнай самасвядомасці беларусаў скараціць у два-тры разы тэрмін пераводу на іх родную мову навучальна-выхаваўчага працэсу ў тэхнікумах і інстытутах. Абгрунтоўвалася гэта яшчэ і тым, што для жыхароў рэспублікі «роднае слова — не латынь ці якая-небудзь замежная мова».

1990 год быў адметны для маёй жонкі яшчэ і тым, што яе навуковы, нацыянальна-адраджэнскі патэнцыял усяляк імкнуліся выкарыстаць улады, кіраўніцтва Міністэрства адукацыі БССР для выпрацоўкі нарматыўных актаў па рэарганізацыі гэтай сферы з мэтай максімальнага набліжэння яе да беларускага нацыянальнага інтарэсу. У сакавіку 1990 года Камісія Вярхоўнага Савета БССР па адукацыі, культуры і захаванні гістарычнай спадчыны ўключыла Е. Андрэеву ў склад рабочай групы (групы экспертаў) Часовага навукова-даследчага калектыву «Нацыянальная школа Беларусі». Праца яго ішла даволі паспяхова, таму што ўсе выдатна разумелі, якую вялізную ролю для Бацькаўшчыны адыграе створаная на нацыянальным падмурку сістэма народнай адукацыі. Верылася, што нарэшце яна перастане быць рэактарам русіфікацыі маладых пакаленняў беларускага народа і будзе выхоўваць, вучыць іх на роднай культурна-моўнай аснове. Не працаваць на карысць такога прагрэсіўнага ідэалу маглі толькі цалкам адарваныя ці варожа настроеныя да беларускага нацыянальнага інтарэсу людзі. Ефрасіння, хаця і небеларуска па паходжанні, ніколі не належала да іх. Заслуга ў гэтым перш за ўсё яе самой.

Глыбокае ўсведамленне ролі нацыянальнага фактару ва ўзгадаванні маладых пакаленняў беларускага народа ўвесь час стымулявала Ефрасінню Андрэеву да павышэння свайго педагагічнага майстэрства. Да яго ніколі не мелася прэтэнзіі з боку кіраўніцтва кафедры педагогікі інстытута, што добра пацвярджаецца наступнай вытрымкай з яе пасяджэння

ад 22 студзеня 1990 года, дзе разглядалася пытанне аб прысваенні маёй жонцы вучонага звання прафесара:

«Е. Г. Андреева на высоком профессиональном уровне читает курс лекций по истории педагогики, ведет семинарские занятия и педагогическую практику в школе, является руководителем непрерывной практики на втором курсе филфака. Она часто выступает с лекциями перед педагогической общественностью по проблемам белорусизации в школе (падкрэслена мною. — *Л. Л.*), национального и интернационального воспитания в системе народного образования».

Адзначаныя вышэй якасці яшчэ рэльефней вызначаліся пасля прысваення Е. Андрэевай звання прафесара. Сведчаннем чаму можа служыць яе пераход у 1990/91 н. г. на беларускамоўнае выкладанне свайго прадмета. З дваццаці педагогаў кафедры, акрамя яе, на такі нацыянальна-патрыятычны крок яшчэ адважыўся толькі адзін чалавек.

Быў час, калі ў нашай краіне праводзіліся конкурсы на атрыманне ганаровага звання «Жанчына года». У 1996 годзе такія матэрыялы былі аформлены і на маю жонку. Прадстаўленне на конкурс пачыналася такімі словамі:

«Хто рэгулярна знаёміцца з перыядычным педагагічным друкам, той не мог не заўважыць, як часта на яго старонках выступае з грунтоўнымі публікацыямі па праблеме нацыянальнай адукацыі (падкрэслена мною. — *Л. Л.*) прафесар кафедры агульнай педагогікі Беларускага дзяржаўнага педагагічнага ўніверсітэта, доктар педагагічных навук Ефрасіння Георгіеўна Андрэева. “Ураджайным” на такія публікацыі быў для яе 1995 год». З іх у згаданым прадстаўленні пералічана дзесяць, у тым ліку: «Чалавек без матчынай мовы, як птушка без крыла» («Настаўніцкая газета», 20 чэрвеня), «Ідэя нацыянальнай школы ў педагагічнай публіцыстыцы 1917–1924 гг.» («Адукацыя і выхаванне» № 8), «Ухабістыя шляхі да нацыянальнай школы» («Звязда», 31 жніўня), «Ці быць нацыянальнай педагогіцы? Быць!» («Настаўніцкая газета», 11 кастрычніка). Духу беларускага нацыянальнага інтарэсу адпавядалі і ўсе астатнія публікацыі таго года. Нельга не прывесці і такой цытаты з разглядаемага прадстаўлення: «У вялікую заслугу Ефрасінні Андрэевай можна паставіць, што летась (у 1995 г. — *Л. Л.*), пераадольваючы немалы кансерватызм у беларускай педагагічнай навуцы, ёй удалося ўключыць і ўпершыню ў гісторыі выкладаць у вышэйшых навучальных установах “Гісторыю педагогікі Беларусі” як самастойную дысцыпліну, а не частку гісторыі педагогікі якога-небудзь іншага народа. Гэтая дысцыпліна выкладаецца па напісаным і выдадзеным Ефрасінняй

Андрэевай вучэбным дапаможніку “Гісторыя педагогікі Беларусі са старажытных часоў да 1917 года”».

На атрыманне ганаровага звання «Жанчына года» Е. Андрэева вылучалася ў 1996 годзе. Спазнілася, бо пад той час дзяржаўныя ўлады і залежныя ад іх культурна-асветныя структуры ўжо крута пачалі адыходзіць ад беларускага нацыянальнага ідэалу, якому так шчыра і аддана служыла вучоны-педагог Ефрасіння Андрэева.

Ва ўсім адпаведныя друку і зместу нацыянальна-культурнага адраджэння публікацыі, уся практычная дзейнасць Е. Андрэевай у якасці педагога прыцягвалі да сябе ўвагу многіх пакуль што яшчэ не адарваных ад роднай глебы прадстаўнікоў творчай інтэлігенцыі, асабліва майстроў мастацкага слова. Павага да гэтага педагога-навукоўца яшчэ больш узрастала, калі чытачы даведваліся пра яе прыналежнасць да рускай нацыянальнасці. Ніколі не забуду цёплых слоў на адрас маёй жонкі ад беларускага паэта цяжкага, трагічнага лёсу Сяргея Грахоўскага. Улетку 1991 года мы з Ефрасінняй адпачывалі пад Ракавам у санаторыі-прафілакторыі АН БССР, а шаноўны пясняр — недалёка ад яго ў такой жа аздараўленчай установе для пісьменнікаў — Іслачы. У самы апошні дзень адпачынку ўдалося выпадкова сустрэцца з Сяргеем Грахоўскім на беразе ракі Іслач. Адзін аднаго мы ведалі толькі па публікацыях. Размова вялася вельмі задушэўная, на аптымістычнай ноце, прычынай чаму служылі добранадзейныя набыткі беларускага нацыянальна-культурнага адраджэння. Жонкі ўжо ў апошні дзень нашага знаходжання ў санаторыі-прафілакторыі не было. Калі ж я назваў яе імя і прозвішча, дык проста не перадаць, колькі было радасці на твары Сяргея Грахоўскага ад маіх слоў.

— Я проста зачытваюся, абавязкова выразаю з газет і яе, і вашыя сумесныя артыкулы. Даю чытаць іх тым, хто прыходзіць наведаць мяне. Падчас такіх сустрэч вашы артыкулы звычайна служаць тэмай размоў з маімі наведвальнікамі.

Цалкам пагадзіўся з шаноўным паэтам, пачуўшы ад яго разгорнутую думку прыкладна такога зместу:

— У колішняй дзяржаўнай палітыцы русіфікацыі вельмі багата ўплывовых прыхільнікаў у нашай маладой суверэннай краіне. І самае страшнае, што руская культурна-моўная асіміляцыя пусціла глыбокія карані ў душы палітыкаў, інтэлігенцыі, а гэта ж якраз тыя самыя колы грамадства, ад якіх найбольш за ўсё залежыць лёс пабудовы па-сапраўднаму суверэннай дзяржавы, арганізацыя ў ёй жыцця беларусаў паводле іх нацыянальна-культурных традыцый. Нельга не мець на ўвазе і такі факт, што Маскоўскі

Крэмль будзе падтрымліваць у нашай краіне толькі такі палітычны рэжым, які не пойдзе на сур'ёзнае абмежаванне прысутнасці ў ёй рускай культуры і мовы, каб пры любых спрыяльных акалічнасцях выкарыстаць дадзены фактар у інтарэсах русіфікацыі, зліць беларусаў у адзіны з рускімі народ, захаваўшы назву апошняга. Такое не здарыцца толькі тады, — сказаў мой паважаны аднадумец з прыемнай усмешкай на твары, — калі ў Беларусі сем'і накшталт вашай будуць колькасна расці, як грыбы пасля дажджу.

Пэўная надзея, што так яно і будзе, захоўвалася. Нацыянальна-культурнае адраджэнне працягвала набіраць маштабнасць, нягледзячы на даволі сур'ёзны ўнутраны і знадворны супраціў яму. І гэта цалкам заканамерна, у тым ліку і з боку палітыкаў, інтэлігенцыі, бо абсалютная бальшыня з іх ужо не ў першым пакаленні ўзгадоўвалася, жыла паводле рускіх культурна-моўных канонаў, на сваю прыродную беларускасць глядзелі, як на нешта зусім пабочнае, другараднае. Найбольшая шкода ішла ад людзей, якія самі сабе і іншым не стамляліся затуманьваць мазгі, што можна быць паўнавартасным беларусам, жывучы і паводле рускіх стандартаў.

Пахвальна, што такая негатыўная выбуховая ў дачыненні да беларускай нацыянальнай ідэі прапаганда не толькі не ўплывала, а, наадварот, выклікала рэзка адмоўную рэакцыю ў маёй жонкі. Ні разочку не чуў ад яе слоў расчаравання, што, маўляў, з-за твайго празмернага нацыянальнага патрыятызму я так ахвотна далучылася да беларускага адраджэнскага руху, але не заўсёды маю падтрымку ад сваіх калег за ўдзел у ім. Не ў яе характары было адступіць ад гэтай выратавальнай для беларусаў ідэі. З неверагоднай энергіяй працавала на яе карысць і як педагог, і як — не пабаюся гэтага слова — публіцыст. Рэдка на якое яе выступленне ў перыядычным друку не выказвалі падзяку чытачы. Пісалі ў газету, званілі на хатні тэлефон. Бадай, нішто не выклікала ў іх такой бурнай рэакцыі, як артыкул у «Настаўніцкай газеце» (18 верасня 1993 г.) «Вярнуць на законны пасад. Погляд на двухмоўе вачыма рускага чалавека».

Як вядома, прынятым 26 студзеня 1990 года «Законам аб мовах у Беларускай ССР» статусам дзяржаўнай мовы надзялялася толькі мова тытульнай нацыі. На практыцы ж ніхто пра гэта асабліва не рупіўся, што справядліва выклікала адмоўную рэакцыю ў зацікаўленых да хутчэйшага нацыянальнага адраджэння людзей. Думаю, гэтым толькі і можна растлумачыць з'яўленне ў друку вышэйназванага артыкула Ефрасінні, за што ёй званілі па тэлефоне і дзякавалі многія шчырыя вядомыя беларускія адраджэнцы. 2 кастрычніка 1993 года ў «Настаўніцкай газеце» ў якасці водгукаў на яе артыкул з'явілася публікацыя паэта Васіля Жуковіча

«Сумленны голас Расіянкі», з якой падам наступную цытату: «…артыкул атрымаўся надзвычайны, бо ў ім — крык душы расіянкі па паходжанні, якая не толькі бачыць і глыбока ў гістарычным зрэзе аналізуе нашу агульнанацыянальную бяду (яна для яе зусім не чужая), але і спрыяе таму, каб хутчэй знайсці выйсце з катастрафічнага становішча».

Тая ж публікацыя маёй жонкі не пакінула ў раўнадушшы ўжо трохі знаёмага і ёй беларускага паэта Сяргея Грахоўскага. Свае меркаванні ён праз «Народную газету» (1 снежня 1993 г.) выказаў у знамянальным ужо па самой назве артыкуле «Нізкі паклон. Удзячнасць і сардэчнае слова праведнай Ефрасінні». Не буду шкадаваць месца, каб як мага паўней перадаць выказванне незабыўнага, шаноўнага Сяргея Грахоўскага: «Дзякую Вам, сапраўднай дачцэ Вялікай Расіі, за Ваш мужны, усхваляваны голас шчырай сястры майго народа. Калі і яго не пачуюць аглухлыя і анямелыя “тутэйшыя”, дык нам пагражае звод, ганьба і сорам перад светам. А Вам, рускай вучонай, што з любоўю авалодала мілагучнаю славянскаю мовай, якой выраклася большасць чыноўнікаў і нашых “абраннікаў”, што аж вылузваюцца, каб увесці так званае двухмоўе, ведаючы, што беларуская мова не будзе дзяржаўнаю, а толькі падманным прыкрыццём так званага суверэнітэту. І гэта чаўпуць пасланцы ў Вышэйшую Раду, учарашнія дзеці вёскі, забытых калыханак і мудрых казак… Сардэчнае дзякуй Вам, Праведная Ефрасіння-Мудрая. І верш Вам на ўспамін». З яго прывяду такія радкі:

Можна хату спаліць,
Папрастрэльваць галовы,
Але нельга забіць
Неўміручае мовы.

Шырокі рэзананс у людзей, не абыякавых да таго, якой будзе ў нас вышэйшая школа, выклікаў артыкул Е. Андрэевай «Годзе беларусам у адзіноце заставацца народам без нацыянальнага ўніверсітэта». Шырокі мо яшчэ і таму, што змешчаны ён быў не ў апазіцыйнай, а ў афіцыйнай газеце «Звязда» (6 лютага 1998 г.). 6 сакавіка рэдакцыя гэтай жа газеты змясціла шэраг водгукаў чытачоў на публікацыю Е. Андрэевай. Сярод тых, хто адгукнуўся, былі людзі самых розных прафесій і з самых розных раёнаў краіны. Амаль усе падзялялі погляд моцна заклапочанага сірочым лёсам нацыянальнай вышэйшай школы аўтара. Яго Мікалай Лавіцкі залічыў да найлепшых прадстаўнікоў рускага народа, якія на Беларусі

«займаюцца нацыянальным адраджэннем». Немалаважнае значэнне публікацыі Е. Андрэевай заключалася ў тым, што ў людзей з'явілася жаданне выказацца ў газеце «Звязда» па самых надзённых пытаннях нашага да апошніх падвалінаў здэфармаванага жыцця. Не мелася жадання (а мо гэта толькі з-за страху страціць добрааплатнае службовае месца) у афіцыйных асобаў, таму аглядальнік лістоў на артыкул Е. Андрэевай Сяргей Шаўцоў вымушаны быў папрасіць выказацца начальніка Галоўнага ўпраўлення вышэйшай адукацыі Міністэрства асветы БССР Валерыя Дабранскага. Высокі чыноўнік саму ідэю стварэння нацыянальнага ўніверсітэта назваў надуманай і запэўніў, што гэта зусім не ўваходзіць у планы міністэрства. Ён лічыў яе непатрэбнай з той прычынай, што кожнаму студэнту дадзена права выбару мовы навучання; што пры неабходнасці вышэйшая школа можа адкрываць у сябе беларускамоўныя плыні, ні слова не сказаўшы, з якімі гэта звязана цяжкасцямі і перашкодамі. Не выпадкова таму беларускамоўнае навучанне ва ўніверсітэтах гадамі знаходзілася ў зародкавым стане, галоўным чынам па віне кіраўнікоў такіх навучальных установаў. Не назіралася вялікага жадання і ў абітурыентаў у выбары беларускамоўных плыняў, бо кожны ведаў, што па заканчэнні вучобы яму давядзецца працаваць у рускамоўных калектывах прадпрыемстваў і ўстаноў, бо аніводнае з іх не вяло свае службовыя справаздачы пабеларуску. Е. Андрэева і яе аднадумцы глядзелі на першы ў краіне нацыянальны ўніверсітэт як на піянера, які паслужыць прыкладам паступовай беларусізацыі ўсёй вышэйшай школы, чаму тады і сёння супраціўляецца не толькі Міністэрства асветы, але і само кіраўніцтва Рэспублікі Беларусь, груба парушаючы ўведзенае з яго ж ініцыятывы дзяржаўнае двухмоўе.

Публікацыі Е. Андрэевай, асабліва па праблеме стварэння ў Рэспубліцы Беларусь не ілюзорнай, а па-сапраўднаму нацыянальнай сістэмы нацыянальнай адукацыі, мо нікога так моцна не хвалявалі, як многіх адпраўленых на пенсію настаўнікаў. І ў іх былі важкія падставы на гэта, бо ўсё ж сваё жыццё даводзілася не па ўласнай ініцыятыве будаваць навучальна-выхаваўчы працэс не на роднай для школьнікаў беларускай мове, а на рускай, даваць неадпаведныя ісціне веды па гісторыі Бацькаўшчыны, узгадоўваць у духу нейкага аморфнага сацыялістычнага інтэрнацыяналізму, а не жыццестваральнага нацыянальнага патрыятызму. Настаўніка-пенсіянера з в. Слабада Мазырскага раёна Гомельскай вобласці Сяргея Шандракова ўзяцца за пяро падштурхнуў надрукаваны 12 студзеня 2001 года ў «Народнай волі» артыкул Е. Андрэевай «Я з вамі,

змагары за беларускасць!». Ён дазволіў сабе закончыць свой водгук на яе выступленне такімі пахвальнымі словамі:

«Беларусы ўдзячны Вам, шаноўная, што, жывучы ў Беларусі, Вы сталі яе сапраўднай патрыёткай. Вы дапамагаеце нам у барацьбе за незалежнасць нашай краіны, развіццё нашай духоўнасці, захаванне беларускага этнасу.

Я зайздрошчу студэнтам, якія маюць магчымасць Вас слухаць, вучыцца ў Вас. Здароўя Вам і плённай працы! Мы з Вамі!» («Народная воля», 6 сакавіка 2001 г.).

Мо нішто так не радавала, нішто так не натхняла Ефрасінню да самаадданай працы на беларускі інтарэс, як падтрымка яе ў гэтай гістарычнай важнасці справе самімі студэнтамі беларускага аддзялення філалагічнага факультэта педінстытута. Яна прасіла іх падчас перапынку паміж лекцыямі ці семінарскімі заняткамі смела заяўляць, дзе дапускала няправільныя беларускія мовазвароты, ужывала русізмы, бо жадала як найхутчэй, якасна авалодаць беларускай літаратурнай мовай. З гэтага боку дапамога студэнтаў была вельмі істотнай. Адсутнічалі ўсялякія насмешкі, перадражніванні, бо ўсе ведалі, што любімы, паважаны педагог рускі па паходжанні. Неабходнасць у такіх бясплатных добразычлівых кансультацыях адпала дзесьці на пятым-шостым годзе беларускамоўнага выкладання. Ад гэтага часу ўжо сама Ефрасіння Георгіеўна папраўляла каго-небудзь са студэнтаў за моўныя агрэхі.

Сваю непадробную любоў, сваю шчырую павагу да педагога студэнты імкнуліся перадаць у самых розных формах, але найчасцей праз выкарыстанне сродкаў педагагічнага друку. У большасці выпадкаў пісалі ў газеты «Настаўніцкая газета» і «Настаўнік» (выдавалася Беларускім дзяржаўным педагагічным універсітэтам імя Максіма Танка). У апошняй з названых газет (ад 27 мая 1999 г.) студэнтка 104-й групы факультэта беларускай філалогіі і культуры Алена Зайцава ў сваім артыкуле «Слаўная Ефрасіння з велічным сэрцам» прадставіла яе чытачам як «змагарку за сапраўднае нацыянальнае адраджэнне».

Станавілася ледзь не практыкай складанне студэнтамі вершаў-прысвячэнняў свайму любімаму педагогу Ефрасінні Георгіеўне. Уручаліся яны не ў якой-небудзь урачыстай абстаноўцы, а часцей за ўсё да пачатку лекцыі ці семінарскага занятку іх клалі на стале для выкладчыка. Часта перадавалі ў рукі ў перапынку паміж заняткамі. Прывяду два з такіх аматарскіх вершаў:

Мы не забудзем Вашу шчырасць
І дабрыню — не напаказ.
Матулі толькі так вучылі
З любоўю і даверам нас.

*(30-я група факультэта беларускай
філалогіі і культуры БДПУ. 13 чэрвеня 2000 г.)*

Не, Вы не такая, зусім не такая,
Як ёсць тысячы нашых людзей.
Ваш Божы дар, і талент,
І прызванне вучыць дзяцей.

А яшчэ відавочны і мудрасць,
І вопыт вялікі ў яе.
Ефрасіння Радзіме служыць,
Праз дзяцей сваю службу нясе.

Барацьбіт за свабоду краіны
І за чыстыя душы людзей,
Дзякуй Вам, што Вы ёсць, Ефрасіння!
Вашу справу працягнем далей.

*(Студэнткі 106-й групы факультэта беларускай
філалогіі і культуры БДПУ Мусько Кацярына
і Рудзінская Таццяна. 28 чэрвеня 2000 г.)*

Здаралася і такое, што на публікацыі Ефрасінні адгукаліся нават і навучэнцы агульнаадукацыйных школ, у прыватнасці дзевяцікласніца А. Іода з Ашмянцоўскай СШ Гродзенскай вобласці. Вось што яна пісала ў «Настаўніцкую газету» (24 лютага 1994 г.): «Я вельмі ўдзячна Вам, паважаная Ефрасіння, за тое, што Вы неабыякава адносіцеся да беларускай мовы. Хачу Вам прызнацца, што мяне вельмі зацікавіла, уразіла і сур'ёзна закранула маю душу Ваша пісьмо. Я ведала, што знойдзецца чалавек, які заступіцца за нашу мову, але не падазравала, што гэта будзе жанчына, руская па нацыянальнасці. Прыміце, паважаная Ефрасіння, мой нізкі паклон!»

Допіс А. Іоды дапоўніла такімі словамі яе настаўніца Таццяна Бурнус: «Магчыма, Андрэева — пасланніца Божая і з'явілася на свет, каб прадоўжыць справу знакамітай беларускай асветніцы Ефрасінні Полацкай».

Пры жаданні пералік такіх цёплых, сардэчных выказванняў вучняў і настаўнікаў на адрас Ефрасінні Андрэевай за яе шчымлівы боль за гаротны стан беларускай мовы, звароты да людзей адумацца, не даць ёй загінуць не ўяўляла б аніякай цяжкасці прадоўжыць. Так, у невялікай публікацыі «На карысць Беларусі» Л. Вяжэвіч называе яе сумленным чалавекам — грамадзянінам, «які аднолькава шчыра і паважліва ставіцца да моў і культур двух блізкіх па духу і сумежных па тэрыторыі народаў-суседзяў» (беларускага і рускага. — *Л. Л.*), піша пра ўдзячнасць беларускага народа гэтаму высокага прафесіяналізму, інтэрнацыяналістычнаму па духу педагогу «за навуковы ўклад у беларускую педагогіку і нацыянальнае адраджэнне» («Настаўніцкая газета», 7.11.1995).

У Ефрасінні заўжды была багатай перадднавагодняя пошта. Найчасцей пісалі прадстаўнікі педагагічнай інтэлігенцыі, выказваючы шчырыя словы падзякі, што ў вядомага навукоўца знаходзяць правільныя адказы на пытанні, як пабудаваць у краіне сапраўдную нацыянальную сістэму адукацыі, якая замест разбурэння культурна-моўнага патэнцыялу беларусаў спрыяла б яго ўзбагачэнню, сваёй русіфікатарскай практыкай не дэфармавала б іх нацыянальную самасвядомасць, а наадварот, увесь педагагічны працэс скіравала б дзеля яе аздараўлення, умацавання. Абмяжуюся толькі прывядзеннем тэксту паштоўкі дацэнта Брэсцкага дзяржаўнага ўніверсітэта Марыі Лукашук ад 18 снежня 1995 года:

«Шаноўная спадарыня Ефрасіння. Прыміце шчырыя віншаванні з новым, 1996 годам! Дай Бог Вам здароўя, шчаслівых дзён, натхнення! Дзякуй Вам, рускай, за любоў і пашану да зямлі беларускай, за Ваш артыкул “На пачэсны пасад” — чытаю студэнтам — за водпаведзь Харламаву*. Мы ганарымся Вамі. Вы наша Ефрасіння Полацкая».

Аўтарытэт Е. Андрэевай у нацыянальна-патрыятычных колах краіны добра засведчаны і такім фактам. У 2000–2001 гадах старшыня Мінскага гарадскога культурна-асветнага клуба «Спадчына» Анатоль Белы задумаў устанавіць на прылеглай да свайго створанага ў Старых Дарогах музея тэрыторыі стэлу з пералікам на ёй прозвішчаў людзей, якія прынеслі найбольшую карысць для святой беларускай справы. З гэтай мэтай звяртаўся ў розныя ўстановы і арганізацыі прапанаваць такія кандыдатуры. Вылучыла іх і кіраўніцтва Дзяржаўнага літаратурнага музея Янкі Купалы ў

---

* Доктар педагагічных навук, прафесар, член-карэспандэнт Акадэміі педагагічных навук СССР. Выступаў супраць утварэння ў Беларусі нацыянальнага ўніверсітэта.

колькасці 45 чалавек, пераважна тых, хто ўнёс значны ўклад у развіццё і захаванне беларускай мовы. Вось некаторыя з іх: Сяргей Палуян, Максім Гарэцкі, Канстанцыя Буйло, Усевалад Ігнатоўскі, Рыгор Барадулін, Сяргей Грахоўскі… і Ефрасіння Андрэева. Такой павазе была бясконца рада. Дый як тут было не радавацца: такога ж высокага прызнання не атрымаў больш ніхто са шматлікага калектыву прафесараў і выкладчыкаў БДПУ імя Максіма Танка.

Ефрасіння любіла і лічыла сваім абавязкам ведаць пра стаўленне да беларускай культуры і мовы, нацыянальнай адукацыі сваіх студэнтаў, дзеля чаго праводзіла сярод іх пісьмовыя апытанні, хаця такое і забаранялася кіраўніцтвам педінстытута. Я дазволю сабе прааналізаваць матэрыялы такога апытання, праведзенага ў маі 1997 года сярод першакурснікаў. У дадзеным выпадку мой выбар зусім не выпадковы. Па-першае, у 1997 годзе ўжо мінула два гады пасля майскага 1995 года рэферэндуму, згодна з якім статус дзяржаўнай быў нададзены насуперак беларускаму нацыянальнаму інтарэсу і рускай мове. Гэтых двух гадоў хапала, каб правільна ацаніць, наколькі адпавядала ці супярэчыла такому інтарэсу ўведзенае афіцыйнае двухмоўе. Па-другое, у апытанні ўдзельнічала моладзь, якая на працягу больш як пяці гадоў узгадоўвалася ў нацыянальным духу, што ў нашых навучальных установах не практыкавалася прыкладна з сярэдзіны 1930-х гадоў. У час апытання студэнты павінны былі на працягу дзвюх акадэмічных гадзін адказаць на пытанні: Якім мне бачыцца XXI стагоддзе? Якой мне падаецца сучасная культура Беларусі? Якой павінна быць у нас сістэма адукацыі? Як я стаўлюся да ўтварэння адзінай саюзнай расійска-беларускай дзяржавы?

Пры азнаямленні з адказамі студэнтаў на першае пытанне адчуваецца іх даволі вялікі аптымізм. Беларусь XXI стагоддзя ўспрымаецца імі як самадастатковая ў этнакультурным і суверэнная ў палітычным плане дзяржава, шмат у чым не падобная на суседнія краіны, што высока ўздыме яе аўтарытэт у вачах усяго цывілізаванага свету. У яе хопіць сілы адпрэчыць не толькі русіфікацыю, але і ўсе астатнія формы культурна-моўнай асіміляцыі, паколькі беларусы будуць жадаць і прыкладваць усе намаганні, каб развівацца не на чужым, а на ўласным грунце.

Мала, вельмі мала каго задавальняў тагачасны стан культуры Беларусі, паколькі ў ёй панаваў рускі пачатак, што не давала аніякіх падстаў называць яе беларускай, нацыянальнай. Бачачы асноўную прычыну такой дэградацыі духоўнага жыцця краіны, многія студэнты прапаноўвалі нават цалкам вызваліць яго ад рускага культурнага ўплыву, спасылаючыся на

практыку шэрагу перадавых краін Еўропы, дзе, акрамя культуры тытульнай нацыі, дзяржава зусім не бярэ на сябе абавязку пратэжыраваць развіццю культуры яшчэ якога-небудзь народа. Амаль усе пануючае становішча рускага фактару ў духоўным жыцці Беларусі тлумачылі не схільнасцю да гэтага яе народа, а лічылі вынікам мэтанакіраванай русіфікатарскай палітыкі царызму, партыі бальшавікоў, прэзідэнцкай вертыкалі Рэспублікі Беларусь, дзеля чаго яна і пайшла на ўвядзенне афіцыйнага двухмоўя. Пад рэзкую крытыку апытаных трапілі прадстаўнікі творчай інтэлігенцыі краіны з-за іх актыўнага ўдзелу ў стварэнні і распаўсюджванні на этнічнай тэрыторыі беларусаў чужых ім духоўных каштоўнасцяў у рускай мове. З усёй катэгарычнасцю сцвярджалася, што такія творцы не ў стане зрабіць нічога карыснага для Бацькаўшчыны, што было б куды лепш, каб яны са сваім талентам эмігрыравалі ў Расійскую Федэрацыю і там узбагачалі яе культуру. Вялікі непакой выклікала ў студэнтаў імкненне — тады яшчэ спарадычнае — маладых майстроў мастацкага слова з ліку беларусаў працаваць у сябе на радзіме на ніве рускай літаратуры, што, сцвярджалася, акрамя шкоды, нічога іншага не магло даць нашай нацыянальнай культуры.

З больш чым ста апытаных студэнтаў ніхто не даў станоўчай ацэнкі ўзаконенай у Беларусі сістэме адукацыі. Не даў таму, што ў яе навучальна-выхаваўчым працэсе вядучае месца належала рускай мове, пазіцыі якой прыкметна сталі ўмацоўвацца пасля майскага рэферэндуму. Прызнавалі за ненармальную з’яву, што з усіх еўрапейскіх краін толькі Беларусь узгадоўвае сваю маладую змену пераважна на чужых культурна-моўных стандартах, у выніку чаго нават пасля атрымання дыплома аб заканчэнні вышэйшай навучальнай установы мала хто валодаў беларускім словам. Такая заганная сістэма адукацыі, пісалі студэнты, з’яўляецца сур’ёзнай, непераадольнай перашкодай для фарміравання беларускай нацыянальнай інтэлігенцыі, без якой вельмі мала шанцаў у народа захаваць сябе ў якасці самабытнай этнакультурнай супольнасці. Абсалютнай бальшынёю студэнтаў руская мова ў сферы адукацыі нашай краіны разглядалася як звычайны прадмет навучання, а не галоўны сродак педагагічнага працэсу.

Не могуць не здзіўляць правільныя ўяўленні будучых філолагаў пра палітычнае аб’яднанне Беларусі з Расіяй у адну саюзную дзяржаву. Многія лічылі, што нашы дзяржаўныя дзеячы ідуць на такую інтэграцыю не толькі з-за страшэннай дэфармацыі сваёй нацыянальнай самасвядомасці, а яшчэ і з-за адсутнасці нават мінімальнага досведу незалежнага палітычнага кіравання краінай, чаму ў гады існавання СССР Маскоўскі Крэмль нікога

не вучыў з высокіх эшалонаў партыйных і савецкіх органаў улады саюзных рэспублік. Нежаданне бачыць Беларусь і Расію ў адной краіне часцей за ўсё тлумачылася — і не без падстаў — тым, што моцна зрусіфікаванае насельніцтва першай вельмі хутка страціць сваё нацыянальнае аблічча ў рускай культурна-моўнай стыхіі.

Калі чытаў такія разумныя, спелыя развaжанні студэнтаў-першакурснікаў, не раз у галаву прыходзіла думка: вось каб з іх было сфарміравана палітычнае кіраўніцтва тагачаснай Рэспублікі Беларусь. За пяць-дзесяць гадоў яны ліквідавалі б усе бар'еры на шляху нашай краіны да сапраўднага суверэнітэту, высокаразвітой эканомікі, самабытнага этнакультурнага жыцця. Наступныя маладыя пакаленні беларусаў ведалі б пра даўно абрыдлую русіфікацыю толькі па кнігах. Усе сферы грамадскай дзейнасці чалавека абслугоўваліся б толькі беларускай мовай, што спрыяла б павышэнню яе прэстыжнасці ў народзе, узбагачэнню лексікі. Сёння нам не рэзала б аж да слёз вочы антыбеларускае візуальнае афармленне населеных пунктаў. Замежныя госці, трапіўшы ў Мінск, не задаваліся б пытаннем: гэта рускі ці беларускі горад? Злы лёс пакуль што не наканаваў беларусам у XXI стагоддзі прыстойнага, самадастатковага нацыянальнага жыцця. Уласны дзяржаўны чыноўніцкі апарат давёў яго да поўнай дэградацыі. Яшчэ ніколі яно не знаходзілася на такой далёкай адлегласці ад беларускасці, як сёння.

Было б памылкова думаць, што студэнты выказвалі такія прагрэсіўныя меркаванні на нацыянальную культуру, адукацыю, мову, дзяржаўны суверэнітэт, з вялікім аптымізмам збіраліся ўступіць у новае, XXI стагоддзе пад уплывам толькі свайго педагога Ефрасінні Георгіеўны, хаця гэтым ключавым пытаннем жыцця беларускага народа яна і прысвяціла нямала публікацый, разглядаючы іх нязменна з пазіцый беларускага нацыянальнага інтарэсу. Правільна разабрацца ў мінулым, сучасным жыцці і перспектывах далейшага развіцця краіны студэнтам у першую чаргу дапамагалі атрыманыя імі ў агульнаадукацыйнай школе, педуніверсітэце аб'ектыўныя веды па айчыннай гісторыі і культуры, дзейнасць афіцыйных сродкаў масавай інфармацыі, якія да сярэдзіны 1990-х гадоў ішлі ў народ з праўдзівым словам, не былі яшчэ так моцна спалітызаванымі.

Ніжэй я прывяду некалькі найбольш характэрных для ўдзельнікаў апытання выказванняў, свядома ўтойваючы сапраўдныя прозвішчы, каб не натварыць для колішніх студэнтаў бяды, бо сёння ў афіцыйных колах не прынята даваць аб'ектыўную ацэнку дзяржаўнай нацыянальнай

палітыцы. Пра яе звычайна пішуць і гавораць толькі ў пазітыўным плане, а найчасцей — проста маўчаць, бо, відаць, не знаходзяць у ёй нічога па-сапраўднаму нацыянальна-беларускага, з чым можна было б выйсці ў людзі.

*«Я спадзяюся, што, абапіраючыся на гістарычны вопыт мінулых стагоддзяў, аналізуючы памылкі іншых (краін. — **Л. Л.**), наш народ зможа стварыць культуру, адукацыю, мову, адпаведныя яго этнічнаму патэнцыялу і ўзроўню... Трэба спадзявацца, што ў будучым людзі зразумеюць першаснае значэнне развіцця культуры краіны, якая была б заснавана на ўласным этнічным матэрыяле, мела б нешта сваё, адрознівалася, але не цуралася і здабыткаў іншых народаў. Гэта ўсё, здаецца, дало б штуршок, стымул нейкі для таго, каб розум лепшых людзей Беларусі быў накіраваны менавіта на ўздым свайго, роднага, паляпшэнне культуры і аўтарытэту роднай краіны, а не замежнай, як гэта робіцца ў наш час за адпаведны матэрыяльны дабрабыт... Нацыя перастае існаваць, калі яна губляе мову. Мова — гэта першааснова ўсёй культуры, існуючай на пэўнай тэрыторыі, яна з'яўляецца яе неабходным элементам».*

*В. Т.*

*«Калі мы будзем заплюшчваць вочы на ўсё тое, што робіцца на нашай Радзіме, то праз некалькі гадоў знікне ўвогуле не то што культура, а згіне ўвесь беларускі народ».*

*А. М.*

*«Без мовы няма культуры народа, а без культуры і мовы — будучыні народа. Беларусы маюць права называцца беларусамі толькі тады, калі ў іх ёсць нацыянальная самасвядомасць. На маю думку, яны хутка гэта зразумеюць і зробяць усё, каб наша родная мова квітнела і развівалася. У будучым беларуская мова сапраўды стане дзяржаўнай. На ёй... пачнуць размаўляць і будуць ганарыцца гэтым».*

*С. Т.*

*«У XXI стагоддзі надыдзе час, і наша беларуская мова абавязкова будзе дзяржаўнай. І ніякая руская мова не зможа з ёю*

*спаборнічаць. Беларуская мова ўварвецца ў дзяржаўныя ўстановы, на прадпрыемствы, у ВНУ, школы, іншыя месцы».*

*В. В.*

*«Адукацыя павінна весціся на роднай мове... Дзяржаўнай і галоўнай мовай, безумоўна, павінна быць беларуская мова. На ёй павінна весціся справаводства, размаўляць дзяржаўныя дзеячы».*

*А. Л.*

*«Заняткі неабходна праводзіць менавіта на роднай мове. Усе выдатныя педагогі, гуманісты прытрымліваліся такой думкі. Чалавек толькі тады стане чалавекам, асобай у поўным сэнсе слова, калі будзе ведаць у першую чаргу родную мову».*

*А. Д.*

*«Мова — гэта душа народа, наш галоўны нацыянальны скарб. Ці доўга пражыве чалавек, калі ў яго вырваць родную мову? Не. Загіне чалавек. Таму гонар і абавязак усіх нас — шанаваць і любіць мову, садзейнічаць яе росквіту і развіццю.*

*Няма мовы — няма суцяшэння ў горы. Страчваючы мову, мы страчваем не частку нашай культуры, але і права называць сябе беларусамі... У наш час мова зневажаецца ні кім-небудзь, а намі ж беларусамі... Прыйдзе час, і спадзе заслона з нашых вачэй, і мы ўбачым, якую невычэрпную крыніцу каштоўнасцяў трымаем у сваіх руках. А веру я таму, што былі і будуць у нашай старонцы Коласы, Купалы, Багдановічы, якія ўсё сваё жыццё прысвячалі служэнню Бацькаўшчыне, развіццю мовы».*

*Н. С.*

*«Мне здаецца, што наша мова не зможа дасягнуць сваёй кульмінацыі ў XXI стагоддзі, бо для таго, каб нацыя загаварыла на сваёй роднай мове пасля стolькіх дзясяткаў гадоў прыціскання яе з боку рускай мовы, патрэбен даволі значны час. Аднак калі будуць прыняты пэўныя законы, калі будзе ўзнята нацыянальная самасвядомасць нашага народа, калі кіраўніцтва дзяржавы будзе зацікаўлена ў развіцці мовы, калі гістарычнае мінулае беларусаў не будзе забыта... дык працэс зможа адбыцца к пачатку XXII ст.».*

*А. К.*

*«Спадзяюся, што ў XXI стагоддзі беларуская мова загучыць на ўсю сваю моц. Яна будзе такая (паводле сваіх сацыяльных функцый. —* ***Л. Л.****), як руская, украінская, польская. Думаецца і хочацца, каб руская мова ў такой дзяржаве, як Беларусь, знікла наогул. Бо чаму, напрыклад, у Расіі побач з рускай не ўжываюць беларускую, а на Украіне — якую-небудзь літоўскую… Я спадзяюся, што руская мова наогул знікне з ужывання ў Беларусі і стане для нас такой жа, як англійская, іспанская, французская і інш. Людзі ў XXI стагоддзі ўсвядомяць сваю этнічную самасвядомасць, будуць лічыць сябе сапраўднымі беларусамі. І толькі тады Беларусь дасягне значных поспехаў у развіцці культуры, мовы, адукацыі. І яна зойме належнае ёй месца ў сусветнай супольнасці, стане такой жа вядомай, як Англія, Францыя, Германія, са сваёй культурай і мовай».*

*Л. В.*

*«Калі ў дзяржавы няма адной дзяржаўнай мовы, то цяжка сказаць, што яна мае дзяржаўны суверэнітэт. У кожнай нацыі ёсць толькі адна нацыянальная мова, а не дзве, тры».*

*Л. Х.*

*«Паколькі мы грамадзяне Беларусі, то мовай нашай павінна быць беларуская літаратурная, унармаваная, узаконеная, прычым адна дзяржаўная, а не двухмоўе, як цяпер. А то якія мы беларусы, калі размаўляем на рускай мове? На маю думку, усе школы, навучальныя ўстановы павінны быць на беларускай мове навучання».*

*Н. М.*

*«Тое, што зараз адбываецца ў нашай рэспубліцы, г. зн. двухмоўе, для мяне гэта незразумела. Мы — беларусы. У нас павінна быць адна дзяржаўная мова — беларуская. У той самай Расіі дзяржаўная мова — руская, а не якая-небудзь іншая, хаця ў Расіі жывуць шмат іншых нацый. Няўжо мы так нізка палі, што не можам адстаяць сваё? І гэта, між іншым, цягнецца даўно».*

*С. Д.*

У XXI стагоддзі *«я думаю, навучанне будзе беларускамоўнае, бо некалі ж мы зразумеем, што ў кожнага народа ёсць свая мова,*

*якая яму бліжэй і на якой лягчэй размаўляць, і не будзем чапляцца за чужую, тлумачачы гэта тым, што шмат гадоў вывучалі чужую і цяжка пераключыцца на іншую. Дый, на мой погляд, у кожнага народа павінна быць свая мова, свае адметныя ўласцівасці. Ды і не вельмі добра браць нешта ў суседа, калі ў самога ёсць не горшае, бо наша беларуская мова нічым не саступае іншым мовам».*

*Т. К.*

*«Калі беларусы ўсвядомяць сябе беларусамі (а гэта вельмі складаны і супярэчлівы працэс для псіхікі многіх людзей), тады пачнецца добраахвотнае карыстанне роднай мовай, тады яна будзе пранікаць у кожную хату, у свядомасць кожнага чалавека, будзе ўжывацца і ў школе, і на працы, і дома, тады будзе ў належным стане і адукацыя. Людзі пачнуць больш цікавіцца родным словам, яго паходжаннем, а гэта цесна звязана з гісторыяй Бацькаўшчыны, з яе культурным развіццём… Беларуская мова можа жыць на вуснах народа, можа не загінуць, калі б цяпер пачалі весці навучанне толькі на роднай мове, усе дзяржаўныя і недзяржаўныя ўстановы вялі хоць бы дакументацыю на беларускай мове, яна паступова ўвайшла б у жыццё людзей, дзеці б з дзяцінства чулі роднае слова і з малаком маткі ўпітвалі б у сябе».*

*А. М.*

З увядзеннем афіцыйнага двухмоўя ў адпаведнасці з вынікамі майскага рэферэндуму *«пачалі зачыняцца беларускамоўныя дзіцячыя сады (або пераводзіцца на рускую мову), пачалі пераводзіцца на рускую мову навучання ліцэі, гімназіі, школы. А ў вучэбнай школьнай праграме пачала скарачацца колькасць гадзін па беларускай мове і літаратуры… дык якая можа ісці размова пра квітнеючы лёс нашай мовы і літаратуры, культуры».*

*Т. Х.*

*«Гэта цудоўна, што наша краіна жыве ў садружнасці з іншымі краінамі, але яна павінна быць суверэннай дзяржавай. Не могуць дзве розныя краіны (Рэспубліка Беларусь і Расійская Федэрацыя. — **Л. Л.**) існаваць пад адным гербам, сцягам, гімнам… У кожнай з іх захаваліся свае спецыфічныя рысы характару людзей, свае ўласныя*

*традыцыі. І нельга зараз гэта змешваць, бо гэта значыць — пазбавіць нацыю сваёй асабістай індывідуальнасці».*

*А. Б.*

*«Беларусь павінна быць незалежнай. Таму што толькі тады яна зможа ўзняць культуру на належны ўзровень. Аб'яднаўшыся з Расіяй, як бы мы ні хацелі, але руская культура будзе навязвацца нам, як і раней. Мова можа загінуць. Я хачу, каб Беларусь была незалежнай... Пакуль мы не ўсвядомім, што мы — беларусы, што ў нас свая культура, свой гонар, Беларусь ніхто ўсур'ёз успрымаць не будзе. На нас будуць глядзець (і глядзяць), як на "халуёў" Расіі. І толькі тады, калі Беларусь скіне з сябе халуйства, выйдзе з-пад абцаса Расіі, на нас паглядзяць, як на сапраўдную нацыю».*

*С. К.*

*«Што датычыць суверэнітэту і месца Беларусі ў сусветнай супольнасці, дык цяперашняе становішча мне не падабаецца. Беларусь, на мой погляд, апынулася, ужо каторы раз, "пад абцасам у жонкі", дзе ролю жонкі выконвае Расія. Скажу даволі адкрыта, што мне не падабаецца такі шлях».*

*Т. С.*

*«Я не супраць іншых моў, наадварот, лічу, што чалавек павінен узбагачацца ўсебакова і, тым больш, павінен паважаць культуру іншых народаў. Але аб якой культуры і павазе да яе можа ісці гаворка, калі мы не маем ні таго, ні другога. Мы занядбалі сваю культуру, затапталі ў бруд сваю мову, прадалі сваю незалежнасць. Дык аб чым можа сёння ісці гаворка? І няўжо ж яшчэ хто-небудзь у нас будзе казаць, што ён народ, які любіць і паважае каштоўнасці свайго краю, любіць сваю мову і жыве ў незалежнай краіне?»*

*З. М.*

*«Калі Беларусь не будзе развівацца самастойна, не набудзе свайго дзяржаўнага суверэнітэту, а будзе развівацца пад уплывам Расіі, напрыклад, ці іншай краіны, то ні аб якім удасканаленні беларускай мовы, а за ёй і культуры не можа ісці гаворкі... Набыць Беларусі*

*падарваны аўтарытэт дапаможа сённяшняе новае пакаленне. Я, са свайго боку, буду прыкладваць усе сілы і намаганні...»*

*А. В.*

*«У нас ёсць свая мова, свая арыгінальная культура, і мы не будзем у XXI стагоддзі саромецца сваёй нацыі. У нас ёсць чым ганарыцца, і мы гэта будзем рабіць».*

*Т. Б.*

*«Я бачу Беларусь (у XXI стагоддзі. — **Л. Л.**) незалежнай, суверэннай краінай, квітнеючай і прыгожай... Яна будзе падтрымліваць эканамічныя сувязі з іншымі краінамі, але ні ў якім разе — схіляць галаву і гнуць спіну перад магутнай манархічнай Расіяй... Беларусь варта лепшай долі».*

*М. Д.*

*«Калі Беларусь стане калоніяй Расіі, тады ні мовы, ні культуры беларускай не будзе, усюды запануе руская мова і будзе ўведзена палітыка русіфікацыі зноў».*

*А. Ц.*

*«Падпісаны дагавор з Расіяй дае мала спадзяванняў на тое, што наша краіна захавае свой суверэнітэт і сваю культуру, нягледзячы на тое, што нам абяцаюць гэта. Увогуле аб'яднанне, на мой погляд, — крок назад у развіцці як культуры, так і мовы».*

*Н. Л.*

*«...вельмі хочацца, каб наша краіна звалася Рэспублікай Беларусь у поўным сэнсе гэтага слова, каб яна была незалежнай дзяржавай, а не нейкім прыдаткам Расіі... А інакш наша краіна можа зусім хутка згінуць».*

*В. К.*

*«Мова — аснова нацыі, і гэтым усё сказана. Калі мы будзем размаўляць толькі на рускай мове, то нас ніколі не назавуць беларусамі, значыць, мы ніколі не будзем мець сваёй дзяржавы».*

*А. Р.*

Лічу, што няма аніякай патрэбы каментаваць выказаныя вышэй меркаванні студэнтаў-першакурснікаў. Тут усё зразумела. Навучалася ў педуніверсітэце моладзь, якая пры прагрэсіўным палітычным ладзе ў краіне магла неверагодна шмат чаго зрабіць дзеля яе нацыянальна-культурнага адраджэння. Каб у такой моладзі была рэальная магчымасць свае прагрэсіўныя нацыянальныя погляды праводзіць у жыццё, працуючы на розных дзялянках сферы адукацыі, сёння яна цалкам адышла б у сваёй практычнай дзейнасці ад усяго таго, што вядзе да русіфікацыі маладой змены беларускага народа, а наадварот, толькі садзейнічала б захаванню яго этнічнай індэнтычнасці. З пагаршэннем стану здароўя педагог Ефрасіння Георгіеўна вызваліла сваю кватэру ад вялікай колькасці службовай дакументацыі, чаго не дазволіла сабе зрабіць з матэрыяламі праведзенага ў 1997 годзе апытання студэнтаў, ведаючы, што гэта, магчыма, калі-небудзь каму-небудзь спатрэбіцца. І ў гэтым яна не памылілася. Маючы пад рукамі такія матэрыялы, я проста не мог не выкарыстаць іх у дадзенай публікацыі.

Каб аб'ектыўна, з належнай глыбінёй ацаніць ролю нацыянальнай адукацыі ў лёсе таго ці іншага народа, і асабліва месца ў ёй моўнага фактару, неабходна добра разбірацца ва ўсіх тонкасцях нацыянальнай палітыкі ўвогуле. Я заўважаў па кнігах і артыкулах, што чытала Ефрасіння: праблема вельмі цікавіла яе. І як вынік такой начытанасці — старалася і сама выказвацца па дадзенай праблеме. Наглядны прыклад гэтаму яе артыкул «У шлюб без пасагу» («Народная воля». 29 сакавіка 2002 г.). У той час, як і сёння, у афіцыйным друку мусіравалася праблема стварэння саюзнай расійска-беларускай дзяржавы. Усе апаненты яе былі заадно: у такім палітычным аб'яднанні ў Беларусі не будзе аніякіх шанцаў захаваць сваю этнакультурную самабытнасць, тытульная нацыя нашай краіны адразу трапіць пад магутны прэс не толькі ўнутранай, але і знадворнай русіфікацыі і вымушана будзе закончыць сваё існаванне як самастойная, адрозная ад рускай нацыі. Апошняя цалкам паглыне яе. Такое магло б не здарыцца, калі б на момант аб'яднання ў адзіную саюзную дзяржаву Беларусь прыстойна развівалася на сваёй нацыянальна-культурнай аснове. На справе ж у ёй моцна дамінаваў рускі пачатак, таму з усёй справядлівасцю Ефрасіння і назвала свой артыкул «У шлюб без пасагу». Паколькі названы артыкул, нягледзячы на больш як дзесяцігадовы тэрмін з моманту надрукавання, не страціў сваёй актуальнасці і да нашых дзён, ён поўнасцю змешчаны ў дадатку да кнігі, а тут прывяду толькі адзін абзац з яго: «Я не палітык (нават дэпутатам мясцовых Саветаў не абіралася), але лічу,

калі высокія дзяржаўныя дзеячы Беларусі гараць такім вялікім жаданнем палітычна аб'яднацца з Расіяй, яны ў першую чаргу павінны клапаціцца пра навядзенне належнага парадку ў нацыянальна-культурным развіцці сваёй краіны, з тым, каб яна не губляла самабытнага каларыту. Нельга ж з такім дэфармаваным нацыянальным патэнцыялам ісці на заключэнне палітычнага шлюбу беларусаў з рускімі. Для яго патрэбен багаты пасаг: шырока распаўсюджаная ў грамадстве родная беларуская мова, пабудаваная на нацыянальных асновах сістэма народнай адукацыі, свая, адметная, а не запазычаная звонку прафесійная культура». Ва ўсім гэтым мы больш як за дзесяцігадовы тэрмін з часу надрукавання гэтага артыкула ні на крок не пасунуліся наперад. Болей за тое, нацыянальны патэнцыял сучаснай культуры Беларусі ў выніку мэтанакіраванай дзяржаўнай палітыкі русіфікацыі працягваў няспынна разбурацца, чэзнуць. Беларусы сталі яшчэ менш падобнымі на сябе, на беларусаў.

Усё надрукаванае жонкай меў за звычку абавязкова прачытваць. Яна заканамерна прывяла да ўзнікнення, а затым і да ўзрастання ў мяне зацікаўленасці праблемай народнай адукацыі, асабліва яе моўным аспектам. Там, дзе толькі ўзнікала патрэба, абавязкова закранаў яе (адукацыю) у сваіх працах па гісторыі. Ніколі не адмаўляўся ад прапановы Ефрасінні выступаць разам з ёю ў друку па дадзенай праблеме. Пачатак гэтаму паклалі надрукаванай у 1987 годзе ў часопісе «Народная асвета» (№ 6) рэцэнзіяй на выдадзеную ў 1986 годзе ў Маскве «Антологию педагогической мысли Белорусской ССР». З надрукаваннем у сакавіку 1989 года нашага артыкула «Логіка, падказаная жыццём» «Настаўніцкая газета» на сваіх старонках стала рэгулярна асвятляць пытанні нацыянальнай адукацыі на самых розных этапах айчыннай гісторыі, але ўсё ж пераважна на сучасным, калі ва ўмовах гарбачоўскай перабудовы актывізаваліся пошукі па пераўтварэнні ўсёй сістэмы адукацыі ў дзейсны сродак узгадавання маладых пакаленняў беларускага народа ў духу яго нацыянальных культурна-моўных традыцый. Думаецца, што ў «Настаўніцкай газеце» гэтай ключавой педагагічнай праблеме ніхто не прысвяціў столькі публікацый, як Ефрасіння са мной. Рэдакцыя з вялікай ахвотай брала нашыя матэрыялы, бачачы ў іх якраз тое, што патрэбна даць настаўніцтву, каб яно як мага лепш зразумела сваю ролю ў стварэнні нацыянальнай сістэмы адукацыі, для чаго і ў нашай рэспубліцы адкрыліся спрыяльныя ўмовы. Наш сумесны артыкул «Асвета і мова» друкаваўся ў 1990 годзе ў дзевяці нумарах «Настаўніцкай газеты». У такой жа колькасці нумароў яна ў 1992 годзе памяшчала наш артыкул «Нацыянальная асвета: традыцыі і праблемы». У 1994 годзе яе рэдакцыя

выдзеліла нам пяць нумароў пад публікацыю «Нацыянальна-культурнае адраджэнне і асвета». Гэтая публікацыя з яе выразнай адраджэнскай накіраванасцю стала лебядзінаю песняю для «Настаўніцкай газеты». У краіне ўсталёўваўся зусім іншай накіраванасці палітычны рэжым, чаго не магла не ўлічваць, на што не магла рэагаваць рэдакцыя «Настаўніцкай газеты». Матэрыялы для друкавання брала, але толькі далёкія ад праблем фарміравання нацыянальнай сістэмы адукацыі ў мінулым ці на сучасным этапе. Выступаць у друку з такімі артыкуламі не асабліва хацелася. У новым, XXI стагоддзі мы ўжо ні супольна, ні паасобку не друкаваліся ў гэтым, так паважаным у гады нацыянальнага адраджэння педагагічным перыядычным органе.

Не абмінала Ефрасіння сваёй увагай часопісы «Адукацыя і выхаванне», «Народная асвета», «Пралеска». У першым з названых у 1995 годзе быў надрукаваны яе змястоўны артыкул «Ідэі нацыянальнай школы ў педагагічнай публіцыстыцы 1917–1924 гг.» (№ 8), у № 9 за 1996 год надрукавала артыкул «Антон Баліцкі — стваральнік нацыянальнай сістэмы народнай адукацыі Беларусі», у № 12 за той жа год — артыкул «Усевалад Ігнатоўскі — асветнік, педагог», у № 2 за 1997 год — «Праблемы захавання нацыянальных традыцый у агульнаадукацыйнай школе ў 30-х гадах». Не забывалася і пра напісанне вучэбных дапаможнікаў. Назаву толькі некаторыя з іх: «Дошкольное воспитание Беларуси в годы Великой Отечественной войны» (1999, 4,9 д. а.), «Асвета ў старажытнай Беларусі і Вялікім Княстве Літоўскім» (2000, 2,9 д. а.), «Асвета і педагагічная думка Беларусі ў перыяд Рэчы Паспалітай» (2000, 4,6 д. а.), «Асвета на Беларусі ў 1772–1802 гг.» (2001, 3,2 д. а., разам з Л. Лычом), «Гісторыя народнай адукацыі Беларусі (1917–1941)» (2001, 20,0 д. а.). Гэтага саліднага вучэбнага дапаможніка не маглі абысці сваёй увагай крытыкі. Давалі ёй выключна высокую ацэнку. Датычыць гэта і рэцэнзіі Уладзіміра Новіка «Гістарычна выверана…» (Настаўніцкая газета. 2001. 16 кастр.). Некаторыя з раздзелаў дапаможніка друкавала на сваіх старонках рэдакцыя газеты «Наша слова». Апошнія дзве з вышэйпералічаных публікацый Е. Андрэевай з'явіліся на свет ужо пасля перанесенага ёю ў 2000 годзе мікраінсульту. Прыйсці няпрошаным госцем у нашу хату ён мог бы і трохі раней, але, відаць, велізарная радасць ад творчай працы на карысць беларускай справы станоўчым чынам уплывала на жыццёвыя сілы Ефрасінні. Дзеля прадухілення больш сур'ёзнага інсульту максімальна выкарыстоўвалі дасягненні нашай айчыннай медыцыны. На шчасце, былі прыпісаны да лечкамісіі, таму ніколі не існавала пра-

блем са шпіталізацыяй. Вось толькі эфект ад яе атрымлівалі не такі, як спадзяваліся. Усё гэта, мо як нішто іншае, паспрыяла адтэрмінаванню на больш позні час (май 2003 г.) невылечнага захворвання маёй жонкі (інсульт), да якога яна праз упартае супраціўленне, сістэматычнае лячэнне ішла не менш за трыццаць гадоў. Першы паводле ўсіх сваіх паказчыкаў вельмі цяжкі інсульт істотна паралізаваў рухальныя функцыі, амаль цалкам адняў мову. Праўда, праз нейкі час стала паволі вяртацца да больш-менш нармальнага жыцця, але наступныя інсульты не далі ёй хоць крыху аднавіцца. А вось памяць не была парушанай. Разумела, пра што ішла гаворка падчас радыё- і тэлеперадач. Вельмі любіла слухаць, калі я чытаў свае надрукаваныя ў газетах і часопісах артыкулы, як правіла, нацыянальна-адраджэнскага зместу. Захаванне і пасля перанесеных інсультаў практычна ў колішняй ступені разумовай дзейнасці галаўнога мозга дазваляла з удзелам Ефрасінні сумесна падрыхтаваць да друку яе асабістыя ці нашыя сумесныя матэрыялы. Дзякуючы таму, што ў жонкі было нямала амаль што завершаных прац, яна працягвала выступаць у друку, імкнучыся любою цаною давесці іх агульную колькасць да 200. На вялікую радасць, гэтую мэту дасягнула. Падрыхтаваныя да друку працы ўжо я адвозіў у рэдакцыі. Ахвотна згаджаўся быць сааўтарам некаторых з іх. Найбольш запомнілася наша супольная праца па напісанні артыкулаў: «Пратэстанцкая адукацыя і беларускі інтарэс» («Беларускі гістарычны часопіс», 2004, № 3, 0,7 д. а.), «Ля вытокаў універсітэцкай адукацыі» [пра Віленскі ўніверсітэт], («Гісторыя. Праблемы выкладання», 2006, № 9, 0,8 д. а.). Другі з названых артыкулаў завяршыў нашае незабыўнае сумеснае творчае жыццё. Апошняя публікацыя Ефрасінні мела назву «Зрусіфікаванасць — этнічная смерць беларусаў» («Народная воля», 28 жніўня 2008 г.). Яна была падрыхтавана гадоў пяць таму назад, але заляжалася сярод розных паперак. Азнаёміўшыся, я ўбачыў, што яе змест нікольві не састарыўся, таму і панёс у газету, дзе заўжды вельмі цёпла сустракалі маю жонку. Было ў яе і яшчэ адно вялікае, але не рэальнае з-за цяжкай хваробы жаданне: выдаць брашуру ці кнігу «Беларускае адраджэнне ў рускім сэрцы»*. Дзеля гэтага ўжо нямала было зроблена. Па твары Ефрасінні заўважаў, што ёй вельмі хацелася, каб я дапрацаваў

* У самай сціслай форме змест да канца не напісанай працы выкладзены Ефрасінняй у надрукаваным у газеце «Голас Радзімы» (5 жніўня 1999 г.) артыкуле «Мой шлях да беларускага слова», які з-за сваёй актуальнасці і на сённяшні дзень я спецыяльна змяшчаю ў дадатку да дадзенай кнігі.

напісаныя тэксты. Пераканаўшыся, што на давядзенне іх да кандыцыі спатрэбіцца шмат часу, просьбу пакінуў незадаволенай, хаця выхад такой кнігі ў свет вельмі актуальны з улікам рэальнасці нашага сучаснага нацыянальна-культурнага жыцця.

Сваю сумесную з жонкаю працу — не пабаюся сказаць: вельмі патрэбную для беларускага інтарэсу — вымушаны былі канчаткова спыніць прыкладна за паўтара-два гады да сканчэння зямнога жыцця самага дарагога мне чалавека. Да канца не падрыхтаваных да выдання жончыных матэрыялаў засталося даволі багата, і беларуская справа шмат страціць, калі яны будуць загубленымі, што даволі часта здаралася і будзе здарацца надалей у нашай айчыннай гісторыі. Добра, калі што-небудзь з іх трапіць у архівы, бо ўсё ж да канца не страчана надзея на прыход чарговага беларускага нацыянальна-культурнага адраджэння, і яго ідэолагам, праваднікам крайне патрэбна будзе ведаць пра тэарэтычныя напрацоўкі іх папярэднікаў па гэтай архіскладанай ва ўмовах нашай краіны праблеме.

## 10. ФРАГМЕНТЫ З АСАБІСТАГА ЖЫЦЦЯ

Сям'я, дзе муж і жонка — навукоўцы, напоўнена не толькі адной творчай працай. Іх жыццю характэрна практычна ўсё, з чым даводзіцца сутыкацца ўсім сем'ям: штодзённыя клопаты пра быт, пра здароўе (чым не мог пахваліцца ні я, ні яна), рэгулярныя сустрэчы з роднымі і блізкімі, на што заўжды нетавала часу. Да таго ж мы не адразу сталі навукоўцамі: я — пяць, а яна каля пятнаццаці гадоў аддалі педагагічнай працы з дзецьмі і адміністрацыйнай службе ў апараце Міністэрства асветы БССР (апошняя датычыць толькі жонкі). Не ўсім сем'ям навукоўцаў удаецца спакойна пражыць без такой спрадвечнай для чалавецтва спадарожніцы, як рэўнасць. Нельга выключыць з практыкі супольнага жыцця навукоўцаў і такую непажаданую з'яву, як сямейная здрада. Толькі радавацца трэба, што ўсё гэта абмінала нас, прычым нават і ў самыя маладыя гады. Шанцы ж завесці раман у аднолькавай ступені былі і ў мяне, і ў яе. Але кожны раз прэтэндэнт на ўмяшанне ў справы нашай сям'і, а сярод такіх былі і даволі аўтарытэтныя асобы, натыкаўся на рашучы супраціў, і яна заставалася недатыкальнай, непарушанай. У падобных выпадках не спрацоўваў і такі фактар, як адсутнасць у нас дзяцей. Сям'я наша трымалася выключна на ўзаемным моцным каханні, бязмежнай павазе адно да аднаго, бясконцым жаданні супольна працаваць на карысць беларускай нацыянальнай ідэі.

Першыя ў Мінску замахі на бясконцую адданасць Ефрасінні свайму каханаму мужу з усёй рашучасцю даводзілася адбіваць ужо ў час падрыхтоўкі да адкрыцця дзіцячага сада № 98. Дастаць патрэбную для яго мэблю было зусім не проста, таму знаходзіліся дзялкі ўраз развязаць гэтую праблему пры ўмове хоць адзін разок згадзіцца ахвяраваць сабою, за што нязменна атрымлівалі ад маральна стойкай у сямейных дачыненнях Ефрасінні дулю.

Першыя два гады жыцця ў Мінску мы здымалі непадалёку ад дзіцячага сада кватэру. Гаспадаром яе быў службовец МЦЭЦ-3 двума-трыма гадамі старэйшы за мяне. Не канфліктавалі. Вельмі хутка даведаліся з размоў адзін пра аднаго. Лічыў, што пры нашых нізкіх зарплатах, а я яшчэ плаціў аліменты на сына, пэўных фінансавых цяжкасцяў мы не маглі не зведаць. Сярод вядучых інжынераў МЦЭЦ-3 гаспадар кватэры меў аднаго вельмі добрага прыяцеля, у якога каля года таму назад памерла жонка. Сваё дзіця вадзіў у сад № 98, і вельмі хутка яму прыглянулася загадчыца. Калі даведаўся, што яна кватаруе ў сябра, пастараўся вычарпаць ад яго ўсю інфармацыю пра асобу, што яго зацікавіла. Атрыманыя звесткі давалі нейкі спадзеў на поспех: праз тры гады сямейнага жыцця ў яе не з’явілася дзіця, у самой і мужа нізкія аклады, у бліжэйшай перспектыве нічога «не свеціць» з атрыманнем службовай кватэры. У даволі сімпатычнага інжынера было, па тых мерках, усё: прыстойная зарплата, уласная аўтамашына, дыхтоўная кватэра. Вызначаўся шляхетнасцю ў паводзінах, калі забіраў дзіця, стараўся хоць на хвілінку зайсці да загадчыцы. Размовы заўжды датычылі толькі звязаных з садам пытанняў, насілі дзелавы, канструктыўны характар. Сацыяльны статус Ефрасінні не дазваляў адмовіць гэтаму чалавеку ў такіх частых наведваннях яе кабінета, і яна нават рэзка не адштурхнула яго, калі пачула гаворку на інтымную тэму. Проста хуценька апранулася і выйшла з кабінета, бо ўжо надышоў канец працоўнага дня. Нешта падобнае не раз паўтаралася, але інжынер не адступаў ад надуманага, часам рабіў візіты з букетам кветак. Ефрасіння заставалася няўмольнай і прасіла мяне дапамагчы. Адмовіўся, сказаўшы, што гэтаму яна сама павінна пакласці канец. Ніяк не атрымлівалася. Яна прыйшла ў сапраўдны шок, калі ў чарговы візіт інжынер прыпаў перад ёю на калені і ледзь не са слязамі на вачах пачаў прасіць яе рукі. Хаця і паверыла ў шчырасць прызнання, аднак пастаралася ўсё зрабіць, каб як мага хутчэй закончыць гэтую трагічную сцэну, сказаўшы, што такія праблемы вырашаюцца іншым шляхам, не ў службовым кабінеце. Доўга

мы з жонкаю думалі, як інтэлігентна выйсці з такой нялёгкай сітуацыі. І я, і яна пагадзіліся, што інжынер шчыра, па-сапраўднаму пакахаў чужую жонку. Такое заўжды здаралася і будзе здарацца паміж людзьмі. Закон кахання ўсё яшчэ да канца не раскрыты чалавецтвам. Галоўны абавязак дапамагчы інжынеру выйсці са створанай ім жа самім заблытанай сітуацыі жонка ўсё ж усклала на мяне. Яна наладзіла спатканне свайго «каханка» са мною ў яе службовым кабінеце, дзе мы сустрэліся і без усялякага канфлікту расставілі ўсе кропкі над «і». Мне вельмі хутка ўдалося пераканаць закаханую ў маю жонку асобу ў бесперспектыўнасці яго планаў, і ён вельмі хуценька пакінуў кабінет. Пасля гэтага больш ужо не адчыняў яго дзверы. Крыўды не меў на маю жонку. Калі разглядалася пытанне аб выдзяленні ёй за добрую працу невялічкага пакоя ў адной са службовых кватэр, ён быў сярод тых, хто падтрымаў гэтую прапанову.

По роду службы Ефрасінні не раз даводзілася наведваць кабінет самога дырэктара МЦЭЦ-3. Карыстаўся вялікім аўтарытэтам у калектыве дзякуючы сваёй павазе да людзей. Пры сустрэчы з маёй жонкай, калі побач з ёю быў я, ён першым вітаўся з намі. Аднойчы адбыўся такі выпадак. У летні выхадны дзень Ефрасіння па сваіх асабістых справах ішла па Ленінскім праспекце. Раптам заўважыла, як яе абагнала і тут жа спынілася легкавая машына. Як толькі параўнялася з ёю, адчыняюцца дзверы, і яна ўбачыла ветлівы твар дырэктара МЦЭЦ-3, які ласкава запрашаў сесці ў машыну і паехаць у любым жаданым накірунку за горад. Сама Ефрасіння, паведамляючы пра гэта мне, здзіўлялася, як хутка яна знайшла пераканаўчую адмову на запрашэнне, заявіўшы свайму шэфу: «Я іду на сустрэчу з мужам». Адразу ж запрацаваў матор у машыне, і яна памчалася туды, куды пажадаў сам кіроўца.

Заляцанні чужых мужчын да маёй жонкі не спыніліся і пасля ўладкавання на пасаду загадчыцы базавага сада № 143 Савета народнай гаспадаркі БССР. Тут ужо ёй даводзілася рукамі і нагамі адбівацца ад ганарлівых работнікаў даволі высокай наменклатуры, якія лічылі, што ім дазволена ўсё. Праўда, некаторыя з іх вызначаліся і даволі культурным, паважлівым стаўленнем да абранай у якасці палюбоўніцы жанчыны, ад чаго небяспека для яе толькі павялічвалася. Асноўнымі сродкамі прывабіць маю жонку да сябе лічылася: дапамагчы атрымаць больш-менш прыстойную кватэру, пуцёўку ў санаторый, білет на футбол, чым мы вельмі захапляліся. Здабыць жа білет было зусім не проста ў той час, калі ў самым зеніце славы знаходзілася мінскае «Дынама». У нас гэта

атрымлівалася. Не раз даводзілася сядзець побач з кавалерам Ефрасінні, бо яна ставіла абавязковай умовай, каб на матчы прысутнічаў і я. Відаць, гэта ацвярэзіла жончынага залётніка, і мы яго паслугамі праз тры-чатыры матчы перасталі карыстацца.

За савецкім часам заўжды было вельмі складана для шараговых людзей здабыць ільготную прафсаюзную пуцёўку ў санаторый. Гэтай справай заўжды займалася — і трэба сказаць, амаль беспаспяхова — мая жонка. Асабліва я да адпачынку, лячэння ў санаторыі не выказваў моцнага жадання. Пераход на працу загадчыцы базавага саўнаргасаўскага сада пасяліў у яе надзею атрымаць пуцёўку. Прыкладзеныя ў першы год працы на новым месцы старанні не далі жаданага выніку. Затое пазней з'явілася такая магчымасць, але, як высветлілася, дзеля гэтага трэба было з памагатым не раз «саграшыць» перад мужам. Такі варыянт, як і трэба было чакаць, катэгарычна адхіліла Ефрасіння. Не пагадзілася яна паехаць у санаторый і на пару са сваім памагатым. Дарэчы, апошні махнуў рукой на яе прапанову паехаць адпачываць утраіх (разам са сваім мужам). Так і не ўдалося пакарыстацца багатымі паслугамі Саўнаргаса БССР для набыцця санаторнай пуцёўкі. Затое яму жонка была бясконца ўдзячна за атрыманне ўлетку 1963 года паасобнай аднапакаёвай кватэры ў раёне Мінскага камвольнага камбіната. Тут ужо адбылося без усялякіх заляцанняў з боку дон-жуанаў: гэтае пытанне дапамагла вырашыць добрасумленная праца на пасадзе загадчыцы дзіцячага сада.

З праблемай захавання вернасці мужу Ефрасінні не даводзілася сустракацца падчас працы ў Міністэрстве асветы БССР, Навукова-даследчым інстытуце педагогікі гэтага міністэрства, а затым у Мінскім педагагічным інстытуце імя Максіма Горкага (пазней — Беларускага дзяржаўнага педагагічнага ўніверсітэта імя Максіма Танка), відаць, не ў сувязі з узростам, а ў асноўным таму, што гэта былі пераважна жаночыя калектывы. Словы «з узростам» ужыў зусім не выпадкова. Не толькі ад людзей чуў, але і на сумесным з Ефрасінняй вопыце пераканаўся, што шчаслівыя ў шлюбе жанчыны, як мінімум, на пяць-дзесяць гадоў выглядаюць маладзей за свой сапраўдны ўзрост. Калі спачатку здзіўляліся, дык потым добра зразумелі, чаму адзін з выкладчыкаў БДПУ, будучы на дзесяць гадоў маладзейшым за Ефрасінню, рабіў частыя спробы як-небудзь завалодаць яе сэрцам. Калі даведаўся, што ёй вельмі не па душы даручаная кіраўніцтвам кафедры праверка педагагічнай практыкі ў школах Мінскага раёна (трохі падводзіла хвароба ног), ахвотна згадзіўся дапамагчы, выкарыстаўшы ў гэтых мэтах уласную машыну. Запэўніваў, што так яна справіцца з заданнем не за цэлы

рабочы тыдзень, а за два-тры дні. Прапанова вельмі прывабная, але дзеля сямейнага шчасця яе давялося адхіліць.

На першы погляд можа падацца, што нічога агульнага няма паміж здрадай мужу і падрыхтоўкай сябе ў кандыдаты, дактары навук. Але гэта толькі на першы погляд. На практыцы і тут даводзілася быць максімальна пільнай, абачлівай. Незвычайна складаную сітуацыю выклікаў сваёй прапановай навуковы кіраўнік па кандыдацкай дысертацыі. Пасля ўважлівага прачытання яе апошняй старонкі ў аўтара, натуральна, з'явілася жаданне хутчэй перадаць кіраўніку для азнаямлення сваю працу. Па тэлефоне пачула, што такое пажадана зрабіць на працягу бліжэйшых двух-трох дзён на яго дачы, дзе ён цяпер знаходзіцца. Калі такі варыянт чымсьці не задавальняе, перадаць дысертацыю ў Мінску можна будзе не раней чым праз месяц, бо кіраўніка ў гэты час не будзе дома. Канкрэтнага адказу кіраўніку не дала, хаця нават і ў думках не дапускала наведаць яго на дачы. Як і ва ўсіх падобнага роду выпадках, Ефрасіння падрабязна паведаміла мне пра гэтую крайне непрыемную для яе з усіх пунктаў гледжання размову: губляецца цэлы месяц для падрыхтоўкі дысертацыі да абароны, складванне думкі пра непрыстойныя намеры свайго вельмі паважанага кіраўніка. У мяне яго авантурныя планы па ўмяшанні ў нашыя святыя сямейныя справы не выклікалі аніякіх сумненняў, але знаходзіўся ў добрым настроі, таму вырашыў трохі паразважаць наконт такой прапановы.

— Слухай, — кажу быццам бы на поўным сур'ёзе Ефрасінні, — можа, ты дарэмна не пагаджаешся наведаць кіраўніка на яго дачы? Прападае ж цэлы месяц! Мне, са слоў знаёмых, добра вядомая прыстойнасць гэтага чалавека. Ды ён жа ведае, што ў цябе ёсць муж — кандыдат навук, прычым намнога маладзейшы за яго. І сама ж ты ў такой сітуацыі ўмееш пастаяць за сябе, даць здачу любому агрэсару.

— Прабач, дарагі, за рэзкія словы. Я, здаецца, яшчэ ніколі не чула ад цябе такой ахінеі. Замест таго, каб стаць на бок жонкі, захаваць сям'ю ад усялякіх падазрэнняў, ты не ў меру заклапочаны стратай месяца часу. Ды гары ён гарам! Я ўжо лепш у Мінску перадам дысертацыю кіраўніку, бо зусім нічога не хачу ведаць пра яго патаемную да мяне задуму і не выклікаць у цябе — калі не сёння, дык мо у глыбокай старасці — беспадстаўную рэўнасць нібыта ў маёй вымушанай ці добраахвотнай здрадзе нашым дарагім сямейным традыцыям.

О, як мне прыемна было чуць такі справядлівы вырак на свой адрас. Думаю, мала які муж не прытуліў бы, не пацалаваў бы сваю жонку за такія шчырыя словы! Я гэта зрабіў з велізарнай ахвотай, чым і сёння,

калі ад таго часу мінула больш за сорак гадоў, не магу не нарадавацца. У якім вялікім выйгрышы было б чалавецтва, калі б і муж, і жонка ніколі не спакушаліся на чужое! Колькі дзяцей узгадоўвалася б у тых шчаслівых сем'ях, дзе ёсць родная маці і родны бацька!

Нялёгка было вытрымаць іспыт на праверку адданасці мужу пры абароне доктарскай дысертацыі. Ужо на першых кроках да гэтай запаветнай мэты давялося рашуча адбівацца ад прапановы маскоўскага прафесара пры наведванні яго кватэры (знаходзіўся ў той час на бюлетэні): спачатку ляжам у ложак, а затым вазьмуся за азнаямленне з рукапісам дысертацыі. Разам з іншымі прычынамі такая асечка вымусіла шукаць шчасця дзесьці ў іншым месцы. Выбар прыйшоў на Тбілісі. Жонка паставіла цвёрдую ўмову: «Ездзіць у гэты горад па дысертацыйных пытаннях буду толькі разам з табой». Пагадзіўся. Добра запомніўся такі выпадак. Калі адзін з членаў Навуковага савета па абароне дысертацый з-за немагчымасці па стану здароўя сустрэцца з дактарантам на кафедры Тбіліскага дзяржаўнага ўніверсітэта запрасіў яе да сябе на кватэру, дык упаў проста ў роспач ад таго, што яна завітала з мужам. Ад нядаўняй такой ласкавай тэлефоннай размовы жонкі з гэтым аслабленым ад хваробы (не выключана, што і надуманай) прафесарам і знаку не засталося. Ледзь-ледзь упрасілі ўключыцца ў працу ў ролі эксперта. У самыя апошнія дні і ў час абароны доктарскай дысертацыі ніякіх эксцэсаў не назіралася, бо ўсе бачылі, як я пільна засцерагаю жаночую недатыкальнасць дактаранта.

Гэта было не апошняе сексуальнае дамаганне да маёй жонкі з боку мужчын самай прэстыжнай прафесіі. Праўда, прыпала яно на даволі ўжо сталыя гады, калі ёй пераваліла за пяцьдзясят. Жылі мы тады на праспекце імя Машэрава. Ефрасіння часта хварэла, прычым і даволі сур'ёзна. Таму аднойчы давялося выклікаць урача на дом. У кватэры яна заставалася адна, а я працаваў над навуковай планавай тэмай у бібліятэцы. Не ведаю, якія сілы падштурхнулі мяне мо на паўтары-дзве гадзіны раней пакінуць чытальную залу. І гэта сталася вельмі дарэчы. Яшчэ дастаючы ключы з кашалька, пачуў незвычайныя крыкі ў кватэры. Зусім непадобна было, што жонка стогне ад вялікага болю. Адчыніўшы дзверы, убачыў, як у начной кашулі яна бегае, накульгваючы на хворую нагу, па пакоі і трасе кулакамі на ўрача. Той жа, як толькі заўважыў мяне, адразу даў драпака. Паколькі ўсё ж гэта быў не злодзей, а медыцынскі работнік, я не стаў затрымліваць яго, біць трывогу. З кароткага аповеду хворай даведаўся, што ўрач усё рабіў у адпаведнасці з правіламі медыцыны толькі да таго, як вымераў крывяны ціск. Пераканаўшыся, што ён быў не такі далёкі ад нормы, вырашыў па-

цешыцца з пацыенткай, чым выклікаў у яе бурную рэакцыю. Распачалася ледзь не сапраўдная бойка, спыненая маім прыходам у кватэру. Я яшчэ ніколі не бачыў жонку такой узбуджанай, што мяне моцна ўсхвалявала, бо яна ж была цяжка хворай, мела патрэбу ў неадкладным лячэнні. Узнікла пытанне, як жа цяпер пасля такога эпізоду выклікаць на дом урача. Не давялося, паколькі неўзабаве ён сам з'явіўся. На гэты раз ужо была асоба жаночага полу. Даволі ўважліва агледзела хворую, выпісала, не шкадуючы, усе неабходныя для эфектыўнага лячэння лекі. Але яно не сталася такім: нанесеная папярэднім візітам урача моцная нервовая траўма ўсю ноч не давала заснуць. Па розных прычынах са скаргай у паліклініку не звярнуліся, што, верагодна, не зрабіла ўрача-спакусніка больш стрыманым у дачыненні да сваіх прыгожых, прываблівых целам пацыентак.

Сапраўдныя пякельныя пакуты давялося прайсці Ефрасінні з-за сваёй бясплоднасці. Вялікае жаданне мець дзяцей было і ў яе, і ў мяне, таму «віноўніца» гэтай бяды пайшла да гінеколага. Хадзілі чуткі, што ён адмысловы спецыяліст, але калі ў час агляду маёй жонкі пачаў з вялікім спехам здымаць свае штаны, тут ёй ужо давялося адмовіцца ад запланаванай мэты візіту. На крык ахвяры ніхто не прыйшоў на дапамогу, толькі насцеж расчынілі дзверы кабінета, каб насцярожыць гвалтаўніка. Моцна ўзрушанай, са слязамі на вачах Ефрасінні адна з санітарак сказала, што на прыём не толькі да гінеколага, але і да іншых дактароў нельга прыходзіць у такіх незвычайна прыгожых камбінацыі і сподніках, бо ўсё гэта толькі правакуе мужчын.

Той візіт добра даўся нам у знакі. Мо з год у галаву не прыходзіла думка пра чарговае наведванне гінеколага. Але вялікае жаданне мець дзяцей вымусіла яшчэ раз паспрабаваць сваё шчасце. На гэты раз ужо ў санаторыі горада Еўпаторыі, куды жонка паехала адна. Як на грэх, і тут не адбылося без канфліктаў. Пасля трох-чатырох адпаведных захворванню відаў лячэння (магчыма, гразевыя ванны) урач стаў тлумачыць Ефрасінні, што ўсё гэта трэба разумна спалучаць з палавымі актамі, на якія здольны далёка не кожны мужчына. Прапанаваў свае паслугі. Калі пачуў катэгарычнае «Не!», параіў як след падумаць. Дзеля таго, каб мець дзяцей, маўляў, можна адважыцца і на здраду мужу. Таксама прапанаваў далей працягваць курс лячэння. На ўсё гэта не пайшла хворая. Астатнія дні без усялякага лячэння знаходзілася ў санаторыі.

Думаю, такое нялёгкае, поўнае самых сур'ёзных выпрабаванняў, як у маёй жонкі, жыццё, у многіх маладых і прыгожых жанчын, якія не жадаюць падмануць свайго каханага, адзінага законнага мужа. Дзякаваць

богу, што іх на свеце багата, што яны ёсць і будуць, нягледзячы на такую інтэнсіўную прапаганду сродкамі масавай інфармацыі палавой распусты. Будучыня за сумленнымі, бязгрэшнымі шлюбамі, бо толькі яны даюць жонцы і мужу сапраўднае шчасце. Шкада, што гэтага не разумеюць, ці не хочуць разумець, нават і адказныя за высокую духоўнасць чалавецтва асобы. А паталагічна раўнівым асобам мужчынскага полу параіў бы перад тым, як пабрацца шлюбам з прыгожай, сімпатычнай нявестай, добра ўпэўніцца, што ён стойка вытрымае цалкам рэальныя заляцанні да яе аматараў лёгкага кахання.

Здзіўляла бязмежнае каварства некаторых маіх сяброў, калі справа датычыла іх заляцанняў да Ефрасінні. Для мяне, напрыклад, сяброўства з мужчынам — гэта святы абавязак быць ва ўсім крышталёва сумленным да яго. Стараюся быць заўжды на прыстойнай адлегласці ад яго жонкі. Па просьбе маладога чалавека, які здаваў уступныя іспыты ў аспірантуру, дзесьці ўзімку 1963 года ўладкоўваю яго дзіця ў дашкольную ўстанову, дзе загадчыцай працавала Ефрасіння. Радасці канца і краю не было ў майго калегі. Як заўжды, яго вельмі ветліва сустракала кіраўнік сада. Зразумела, што ўсё гэта рабілася толькі дзеля спрыяння майму сяброўству з тым навукоўцам. Відаць, зусім іншымі вачыма глядзеў ён на тыя цёплыя да яго дачыненні з боку Ефрасінні, таму і адважыўся ўжо дзесьці праз паўгода пасля ўладкавання свайго дзіцяці ў сад запрасіць яе на адно з незвычайных мерапрыемстваў пад назвай «Ноч без жонкі і мужа». Сутнасць такога мерапрыемства заключалася ў наступным: удзельнікі яго, пакінуўшы дома мужа ці жонку, сходзяцца ва ўмоўленым месцы і адтуль накіроўваюцца на Мінскае мора, каб весела правесці ночку. У ролі галоўнага арганізатара той каварнай забавы выступаў мой знаёмы. Ён аж з твару змяніўся, пачуўшы ад Ефрасінні рашучае «Не!» і строгі наганяй за такую паскудную задуму. У мяне ніякай гаворкі не было з яе ініцыятарам, а нашае сяброўства пастунова звялося да нуля.

Прыкладна ў тыя ж гады аналагічную просьбу з уладкаваннем дзіцяці ў сад задаволіў я і вельмі паважанаму мною старшаму навуковаму супрацоўніку Інстытута гісторыі АН БССР, кандыдату гістарычных навук (прозвішча свядома не называю). Без яго непасрэднага ўдзелу я мог бы з куды большымі цяжкасцямі ўладкавацца ў гэтую так жаданую для мяне навуковую ўстанову, што добра ведала і мая жонка. Такому чалавеку проста грэх было б не дапамагчы. Паважаны навуковец быў на дванаццаць гадоў старэйшы за мяне, не меў прывабнага для жанчын знешняга выгляду. Увесь клопат па доглядзе за дачкой, калі сад быў вывезены на дачу, ён

узяў на сябе. За правіла лічыў абавязкова зайсці ў кабінет да маёй жонкі, пагутарыць дзесяць-пятнаццаць хвілін. З цягам часу кабінетныя размовы яго ўжо не задавальнялі: прапаноўваў разам падыхаць водарным вечаровым паветрам у маляўнічым наваколлі сада, калі ўжо дзяцей паўкладвалі спаць. Такога роду прапановы раз за разам катэгарычна адхіляліся, і нарэшце нават ледзь не дайшло да сапраўднага скандалу. Жонка вымушана была, не зважаючы на паважаны ўзрост і пакуль што недасягальны для яе прафесійны статус навукоўца, галасна заявіць: «Вы же хотите совершить злодеяние по отношении к человеку, с которым вместе работаете? В моем, твердо убеждена, безошибочном представлении он на несколько порядков лучше смотрится, чем вы. Надо уметь объективно оценивать вещи». Выгляду я не паказаў свайму калегу, што ведаю пра яго заляцанні да маёй жонкі, таму мы заўжды пры сустрэчы падавалі адзін аднаму руку. А вось калі пасля таго здарэння я наведаў на дачы Ефрасінню, яна, ледзь не плачучы, сказала: «Сколько ты ко мне будешь посылать таких своих ненадежных друзей?!» Даў слова, што больш не буду, і яго стрымаў.

Прыкладна ў сярэдзіне 1960-х гадоў побач з нашай кватэрай у раёне Мінскага камвольнага камбіната жыў халасцяком мастак, які разам са мной таксама працаваў у Інстытуце гісторыі АН БССР. Цікавы быў суразмоўца. Пагутарыць з ім не шкадавалі часу, хаця і рыхтавалі сябе да сур’ёзнай навукі. А халасцякаваў ён, відаць, таму, што жыў на чужой кватэры і ад самага дзяцінства меў сур’ёзную інваліднасць (кульгаў). І трэба ж было здарыцца такому: я з нагружанымі сумкамі (ехаў на дзве ночы ў вёску да мамы) стаю на тралейбусным прыпынку, і тут да мяне падыходзіць мастак. Патлумачыў, куды я сабраўся, і ён гэта адразу ўзяў сабе на прыкмету. Пара года была асенняя. Хутка цямнела. Дзесьці а дзявятай гадзіне вечара, па словах жонкі, у кватэры слабенька прагучаў званок. Не адрэагавала. Не пайшла да ўваходных дзвярэй і пасля другога званка. А вось на працяглы трэці падышла і моцна здзівілася, што ў такі позні час вырашыў завітаць да нас мастак. На яе словы, што мужа няма дома, таму дзвярэй не адчыню, пачула ад няпрошанага госця: «А что, мы с вами не найдем чем-нибудь интересным заняться и без мужа?» Не знайшлі, бо не пусціла. Аналагічнае паўтарылася і назаўтра, толькі ўжо ў больш позні час. На гэты раз дзеля смеласці і больш моцнай патрабавальнасці мастак дазволіў сабе глынуць і спіртнога. З паўгадзіны марна прастаяў ля дзвярэй, ледзь не са слязамі на вачах упрошваючы негасцінную гаспадыню сумесна правесці з ёю ночку. Гэтая няўдача спыніла візіты мастака да нас. З-за пашаны да яго я

пры сустрэчы ніколі не ўздымаў гаворкі пра тую няўдалую інтэрвенцыю ў маю кватэру з яўна несяброўскай, злачыннай мэтай.

Меў спробу ўмяшацца ў нашае шчаслівае сямейнае жыццё мой дарагі азербайджанскі сябар. З яго ласкі я з жонкай чатыры разы (у 1984, 1985, 1986, 1987 гг.) адпачываў за свой кошт у найлепшым санаторыі на беразе Каспійскага мора. У Ефрасінні не стаў асабліва дапытвацца, але ўжо ў першы год наведвання санаторыя яна ўмаляла мяне ні ў якім выпадку не пакідаць яе адзін на адзін са сваім сябрам. Відаць, спрацоўвала толькі ёй адной добра вядомая жаночая інтуіцыя. Да такой настойлівай просьбы я прыслухаўся і строга выконваў тое, пра што мяне прасілі. Апошнія сустрэчы з азербайджанскім сябрам ужо адбываліся ў Мінску, куды ён, як выкладчык гуманітарных прадметаў, рэгулярна прыязджаў у канцы 1980-х — пачатку 1990-х гадоў дзеля павышэння сваёй кваліфікацыі. Пасля завяршэння вучобы мы, як правіла, запрашалі яго да сябе ў госці і ладзілі застолле. Апошняе з іх мела не зусім удалую канцоўку. Замест цвёрда дамоўленай роўна на 20-ю гадзіну сустрэчу (з-за занятасці па службе раней мне не выпадала прыйсці дамоў), госць націснуў на кнопку званка а 18-й гадзіне і, на вялікі здзіў, не быў упушчаны ў кватэру яе гаспадыняй. Паўафіцыйным тонам, але далікатна патлумачыла яму: «Погуляйте по городу, а в назначенное мужем время — пожалуйста». Дамоў я прыйшоў без спазнення, і жонка адразу паведала пра нязбыты візіт азербайджанца. Хацела і яшчэ штосьці сказаць, але пачуўся званок, і я з радасцю прыняў, павітаўся са сваім госцем. Застолле прайшло весела, у зацікаўленай для ўсіх размове. Калі ў час пасадкі госця ў аўтобус паціскалі адзін аднаму рукі, пачуў ад яго такія словы: «Леонид Михайлович, как вам повезло с женой». Сказаць што-небудзь у адказ я не паспеў, толькі пахвальна паківаў галавой. Непрадбачаныя ў СССР падзеі, што прывялі яго да распаду, не дазволілі нам больш сустрэцца. Калі пасля провадаў госця вярнуўся дамоў, жонка адразу задала мне такое пытанне: «Ну, ты не пакрыўдзіўся на мяне за такі негасцінны прыём азербайджанца?» Замест адказу пацалаваў яе ў прыгожыя, вечна цёплыя, нават у траскучы мароз, губкі і злёгку засмяяўся. Была ж важкая прычына на гэта.

У не такіх ужо і рэдкіх заляцаннях чужых мужчын да маёй жонкі ў пэўнай ступені вінаватыя і мы самі. Неаднаразова чулі ад сваіх знаёмых і блізкіх, што ў нашых паводзінах у кампаніі вельмі мала чаго такога, з чаго можна было заключыць, што гэта муж і жонка. У аднаго і другога пры размове неяк незвычайна гарэлі вочы, з твару не сыходзіла вясёлая, радасная ўсмешка. Ну, ці ж характэрна такое сямейным парам? Мабыць,

таму і імкнуліся пабочныя асобы з мужчынскага асяроддзя ўклініцца ў наш свет. Аднойчы (дзесьці на пачатку 1960-х гадоў) складаная сітуацыя ўзнікла падчас адпачынку на рацэ Свіслач у раёне Драздоў. Калі ўжо мы ўлегліся загараць, унурыліся ў кнігі, непадалёку ад нас аблюбавалі сабе месца трое маладых хлопцаў, прыкладна на дзесяць гадоў маладзейшы за мяне. З гадзіну пачытаўшы кнігі, мы пачалі гуляць у бадмінтон. У гэтым цяжка было знайсці саперніцу маёй жонцы. Я заўважыў: пакуль мы гулялі ў бадмінтон, з нас не зводзіла вачэй суседняя тройка хлопцаў. Нават прыпынілі сваю трапезу, падчас якой не абыходзіліся і без спіртнога. Закончыўшы гульню ў бадмінтон, палезлі ў рэчку, а затым ізноў узяліся за чытво. І трэба ж было мне неяк выпадкова глянуць у бок суседзяў. Адразу заўважыў, што адзін з іх знакам рукі паказвае, каб я падышоў да іх. З майго боку ніякай рэакцыі не паступіла. У адказ на маю пасіўнасць малады чалавек накіраваўся да нас і ветліва папрасіў мяне адысці ўбок і аб чымсьці пасакрэтнічаць. Жонка не пярэчыла. Без усялякага ўступу незнаёмец ледзь не ў самае вуха сказаў мне: «Поделитесь с нами своей красавицей». На маё пярэчанне, што гэта не проста «красавица», а мая жонка, пачуў у адказ: «Темнишь, мужичишка!» На гэтым той непрыемны дыялог хуценька скончыўся, змест якога даслоўна пераказаў жонцы. Ён і ўсхваляваў, і раззлаваў яе. Са свайго месца мы не сышлі (хоць і мала, але ўсё-такі былі паблізу людзі), працягваючы адпачываць у звыклай для нас форме. Але нядоўга. Неўзабаве зноў ужо — толькі насуперак пратэсту жонкі — уступіў у непрыемны вымушаны дыялог з тым жа самым прадстаўніком суседняй мужчынскай тройкі. Працягваючы не прызнаваць, што я адпачываю не з палюбоўніцай, а з жонкаю, з яшчэ большай настойлівасцю прасіў уступіць яе. Прычым паабяцаў за згоду адразу ж даць мне дваццаць рублёў (тады гэта былі грошы) і бутэльку яшчэ не раскаркаванага армянскага каньяку. Не атрымаўшы згоды, пайшоў да сваіх, і ўсе яны, нібы па камандзе, умомант кінуліся ў воды Свіслачы. Адразу ж паведаміў жонцы пра пачутае ад агрэсіўнага суседа, і яна закамандавала шукаць больш люднае месца, каб спакойна закончыць той няўдалы для адпачынку летні дзень.

У маладосці любілі запрашаць да сябе гасцей. Не адмаўляліся і самі выступіць у такой ролі. Без асаблівых прыкмет, што ў тралейбусе едзем з застолля, весела размаўляем паміж сабою. У жонкі — у пэўнай ступені яна была рагатушка — з твару не сыходзіла ўсмешка, што вельмі прываблівала да нас не зусім цвярозага суседа (сядзеў адзін насупраць). Раптам жонцы прыйшло ў галаву, што мы едзем без білета, і яна, папярэдзіўшы

мяне, накіравалася да кіроўцы тралейбуса. Не трацячы ні секунды, сусед звяртаецца да мяне з дзіўнай просьбай: «Дядя, позвольте мне с вашей подружкой выйти через три остановки. Я хочу вместе с нею посетить ресторан». Малады чалавек і слова не даў мне вымавіць, што я сяджу не з сяброўкаю, а з жонкаю. Прыйшоў час яму выходзіць, а ён, на вялікі здзіў жонцы, так замілавана глядзіць на мяне, хоча нешта сказаць, ды не можа вымавіць ні слова. Свой прыпынак праехаў, але далей ужо не адважыўся дамагацца такой нерэальнай уступкі ад мяне. Пра ўсё гэта паведаміў жонцы толькі дома, на што яна жартам адказала: «Ох же и счастливый ты человек, что имеешь такую красивую, привлекательную половинку». З прыемнасцю прыняў да душы гэтыя словы. Той дзівосны выпадак у тралейбусе мы больш не ўзгадвалі, а вось, калі пішу ўспаміны пра жонку, ён прыйшоў мне на памяць.

Шчырае, моцнае жаданне Ефрасінні не даць свайму мужу нават мізэрнай падставы для рэўнасці, адчуць сябе падманутым часам даходзіла ледзь не да крайнасці. Улетку 1995 года развітаўся з зямным жыццём мой дарагі, амаль на дзесяць гадоў малодшы брат Анатоль (у многім паспрыяў гэтаму яго актыўны ўдзел у правядзенні звязаных з чарнобыльскай катастрофай мерапрыемствах). З гэтай цяжкай страты нам многія выказвалі спачуванні. Адзін з прыяцеляў Анатоля (разам з ім вучыліся ў Мінскім пединстытуце) намерыўся гэта зрабіць праз наведванне нас у нашай кватэры. Мы яго таксама ведалі, але апошні раз бачыліся гадоў 30 таму назад. Час для візіту выбраў даволі позні, і да таго ж яшчэ і мяне не было дома. Па цвёрда ўсталяванай традыцыі жонка не ўпусціла яго ў кватэру і спачуванні прымала ад госця пры зачыненых дзвярах. Не сумняваюся, што многія асудзяць такі ўчынак маёй жонкі, але іншага выйсця ў той сітуацыі яна не бачыла. Да таго ж была ўпэўнена, што за гэта не буду сварыцца на яе.

Традыцыю не пускаць чужога мужчыну ў кватэру ў час адсутнасці мужа парушыла толькі адзін раз, але зрабіла ўсё так, каб не пасеяць у яго душы якіх-небудзь сумненняў датычна сваёй бязгрэшнасці. У пачатку 1990-х гадоў у адзін з летніх дзён дзесьці прыкладна а 20-й гадзіне вечара прагучаў званок. На пытанне: «Хто там?» з-за дзвярэй пачуўся адказ: «Я муж вашай дваюраднай сястры з Алма-Аты». Як на тое ліха, я адсутнічаў. Такога ж госця-сваяка проста ніяк нельга было не пусціць у кватэру. Пакуль адважылася на такі крок, у галаву прыйшла думка, што трэба кагосьці з суседніх дзяўчатак (яны былі ва ўзросце 16–17 гадоў) запрасіць у кватэру з начоўкай, а калі яны будуць адсутнічаць, выкарыстаць дзеля такой ролі маю дваюрадную сястру з суседняга дома. Словам, праблем

з ахоўнікамі не ўзнікла, а раніцай (дзесьці ў 10 гадзін) я ўжо з'явіўся ў сваёй кватэры і нікога не застаў у ёй: усе пакінулі яе, падаўшыся ў горад. Вячэралі ў поўным зборы. Госць быў у добрым настроі, хаця і разумеў, з якім вялікім недаверам паставілася да яго мінская сваячка. Пасля вяртання ў Алма-Аты выслаў на наш адрас вельмі патрэбную мне кнігу аднаго з казахскіх аўтараў.

Проста паталагічнае непрыняцце Ефрасінняй любога чужога мужчынскага цела часам рабіла яе залішне грубай у размовах, паводзінах з прадстаўнікамі моцнага полу. Калі такое адбывалася ў маёй прысутнасці, я ўсяляк стараўся стрымаць яе абвостраную рэакцыю, не даваў апошняй перарасці ў канфлікт. У маю адсутнасць, як правіла, ухіліцца яго ўдавалася вельмі рэдка, асабліва ў маладыя гады. Словам, дорага дасталася маёй жонцы яе прыгажосць.

Ніякага сораму для сябе не бачу ў тым, што не магу прывесці і дзясятай долі выпадкаў, калі ўварванне ў нашую сям'ю спрабавалі здзейсніць праз мяне. Дазволю быць максімальна самакрытычным: не вызначаўся знешняй прывабнасцю, да таго ж яшчэ асабліва і не імкнуўся да яе, ганяючыся за модаю. Праўда, гэта не з'яўлялася істотнай перашкодай, каб быць жаданым у жаночым атачэнні. Дзякаваць богу, прыгожая палова свету не цураецца і сёння маёй прысутнасці каля сябе, хаця і разменяў 84-ы гадок. Вока ж кінула на мяне даволі сімпатычная жанчына ў час нашай сумеснай працы у пачатку 1960-х гадоў у адной з мінскіх школ-інтэрнатаў. Знаходзілася яна ў шлюбе са сваім былым аднакласнікам. Пасля школы ён пайшоў у рабочыя, а яна — у інстытут і атрымала вышэйшую адукацыю. Дыферэнцыяцыя ў адукацыйным узроўні не пайшла на карысць іх сямейным узаемадачыненням, зразумела, па віне настаўніцы Н. Даведаўшыся, што ў мяне і на шостым годзе пасля ўступлення ў шлюб няма дзяцей, паспрабавала неяк пахіснуць яго ўстоі. Яны ж не паддаваліся разбурэнню.

— Что за причина, что вы всегда так холодны, неразговорчивы со мною? — з цалкам натуральнай усмешкай спытала Н. — Красивую женушку имеете?

— Ну, как ответить вам? Каких-то изъянов не нахожу в ней. Женщина как женщина.

— А как можно взглянуть на нее?

— Очень просто. Через три дня мы идем на футбол, и при центральном входе на стадион со стороны улицы Кирова можем в назначенное время ради вас несколько минут походить взад и вперед.

— Согласна, — рэзюміравала яна нашу размову.

Непрыкметна для маёй жонкі такая сустрэча адбылася. На яе Н. запрасіла і сваю сяброўку. Літаральна на другі дзень у нас працягнулася на тую ж няўдзячную тэму гаворка.

— Мне, — без усякай радасці на твары заявіла Н., — очень испортила настроение подружка, настоятельно порекомендовав больше не вмешиваться в это дело, поскольку у меня нет ничего предпочтительного по сравнению с супругою Леонида Михайловича.

Каб супакоіць няўдачніцу, сказаў, што яны абедзве (маючы на ўвазе яе і сваю жонку) раўназначныя паміж сабою па прыгажосці. Пасля ўсяго гэтага дачыненні з Н. нiколькі не сапсаваліся, але да апісанай вышэй тэмы размовы больш ніколі не звярталіся.

Трымаць сябе ў прысутнасці Ефрасінні максімальна стрыманым у жаночым атачэнні абавязвала яе незвычайная рэўнасць. Калі меліся хоць самыя мінімальныя падставы для гэтага, яна не прытрымлівалася аніякага этыкету, як сапраўднага нявольніка, брала мяне ў свае цэпкія рукі, чаму я не толькі не супраціўляўся, а нават трохі радаваўся. У канцы 1970-х гадоў, калі мы былі кандыдатамі навук, набліжаліся да пяцідзесяцігадовага ўзросту, надарылася адпачываць у нясвіжскім санаторыі. Па вечарах з вялікай ахвотаю і часта хадзілі на танцы. Здольнасці на гэта хапала ў нас, і той-сёй з адпачывальнікаў заўважаў такое. Звычайна, калі аб'яўляўся «белы» вальс, жонка, каб не стварацъ для сябе непрыемнага прэцэдэнту, адразу ж хапала мяне за руку, і мы ў ліку першых пачыналі таньчыць. Такія яе хітранькія паводзіны не выпалі з-пад увагі адной з непрыкметных для нас абаіх дам. Будучы ўпэўненай, што рана ці позна аб'явяць «белы» вальс, яна загадзя ўшчыльную наблізілася да нас, не ўступаючы з намі ні ў якія размовы. У яе паводзінах мы не заўважалі нічога такога непрыемнага для нас, спакойна пераносілі блізкую прысутнасць гэтай незнаёмкі. І, як высветлілася, дарэмна, бо на чарговы «белы» вальс яна на імгненне ўсё ж выперадзіла маю жонку. Праўда, Ефрасінню таксама тут жа запрасілі. Вось так на колькі хвілін была разбіта «наразлучная» сямейная пара. У жыцці мне сяды-тады, асабліва ў перапынку ў час застолля, даводзілася бачыць, як мая жонка з кімсьці таньчыць. Вельмі добра заўважалася, як яна ўвесь час старалася трымацца — і гэта ёй удавалася — на пристойнай дыстанцыі ад свайго партнёра. У мяне ж — асабліва калі ініцыятыву ў свае рукі брала мая жанчына-партнёрка — не заўсёды такое атрымлівалася. Відаць, «грашыў» і на гэты раз, інакш жонка, кінуўшы ў крузе свайго напарніка, не пабегла б да мяне, каб разлучыць нашую пару

і з непрыхаванай злосцю на твары вывесці мяне на двор з танцавальнай залы. Не толькі ў той вечар, але і ў астатнія дні знаходжання ў санаторыі мы больш не паказваліся там. Мо жонцы было трохі і сарамнавата за свой «агрэсіўны» ўчынак, я ж ні на ёту не меў крыўды на яе. Радасць шукалі і знаходзілі ў чымсьці іншым, акрамя танцаў.

## 11. З ЖЫЦЦЯ ЗВЯЛІ ІНСУЛЬТЫ

Яшчэ да таго як пабрацца шлюбам з Ефрасінняй, я добра ведаў і разумеў сэнс даволі распаўсюджанай у народзе прымаўкі: муж любіць жонку здаровую, брат — сястру багатую. Але, відаць, калі моцна пакахаеш дзяўчыну, гэтая прымаўка не спрацоўвае, адсоўваецца на задні план. Што мая каханая не вызначалася добрым здароўем, я заўважыў задоўга да шлюбу. Але лічыў, што, можа, такое з ёю здараецца з-за дрэннага харчавання, адсутнасці належнага адзення і абутку. Была ж другая палова 1950-х гадоў, калі краіна не магла пахваліцца сваімі дасягненнямі ў сацыяльнай сферы. Словам, я жанюся, і трохі пазней як праз год мы пераязджаем на маю радзіму. Ужо падчас падрыхтоўкі да адкрыцця дзіцячага сада Ефрасіння з-за вялікіх перажыванняў, стомленасці не раз сярод ночы хапалася за сэрца, прымала і некаторыя лекі. Але як толькі нармальна запрацаваў сад, ніякіх праблем са здароўем не існавала. Узніклі яны, як пісалася раней, толькі ў пачатку 1970-х гадоў з-за сур'ёзных хваляванняў па прычыне адмоўнай службовай характарыстыкі, што на доўгі час перакрыла дарогу да абароны кандыдацкай дысертацыі. Далёка не спакойнымі былі гады працы ў Мінскім дзяржаўным педагагічным інстытуце, а затым і пасля перайменавання яго ва ўніверсітэт. Здароўе падрывалася яшчэ і тым, што мая жонка не ведала меры ў працы. З усёй душой аддавалася ёй, асабліва калі актыўна далучылася да беларускага нацыянальна-культурнага адраджэння: пару чарговых адпачынкаў адвяла дасканальнаму авалоданню беларускай мовай. А можа, тут я і памыляюся, бо часам напружаная творчая праца, ведаю па сабе, толькі садзейнічае здароўю. Як бы там ні было, мікраінсульт уклаў маю жонку на бальнічны ложак на 71-м годзе яе жыцця. Пасля выздараўлення (зразумела, адноснага) вярнулася да педагагічнай працы, пісала артыкулы ў часопісы і газеты. Здавалася, што жыццё будзе працягвацца і надалей. Не, такога не атрымалася. У чэрвені 2003 года перанесла самую вострую форму інсульту, стала інвалідам першай групы. Да творчага жыцця так і не вярнулася.

Невылечна хворую, пазбаўленую такой неацэннай чалавечай каштоўнасці, як дар слова, Ефрасіннню вельмі радавалі візіты да яе колішніх калег па працы, за што я, як муж, асаблівую падзяку хачу выказаць у першую чаргу прафесару педагогікі Святлане Снапкоўскай, кандыдату педагагічных навук Тамары Карасцялёвай (шмат гадоў узначальвала дашкольны аддзел Міністэрства адукацыі Беларусі), аспірантцы БДПУ імя Максіма Танка Таццяне Паліевай (першыя два гады вучобы яе кіраўніком была Ефрасіння Андрэева). Маёй жонцы ўжо на пятым годзе хваробы вялікую радасць прынесла рэдакцыя часопіса «Пралеска», надрукаваўшы прысвечаны яе 75-гадоваму юбілею артыкул доктара педагагічных навук, прафесара БДПУ Наталлі Старжынскай і асістэнта кафедры Мазырскага дзяржаўнага педагагічнага ўніверсітэта імя І. П. Шамякіна Т. Паліевай «Гісторык дашкольнай педагогікі» (2006, № 12).

Кожны год цяжкай, практычна зусім не падлеглай эфектыўнаму лячэнню хваробы Ефрасінні ўсё больш і больш даваў зразумець нават самаму недасведчанаму ў медыцынскім пытанні чалавеку, што якога-небудзь шчаслівага паратунку тут не адбудзецца. Відаць, гэта і паслужыла прычынай, што ў апошнія пяць гадоў жыцця ўжо ніхто не наведваў яе з калег па кафедры агульнай педагогікі БДПУ імя Максіма Танка, бо бачыць чалавека ў абсалютна безнадзейным стане вельмі цяжка. Затое гэта нікольki не паўплывала на маіх дарагіх суседзяў, без дапамогі якіх мне, чалавеку сталага ўзросту, было б непасільна справіцца з такой страшэннай бядой. З вялікай, шчырай павагай да гэтых людзей ласкава называю іх пайменна: Алена і Уладзіслаў Рачкевічы, Ларыса Фурс, Людміла Новікава. Заўжды ахвотна адгукаліся на маю просьбу дапамагчы добрай душы людзі Ала Васільева, Людміла Касяк, Галіна Біцяй, Галіна Чыслава, Людміла Казлова, Надзея Малаковіч, Вольга Тарасенка, Галіна Сіўчык, Яўген Лецка, Віктар Саковіч, Аляксей Саламонаў. У цяжкую хвіліну меў падтрымку ад кіраўніцтва і калег па працы з аддзела сацыяльна-эканамічнай гісторыі, навукі і культуры Інстытута гісторыі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі. Толькі ў самым пазітыўным плане магу пісаць пра дактароў 4-й паліклінікі горада Мінска, якія каля дзесяці гадоў вялі нялёгкае змаганне з хваробай. Бясконца ўдзячны медсястры Марыі Ермаковіч за яе частыя, вельмі жаданыя нам візіты.

Нікольki не сумняваюся ў тым, што пражыць Ефрасінні амаль дзесяць гадоў пры такіх частых і цяжкіх інсультах — гэта велізарная заслуга медыцынскага персаналу Мінскай 2-й гарадской клінічнай бальніцы, асабліва загадчыка рэабілітацыйнага аддзялення Мечыслава Тарасевіча.

Пайменна не магу назваць усіх палатных урачоў, што лячылі маю жонку, бо пасля кожнага чарговага інсульту яны мяняліся, іх адказнае чалавечае стаўленне да сваіх прафесійных абавязкаў заслугоўвае толькі пахвалы. Сам грэчаскі ўрач Гіпакрат быў бы задаволены іх працай. Як родную маму, даглядала Ефрасінню санітарка Ганна Лісоўская. Маю хворую жонку двойчы лячылі ў Мінскай гарадской клінічнай бальніцы хуткай дапамогі. Самай надзейнай апорай тут у нас была дачка бясконца паважанага мною Чалавека багатай душы, высакароднага беларускага зместу прафесара Аляксея Саламонава Галіна Саламонава. Яна практычна цалкам вызваляла мяне ад тых абавязкаў, якія нясуць родныя і блізкія хворага чалавека ў час яго стацыянарнага лячэння.

З вялікага жадання дапамагчы дарагой і любай жонцы ў такую цяжкую для яе часіну я рэгулярна звяртаўся па дапамогу ў прыватным парадку і да ўрачоў іншых медыцынскіх устаноў, найчасцей за ўсё да Уладзіміра Янкоўскага, Людмілы Казловай, Алеся Будзянка. Не ведаю, чым наша сям'я так спадабалася ім, бо ўсе яны адмаўляліся ад платы за візіты, свой час «адпрацоўвалі» на дабрачынных пачатках, калі не лічыць падараваных ім беларускамоўных кніг, напісаных мною. Дарэчы, названыя мною людзі на належным узроўні валодаюць гутарковай беларускай мовай і шчыра радаваліся магчымасці пакарыстацца ёю падчас візітаў. Падараваныя кнігі кожны з іх лічыў больш важным за аплату грашыма. З гэтымі людзьмі і сёння падтрымліваю шчырыя, цёплыя дачыненні.

У аднолькавай ступені з узніклымі для жонкі цяжкасцямі нармальна рухацца па кватэры моцна непакоіла мяне і амаль поўная страта ёю мовы. Нават вымавіць маё імя з'яўлялася для яе невырашальнай праблемай. А яно ж заўжды так мілагучна сыходзіла з яе вуснаў. Так вымавіць яго магла толькі мая мама, будучы маладой. З жончынай нематой я ніяк не мог змірыцца, таму падаўся шукаць дапамогу ў калектыве такой аўтарытэтнай установы, як Рэспубліканскі навукова-практычны цэнтр отарыналарынгалогіі. Тады за намесніка галоўнага ўрача працаваў тут адзін з самых цудоўных з кагорты сапраўдных нацыянальных медыцынскіх дзеячаў краіны Анатоль Кухарчык. Ужо на другой хвіліне майго візіту мы па-сяброўску абняліся, «віной» чаму стала мая так любая для паважанага доктара беларускамоўная гаворка.

— О, як рэдка, — з незвычайнай радасцю прамовіў гаспадар кабінета, — даводзіцца мне чуць роднае слова ад сваіх наведвальнікаў. Хутчэй кажыце пра прычыну вашага візіту да мяне. Я гатоў вам зрабіць нават і тое, што ўяўляецца амаль немагчымым.

Доўга тлумачыць пра прычыну візіту не было патрэбы, бо А. Кухарчыку даводзілася даволі часта весці размовы на такія тэмы. Сама служба гэтага вымагала.

— Давайце свой кантактны тэлефон, і я вам праз два-тры дні парэкамендую самага спрактыкаванага па выпраўленні моўных хібаў спецыяліста.

Непадробны сяброўскі поціск рук на развітанне, і я нібыта на крылах паляцеў дамоў, зведваючы вялікую радасць не толькі ад згоды дапамагчы мне ў маім горы, але і ад сустрэчы са шчырым беларусам, актыўным носьбітам матчынай мовы, з якой ён не хлеб еў, як гэта даводзіцца некаторым прадстаўнікам творчай навуковай інтэлігенцыі, а проста бясконца любіў яе (мову), не жадаў быць і не быў нацыянальным манкуртам.

Па дарозе дамоў у памяці ўсплылі імёны многіх іншых беларускамоўных прадстаўнікоў з медыцынскага асяроддзя. У гэтым плане асабліва быў паказальны 1969 год, калі мне ў Мінскай 3-й гарадской клінічнай бальніцы рабілі аперацыю на страўніку, Магчыма, я і памыляюся, але мне здаецца, паколькі медыцына глядзіць на кожную пазбаўленую дару слова асобу, як на сур'ёзна хворага чалавека, такое стаўленне не можа ён не экстрапаліраваць і на народ у цэлым, калі ён па нейкіх прычынах не карыстаецца, здрадзіў матчынай мове. Ужо не першае дзесяцігоддзе, як беларусы пазбавіліся — няхай сабе і наперакор уласнаму жаданню — дару роднага слова, г. зн. сталі паводле ацэнкі такой негатыўнай з'явы медыцынай хворым соцыумам, які проста грэх не лячыць, таму многія людзі ў белых халатах не дазваляюць сабе абыякава ставіцца да яе і ва ўмовах нашай краіны, так рашуча не ўхіляюцца роднай мовы апошняй, што характэрна бальшыні іншых катэгорый сучаснай інтэлігенцыі, у тым ліку і творчай, навуковай, педагагічнай. Калі пачнецца чарговае беларускае нацыянальна-культурнае адраджэнне — а яно проста непазбежна для народа з такой багатай, арыгінальнай гісторыяй, адметнага ад іншых сваімі прыроднымі культурна-моўнымі традыцыямі — вельмі важна прыкласці як мага больш высілкаў, каб да актыўнага ўдзелу ў такім выратавальным руху схіліць шырокія медыцынскія колы. Мы многа страцілі, што як след не звярнулі ўвагі на гэтую праблему ў канцы 1980-х — пачатку 1990-х гадоў.

Паабяцаная А. Кухарчыкам дапамога неўзабаве завітала ў нашу кватэру. Лагапедычныя заняткі стала праводзіць у поўным сэнсе гэтага слова адмысловы спецыяліст у гэтай тонкай прафесійнай справе Алена Генадзьеўна Цімашкова. Ужо пасля першага сеансу ў яе ўсталяваўся

цесны, даверлівы кантакт з хворай. З кожным візітам ён станавіўся ўсё больш трывалым і жаданым. Мне было вельмі прыемна назіраць, як мой хатні прафесар, доктар педагагічных навук лавіў кожнае слова свайго любімага настаўніка, як стараўся дасканала выконваць усе атрыманыя ад яго прадпісанні. За дзесяць-пятнаццаць хвілін да візіту лагапеда Ефрасіння садзілася за стол каля акна і пільна ўглядалася, калі на тратуары нашага двара з'явіцца постаць жаданага ёй чалавека. Радасці не было канца, калі на ўвесь рост паказвалася яго фігура. Многае ўдавалася ў Алены Генадзьеўны. Што ж датычыць яе наказаў і парадаў мне, як праводзіць заняткі, эфект быў на некалькі парадкаў ніжэйшым, але нейкая ўпэўненасць у выпраўленні моўных хібаў захоўвалася. Асабліва і мяне, і жонку радавала, што яна навучылася вымаўляць самыя дарагія ёй словы: мама, тата, баба, Тоня (гэта яе імя для хатняга ўжытку), Лёня. Зрэдку атрымліваліся і сказы самай простай канструкцыі. І калі пасля сямі-васьмі заняткаў я пачуў ад нашага збавіцеля лагапеда словы: «Леанід Міхайлавіч! Вашай жонцы вернецца мова», ім я не мог не паверыць. І такое, напэўна спраўдзілася б, каб не праклятыя чарговыя інсульты. Перажывала за іх і Алена Генадзьеўна, але як трохі набірала сілы хворая, з ёю зноў аднаўляліся заняткі. Настаўніца не губляла надзеі ў дасягненні хоць нейкіх пазітыўных зрухаў. З радасцю назіраў, як усё гэта падабалася пацыентцы. Але даволі часта быў вельмі ўсхваляваны, калі на мае неаднаразовыя словы: «Тоня, да цябе абавязкова вернецца мова» яна са слязамі на вачах рашучым кіўком галавы катэгарычна не пагаджалася са мною. На вялікае няшчасце, такое пацвердзілася на практыцы. Моцна перажывала, нарэшце страціла былую ўпэўненасць у поспех і лагапед. Дзесьці на чацвёртым ці на пятым годзе наведванняў яна пры развітанні са мною сказала: «Леанід Міхайлавіч, паклічце мяне тады, калі стан здароўя вашай жонкі хоць трохі палепшае, бо пры цяперашнім немэтазгодна праводзіць заняткі». Здароўе ж пайшло не на паляпшэнне, а, наадварот, пагаршалася. Калі ж станавілася крыху лепш, іншым разам стараліся сумесна вымаўляць самыя дарагія нам словы. Але ўжо ад такіх заняткаў не мелі аніякай радасці, аніякай надзеі. Паступова і ў хворай адпадала ўсякае жаданне займацца самалагапедыяй, чаму я не пярэчыў, згаджаўся. А вось што датычыць перапісвання левай рукой друкаванымі літарамі тэксту сваёй апошняй кнігі, гэтым спыніла займацца толькі тады, калі ўжо не магла і пры маёй дапамозе дайсці да кабінета і сесці за стол.

Якая недарэчнасць! Адбылося ж такое з чалавекам філалагічнай адукацыі, для якога слова (напачатку рускае) з'яўлялася прафесійным хлебам.

А колькі сілы, энергіі, часу пайшло, калі, ужо будучы ў пенсійным узросце, узялася ў канцы 1980-х — пачатку 1990-х гадоў за авалодванне словам у беларускай мове? Трохі больш як дзесяць гадоў удалося пакарыстацца, пацешыцца з яго. У адно праклятае імгненне інсульт развучыў педагога з вышэйшай філалагічнай падрыхтоўкай, доктара навук, прафесара размаўляць і па-руску, і па-беларуску. Што такая вялікая трагедыя некалі адбудзецца ў нашай утульнай кватэры, раней мы ніколі не думалі. Памыліліся, што здаралася і будзе здарацца толькі не з намі.

У нашага народа спрадвеку вядзецца, што чалавеку ў самым вялікім для яго горы на дапамогу прыходзіць радня, найчасцей дзеці, браты, сёстры. Як пісалася вышэй, дзяцей у нас не было. Я меў і маю толькі брата Генадзя (жыве ў Мінску) і сястру Ліду (жыве ў Магільным, даўным-даўно знаходзіцца на пенсіі, мае шмат праблем са здароўем). У цяжкую хвіліну мог абаперціся толькі на брата 1935 года нараджэння. Не раз выручаў, калі ўзнікала ў гэтым патрэба. Пашчасціла, што ў суседнім доме жыла і працягвае жыць стрыечная сястра Галя. Хоць яна даглядала сваю старэнькую маму, пры вострай патрэбе магла завітаць і да нас. Не раз прапаноўвалі свае паслугі жыхары пад'езда нашага дома, якія вельмі паважалі маю жонку. Адмаўляўся, не забываючы шчыра падзякаваць за гатоўнасць дапамагчы. Не звяртаўся да паслуг сацыяльнага цэнтра нашага раёна. Не памылюся, калі скажу, што 90–95 працэнтаў усёй працы па доглядзе за хворaю жонкай вынес я на сваіх плячах. Такой увагі яна заслугоўвала. Ніколі не наракаў на свой лёс, мірыўся з любымі цяжкасцямі, а таксама і з тым, што меў вельмі вялікія абмежаванні ў часе для занятку так любімай мною навуковай працай. Перажытыя пры моцна хворай жонцы выпрабаванні не зрабілі мяне нешчаслівым чалавекам. Вельмі ўдзячны лёсу, што на такія доўгія гады злучыў з ёю.

У пэўным сэнсе гэта можа падацца і заўчасным, але намі яшчэ да сур'ёзнага захворвання Ефрасінні часта абмяркоўваўся мой лёс пасля яе смерці, бо праблемы са здароўем пачалі ўзнікаць з 1971 года. Толькі вельмі паважлівае стаўленне да яго дазволілі ёй наблізіцца, а мне і перасягнуць 70-гадовы рубеж. Словам, я ўжо стаў па-сапраўднаму старым чалавекам, хаця незайздросны стан здароўя жонкі абавязваў любой цаной трывала стаяць на нагах. І я на здзіў самому сабе гэты нялёгкі для майго сталага веку іспыт вытрымаў. Абяцаў старасць правесці ў адзіноце.

— Не, Лёня, — сказала Ефрасіння ў час адной ужо, на вялікі жаль, з апошніх прагулак у блізка размешчаным ад нас парку Камсамольскага возера — у такім узросце табе ніяк нельга заставацца аднаму. У старасці

і жанчыне цяжка жыць адной са сваімі хваробамі. Ты ж па маёй віне зусім не прывучаны да выканання жаночых абавязкаў па доме. Добра, што хоць трохі нешта ўмееш рабіць на кухні. Упэўнена, пакуль будзеш на нагах, не памрэш ад голаду. Але ж прыйдзе час, і ногі могуць адмовіцца слухацца. З табою такое ўжо не раз здаралася.

Пасля той размовы многія варыянты абмяркоўваліся, як мне пражыць апошнія гады. Так сталася, што да сваёй радні я не асабліва мог прытуліцца. Радня ж жонкі жыла ў сталіцы Башкартастана Уфе, куды мяне, сына зямлі беларускай, і калом не загоніш. Спачываць толькі на ёй буду. Паколькі фактар радні не спрацаваў, лагічна ўсплыло на паверхню пытанне пра стварэнне мною хоць і на самы кароткі тэрмін зямнога жыцця новай сям'і. Гэтую задуму не толькі аспрэчвала, а, наадварот, усяляк падтрымлівала Ефрасіння, толькі прасіла не браць у дом каго-небудзь з яе знаёмых. Думаю, няцяжка здагадацца, чаму? Быць пахаванай хацела толькі побач са мною, прычым не паблізу Мінска, а на маёй радзіме, дзе мы ў свае маладыя гады разам так шчасліва правялі паўтара дзясятка летніх адпачынкаў. Не была супраць крэміравання, разумеючы, што ў маім узросце не так проста падтрымліваць у належным стане магілку, якая невядома дзе будзе знаходзіцца. Карацей кажучы, яшчэ пры жыцці ўсё да дробязяў было абмеркавана на выпадак развітання з зямным жыццём. Як і чакалася, ён не абмінуў нас.

Як часта здараецца з цяжка хворымі, прыкутымі да пасцелі людзьмі, ім не заўсёды ўдаецца ўсцерагчыся ад пнеўманіі, прычым і ў самыя гарачыя летнія дні года. Гэтая бяда спасцігла і Ефрасінню ў спякотныя дні пачатку чэрвеня 2011 года. Разам з хранічнай для яе хваробай — інсультам усё гэта і паставіла ўвечар 11 чэрвеня крыж на жыцці маёй каханай жонкі. Бяда прыпала якраз на суботу, калі амаль большыня людзей пакідае свае гарадскія кватэры і падаецца на прыроду.

За сваё працяглае жыццё я ні разу не бачыў, як памірае чалавек. Цяпер мне належала перажыць такое, прычым адзін на адзін з чалавекам, у якога ні на грам не было ў той дзень надзеі на выратаванне. Зрабіў званок у хуткую дапамогу, а сам сеў ля галавы хворай. Родным і блізкім не званю, бо па ўсім відаць, што вось-вось навекі павінен развітацца з бясконца дарагім мне ЧАЛАВЕКАМ. Нават на секунду не адводжу сваіх вачэй ад Ефрасінні, пільна ўзіраюся, як сутаргі ходзяць па твары, як ад глыбокіх удыхаў і выдыхаў уздымаецца цела. Стогнаў, крыкаў ніякіх не чуваць. Раптам бачу, як сталі павялічвацца проста да незвычайных памераў яе вочы і на нейкае імгненне, нібы просячы дапамогі, утаропіліся ў мяне. Маўчу я,

маўчыць і яна, не адводзячы ад мяне вачэй. Услухоўваюся і зноў не чую аніякага стогну. Калі заўважыў, што вочы пачалі паступова набываць свой звычайны памер, стульваю іх павекамі, складаю накрыж на грудзях ужо яе халодныя, але, як заўсёды, вельмі мілыя мне рукі. У кватэры ўсталявалася сапраўдная магільная цішыня. Я ніяк не магу адарвацца ад крэсла і добра ўсведамляю, што сяджу ўжо не каля хворай, а каля нябожчыцы. Не ведаю, колькі я прасядзеў бы яшчэ, каб не званок дамафона: прыехала хуткая дапамога. Здзівіліся, што я толькі адзін у кватэры. Але як толькі работнікі заняліся сваёй справай, я хуценька заглянуў да суседзяў, і, на маё шчасце, двое з іх у гэты час былі дома: Ларыса і Уладзіслаў. Яны адразу ж увайшлі ў кватэру і разам са мною, з урачамі пачалі абмяркоўваць, што рабіць з нябожчыцай. Пэўны варыянт ужо быў у мяне. Вылучыў хвілінку часу і патэлефанаваў нашай добрай памагатай Людзе Касяк. Улічваючы маё адзіноцтва ў той цяжкай сітуацыі, а магчыма і на ўсе наступныя гады, паважаны ўзрост, усе прысутныя ў кватэры, разам з супрацоўнікамі хуткай дапамогі, сышліся на тым што найлепшы спосаб вырашыць лёс нябожчыцы — крэмацыя. Я не пярэчыў, тым больш, што яшчэ за колькі гадоў да першага інсульту ў мяне з жонкай не раз вялася размова на гэтую тэму. Да гэтай невясёлай, але надзвычай актуальнай ва ўмовах такой страшэннай хваробы тэмы мы часта звярталіся і пасля перанясення некалькіх чарговых інсультаў. Мая суразмоўца заўжды выдатна разумела, пра што ідзе гаворка, і кіўком галавы не раз выказвала згоду на крэмацыю. Дарэчы, выключная здольнасць правільна асэнсоўваць тую ці іншую падзею не пакідала Ефрасінню да апошніх дзён жыцця. Можа, толькі за два-тры дні да смерці яна перастала цікавіцца тэлеперадачамі, слухаць, што чытаю ёй з газет. Слых жа ў яе ў тыя дні быў куды лепшы, чым у мяне.

З маёй згоды брыгада машыны хуткай дапамогі паспрыяла тэрміноваму вырашэнню пытання з транспарціроўкай цела ў морг. Усё рабілася, як па графіку, без майго ўдзелу і дапамогі суседзяў. Ноч з 11 на 12 чэрвеня правёў у кватэры адзін, хаця былі настойлівыя прапановы медыкаў не пакідаць мяне аднаго. Зразумела, на працягу ўсёй ночы не заснуў нават і на хвілінку. З раніцы 12 чэрвеня ўзяў у поўным сэнсе слова сапраўднае «шэфства» нада мной самы блізкі і надзейны сябар, урач хуткай дапамогі Уладзімір Янкоўскі. Зблізіў нас паміж сабой увосень 2003 года другі па ліку інсульт Ефрасінні. Вырашальную ролю ў збліжэнні адыграў моўны фактар: у кватэры і па дарозе ў бальніцу дыялог вялі толькі па-беларуску. На развітанне абмяняліся тэлефоннымі нумарамі. Ад таго часу ў нас ніколі не прыпыняліся так жаданыя і патрэбныя ў першую чаргу мне

сустрэчы. Як я і спадзяваўся, мой надзейны сябра ўзяў на сябе амаль усю нагрузку па арганізацыі крэмацыі цела Ефрасінні. Я толькі там, дзе трэба, плаціў грошы і распісваўся. Такім надзейным, шчырым сябрам застаецца Уладзімір Янкоўскі і па сёння, чым я ў сваім шаноўным веку, не маючы дзяцей, вельмі даражу. За сваю будучыню я спакойны. Упэўнены, што урна з прахам дарагой, незабыўнай жонкі Ефрасінні будзе пакоіцца побач з маёй магілай ці будзе развеяны разам з маім прахам у наваколлі роднай мне і дарагой ёй вёскі Магільнае. Да смерці, пражыўшы нямала гадоў, стаўлюся з алімпійскім спакоем, як да звычайнай прыроднай з’явы. Але калі яна яшчэ на шмат гадоў запозніцца, не буду наракаць на свой лёс. Патрэбнай для дарагой Бацькаўшчыны творчай працы засталося ў мяне нікольکі не менш як на дзясятак гадоў.

# ДАДАТАК

## СПІС АСНОЎНЫХ ПУБЛІКАЦЫЙ ПА НАЦЫЯНАЛЬНАЙ ПРАБЛЕМЕ


1. О некоторых особенностях развития речи дошкольников в условиях двуязычия // Дошкольное воспитание (РСФСР). — 1978. — № 7.
2. Педагагічная спадчына Цёткі // Полымя. — 1986. — № 7.
3. Белорусский язык: взгляд русского // Нёман. — 1989. — № 4.
4. Навучанне ў дзіцячым садзе 5–6-годак роднай беларускай мове сродкамі дыдактычнай гульні. — Мінск, 1989.
5. Беларусізацыя 20-х гадоў і школа // Беларуская мова і літаратура ў школе. — 1989. — № 7.
6. Возрождение национальной школы // Коммунист Белоруссии. — 1989. — № 9.
7. Роднае слова ў аўдыторыях. Беларусізацыя 20–30-х гг. у ВНУ і тэхнікумах // Беларуская мова і літаратура ў школе. — 1990. — № 4.
8. Асвета і мова // Настаўніцкая газета. — 1990. — 23 чэрвеня; 7, 11, 18, 25 ліпеня; 1, 8, 22, 25 жніўня (разам з Л. Лычом).
9. Без кітайскай сцяны. Беларусізацыя 20-х гадоў і дашкольнае выхаванне // Настаўніцкая газета. — 1991. — 16 лістапада.
10. Нацыянальная палітыка Беларусі 20-х гадоў і школа // Вопросы истории школы и педагогической мысли в Белоруссии : сб. науч. ст. — Минск, 1992.
11. Я. А. Каменскі і нацыянальная школа // Настаўніцкая газета. — 1992. — 28 сакавіка.
12. Школа пачынаецца з мовы: мова ў педагагічнай спадчыне Я. А. Каменскага // Роднае слова. — 1992. — № 4.
13. Нацыянальная асвета: традыцыі і праблемы // Настаўніцкая газета. — 1992. — 20 чэрвеня; 15 ліпеня; 8, 12 жніўня; 2, 16, 26 верасня (разам з Л. Лычом).
14. Беларусізацыя — святыня народа // Настаўніцкая газета. — 1992. — 2 снежня.
15. Вярнуць на законны пасад : Погляд на двухмоўе вачыма рускага чалавека // Настаўніцкая газета. — 1993. — 18 верасня.
16. Мы не ізгоі на роднай зямлі : Двухмоўе ў маналогах будучых настаўнікаў // Настаўніцкая газета. — 1993. — 18 снежня.
17. Нацыянальна-культурнае адраджэнне і асвета // Настаўніцкая газета. — 1994. — 12, 19 студзеня; 9 лютага; 12, 19 сакавіка.

18. Універсітэту быць, але нацыянальнаму // Настаўніцкая газета. — 1994. — 23 красавіка.
19. Дзяржаўнае двухмоўе: чаму я супраць? // Беларуская думка. — 1994. — № 12.
20. Чалавек без матчынай мовы, як птушка без крыла // Народная газета. — 1995. — 20 чэрвеня.
21. SOS! Рушыцца падмурак беларускай нацыянальнай школы // Рэспубліка. — 1995. — 31 жніўня.
22. Ідэі нацыянальнай школы ў педагагічнай публіцыстыцы. 1917–1924 гг. // Адукацыя і выхаванне. — 1995. — № 8.
23. Ухабістыя шляхі да нацыянальнай школы // Звязда. — 1995. — 31 жніўня (разам з Л. Лычом).
24. Ці быць нацыянальнай педагогіцы? Быць! // Настаўніцкая газета. — 1995. — 11 кастрычніка.
25. Адраджэнне без нацыянальнай адукацыі — фікцыя // Звязда. — 1996. — 29 лютага.
26. Аркадзь Смоліч і яго ўклад у нацыянальную педагогіку // Народная асвета. — 1996. — № 9.
27. Антон Баліцкі — стваральнік нацыянальнай сістэмы народнай адукацыі Беларусі // Адукацыя і выхаванне. — 1996. — № 9.
28. Усевалад Ігнатоўскі — асветнік, педагог // Адукацыя і выхаванне. — 1996. — № 12 (разам з Л. Лычом).
29. Праблемы захавання нацыянальных традыцый у агульнаадукацыйнай школе 30-х гг. // Адукацыя і выхаванне. — 1997. — № 2.
30. Вышэйшая і сярэдняя спецыяльная школа ў 30-я гады // Адукацыя і выхаванне. — 1997. — № 3.
31. Адам Ягоравіч Багдановіч — педагог і асветнік // Настаўніцкая газета. — 1997. — 22 сакавіка.
32. Не растапчыце гэтую кволую славянскую красачку [да палітычнага аб'яднання Беларусі з Расіяй] // Народная воля. — 1997. — 20 верасня.
33. Вяртанне да нацыянальнай школы можа быць плаўным, нават «аксамітным» // Звязда. — 1997. — 23 кастрычніка (разам з Л. Лычом).
34. Якуб Колас — педагог // Адукацыя і выхаванне. — 1997. — № 10.
35. Станаўленне беларускай нацыянальнай сістэмы адукацыі (1917–1927 гг.) // Адукацыя і выхаванне. — 1997. — № 12.
36. У адукацыі лёс нацыі // Рэспубліка. — 1997. — 17 снежня.
37. Педагагічныя погляды Максіма Гарэцкага // Народная асвета. — 1998. — № 1.
38. Годзе беларусам у адзіноце заставацца народам без нацыянальнага ўніверсітэта // Звязда. — 1998. — 6 лютага.

39. Уклад у педнавуку Беларусі Уладзіміра Пічэты // Гісторыя: праблемы выкладання. — 1998. — № 3.
40. «Да брамы нашай беларускай» (БНР і асвета) // Літаратура і мастацтва. — 1998. — 20 сакавіка (разам з Л. Лычом).
41. Беларусаў шмат — мова адна. Ці не загіне яна без дogляду? // Рэспубліка. — 1998. — 6 жніўня.
42. Педагагічная спадчына Вацлава Ластоўскага // Народная асвета. — 1998. — № 10.
43. Уклад Язэпа Лёсіка ў распрацоўку нацыянальных асноў педагогікі // Настаўніцкая газета. — 1999. — 20 сакавіка.
44. Ці стане гісторыя педагогікі Беларусі самастойным прадметам? // Настаўніцкая газета. — 2000. — 18 студзеня.
45. У пошуках уласнага шляху: ідэя беларускай школы на пачатку XX ст. // Адукацыя і выхаванне. — 2000. — № 2 (разам з Л. Лычом).
46. Нацыянальны ўніверсітэт — будучыня Беларусі // Наша слова. — 2000. — 31 траўня.
47. Асвета ў старажытнай Беларусі і Вялікім Княстве Літоўскім. — Мінск, 2000.
48. Асвета і педагагічная думка Беларусі ў перыяд Рэчы Паспалітай. — Мінск, 2000.
49. Беларускі педагог Латвіі (да 120-годдзя Сяргея Сахарава) // Народная асвета. — 2000. — № 9.
50. З кагорты выдатных педагогаў (200 год Ігнату Кулакоўскаму) // Адукацыя і выхаванне. — 2000. — № 11.
51. Прэстыжная дзялянка (дашкольнае выхаванне Беларусі ў XX ст.) // Настаўніцкая газета. — 2000. — 30 снежня.
52. Наступ на беларускую школу праз змаганне з «нацдэмакратызмам» (канец 20-х — першая палова 30-х гадоў) // Аняменне : З хронікі знішчэння беларускай мовы. — Мінск, 2000 (разам з Л. Лычом).
53. Заўвагі і прапановы да праекта Закона Рэспублікі Беларусь «Об образовании в Республике Беларусь» // Народная воля. — 2001. — 9 студзеня (разам з Л. Лычом).
54. Я з вамі, змагары за беларускасць! // Народная воля. — 2001. — 12 студзеня.
55. Асвета на Беларусі ў 1772–1802 гг. — Мінск, 2001 (разам з Л. Лычом).
56. У шлюб [палітычнае аб'яднанне Беларусі з Расіяй] без пасагу // Народная воля. — 2002. — 29 сакавіка.
57. Калі мова будзе роднай? // Звязда. — 2001. — 21 красавіка (разам з Л. Лычом).
58. Адукацыя і педагагічная думка Беларусі : старонкі гісторыі. Перыяд Рэчы Паспалітай // Пачатковая школа. — 2001. — № 5.

59. Ідэя нацыянальнай школы ў Заходняй Беларусі (сакавік 1921 — верасень 1939 г.) // Пачатковая школа. — 2001. — № 6.
60. Шляхі сталення. Да 70-годдзя ўтварэння Вышэйшага педагагічнага інстытута ў Мінску. — Мінск, 2001 (разам з Л. Лычом).
61. Адукацыя і педагагічная думка Беларусі: старонкі гісторыі (20-я гг. XX ст.) // Пачатковая школа. — 2001. — № 8 (разам з Л. Лычом).
62. Гісторыя народнай адукацыі Беларусі (1917–1941 гг.). — Мінск, 2001.
63. З'езды настаўнікаў: нумарацыя аднолькавая — падыходы розныя // Літаратура і мастацтва. — 2002. — 28 сакавіка (разам з Л. Лычом).
64. Патрэбны і Беларусі даведнік // Настаўніцкая газета. — 2002. — 29 жніўня (разам з Л. Лычом).
65. Адукацыя на беларускіх землях Рэчы Паспалітай (1772–1795 гг.) // Адукацыя і выхаванне. — 2002. — № 8 (разам з Л. Лычом).
66. Адукацыі — нацыянальную самабытнасць // Літаратура і мастацтва. — 2002. — 6 верасня (разам з Л. Лычом).
67. У экстрэмальных умовах інтэрвенцыі // Народная асвета. — 2002. — № 11–12 (разам з Л. Лычом).
68. Язэп Лёсік — грамадска-палітычны дзеяч, пісьменнік, педагог (да 120-годдзя з дня нараджэння) // Гісторыя : праблемы выкладання. — 2003. — № 3.
69. Без свайго беларускага ўніверсітэта — аніяк! // Народная воля. — 2003. — 9 кастрычніка.
70. У духу ідэй асветніцтва // Адукацыя і выхаванне. — 2003. — № 11 (разам з Л. Лычом).
71. Пратэстанцкая адукацыя: этнічны аспект // Беларускі гістарычны часопіс. — 2004. — № 3 (разам з Л. Лычом).
72. У іпастасях педагога, мовазнаўца, лексікографа, фальклапыста і этнографа (215 год з дня нараджэння Івана Насовіча) // Адукацыя і выхаванне. — 2004. — № 4 (разам з Л. Лычом).
73. Станаўленне і развіццё нацыянальнай асветы і школы на Беларусі (кастрычнік 1917 — ліпень 1920 г.) // Наша слова. — 2006. — 31 траўня; 7 чэрвеня.
74. Асвета і школа ў Беларусі ў перыяд існавання БССР і ЛітБела (студзень 1919 — ліпень 1919 г.) // Наша слова. — 2006. — 28 чэрвеня.
75. Ля вытокаў універсітэцкай адукацыі // Гісторыя : праблемы выхавання. — 2006. — № 9 (разам з Л. Лычом).
76. Зрусіфікаванасць — этнічная смерць беларусаў // Народная воля. — 2008. — 28 жніўня (разам з Л. Лычом).

# З НАДРУКАВАНЫХ І НЕНАДРУКАВАНЫХ МАТЭРЫЯЛАЎ

## 1. Праект Закона па адукацыі: думкі пасля прачытання*

У мяне ўжо амаль цалкам былі выкладзены на паперы ўласныя меркаванні аб праекце Закона Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі «Аб адукацыі ў Беларускай ССР», як нечакана пазванілі з Пастаяннай камісіі па адукацыі, культуры і захаванні гістарычнай спадчыны Вярхоўнага Савета БССР з просьбай азнаёміцца з такога роду праектам Закона, складзеным з удзелам народных дэпутатаў згаданай Камісіі, на што я ахвотна згадзілася, бо ў нас даўно нестае сапраўднага заканадаўчага акта па адукацыі. Наяўнасць двух праектаў Закона аб адукацыі трэба разглядаць як вялікую заклапочанасць педагагічнай творчай інтэлігенцыі рэспублікі скрануць нарэшце з месца гэтую набалелую праблему, ад паспяховага вырашэння якой шмат у чым залежыць лёс беларускай нацыі. Два такія блізкія паводле зместу і падыходаў дакументы даюць магчымасць убачыць і ўхіліць іх слабыя месцы, хутчэй завяршыць працу па складанні якаснага праграмнага акта для такой важнай сферы жыцця ў любым грамадстве, як адукацыя. Хацелася б і мне хоць у чымсьці паспрыяць дадзенай справе.

Праблему нацыянальна-культурнага адраджэння братняга мне беларускага народа я ўспрымаю, як самую блізкую і для сябе, бо лічу, што культура рускай нацыі, да якой я належу, шмат згубіць, калі побач не будзе крынічыць, квітнець духоўнае жыццё беларусаў. Такое ж магчыма толькі пры ўмове функцыянавання глыбока інтэграванай ў беларускую нацыянальную культуру сістэмы адукацыі. Таму і Закон нам патрэбен не толькі аб адукацыі, але і аб нацыянальнай адукацыі ў Беларускай ССР, каб кожны, каму належыць пераўтвараць яго артыкулы ў жыццё, ведаў пра іх не толькі зместавую, але і нацыянальную накіраванасць. З сусветнай практыкі вядома, што кожная дзяржава, якая жадае надаць пэўнаму аспекту сваёй дзейнасці асабліва важнае, агульнадзяржаўнае значэнне, вельмі ахвотна карыстаецца тэрмінам «нацыянальнае». Не маем права і мы яго абыходзіць, калі размова датычыць адукацыі, магчыма таго адзінага эфектыўнага сродку, які дапаможа выратаваць беларускі народ як самабытны этнас ад культурна-моўнай асіміляцыі. Пішу адзінага, бо

* Праект склала Пастаянная камісія Вярхоўнага Савета БССР па адукацыі, культуры і захаванні гістарычнай спадчыны.

ўжо бачу, як цяжка далучыць да актыўнага нацыянальнага жыцця тыя пакаленні беларусаў, якія вучыліся і выхоўваліся ўсе пасляваенныя гады па праграмах агульнаадукацыйных школ, тэхнікумаў і інстытутаў, што былі вельмі і вельмі далёкімі ад нацыянальных спадзяванняў найбольш свядомых беларусаў. Адсюль у многіх з іх такі небяспечны, неўласцівы іншым народам вірус нацыянальнага нігілізму.

Па роду сваёй прафесійнай дзейнасці я добра знаёмая з усімі найважнейшымі заканадаўчымі актамі пасляваеннага перыяду аб адукацыі ў Беларускай ССР. Разглядаемыя цяпер два праекты куды больш за ўсе папярэднія дастасаваны да яе ўнутранага жыцця. У шэрагу іх артыкулаў ужо сустракаюцца забытыя ў папярэднія дзесяцігоддзі выразы: «нацыянальна-культурная аснова», «на аснове нацыянальных традыцый» і т. п. Але гэтага мала. Патрэбна хоць самая сціслая канкрэтызацыя падобных паняццяў, каб узвысіць іх значэнне ва ўяўленні педагагічнай інтэлігенцыі, дапамагчы апошняй правільна зразумець сваю ролю і адказнасць у фарміраванні і функцыяванні сапраўды нацыянальнай, а не толькі на паперы, сістэмы народнай адукацыі. Гэтая ж справа для нас такая новая, а аўтары ўсяго толькі аперыруюць паняццем «нацыянальнае» ў яго розных варыяцыях. Пра гэта трэба гаварыць больш грунтоўна і, вядома ж, не ў меншай ступені, чым сказана ў адпаведных артыкулах праектаў, да прыкладу, аб дзяржаўна-грамадскім кіраванні сістэмай адукацыі, аб ахове здароўя навучэнцаў і студэнтаў ці аб іх правах. Перакананна, што Закон аб адукацыі абавязкова павінен мець калі не спецыяльны раздзел, дык хаця б паасобны падрабязны артыкул аб нацыянальнай накіраванасці сістэмы народнай адукацыі, якую нам трэба, не марудзячы, ствараць сёння. Я асабіста за раздзел з тым, каб як мага паўней раскрыць нацыянальна-спецыфічнае ў народнай адукацыі Беларусі, паказаць шляхі развязвання дадзенай лёсавырашальнай праблемы ў нашай штодзённай практычнай дзейнасці.

У праекце Закона, што падрыхтаваны часовым творчым калектывам пры Міністэрстве народнай адукацыі БССР, ёсць патрэба ў замене ў яго прэамбуле слова «ўздым», калі гаворыцца пра нацыянальную самасвядомасць, бо яшчэ вельмі і вельмі доўга галоўнай мэтай нашай сістэмы адукацыі і выхавання будзе не «ўздым» у маладога пакалення такой самасвядомасці, а хаця б фарміраванне, усталяванне яе ў самым элементарным вымярэнні. У шэрагу выпадкаў, у тым ліку і ў 4-м артыкуле, у якім размова ідзе пра прынцыпы дзяржаўнай палітыкі ў галіне адукацыі, ёсць выраз (прычым стаіць на першым месцы) «прыярытэт агульначалавечых каштоўнасцей». Пярэчыць гэтаму прынцыпу я ніколькі не збіраюся, але

ж, улічваючы ледзь не поўную размытасць нацыянальных пачаткаў у народнай адукацыі Беларусі, я не ставіла б яго на першае месца. Быць на такім месцы заслугоўвае нацыянальны фактар у адукацыі і выхаванні, бо калі на практыцы, як гэта не раз здаралася ў гісторыі, пачнуцца свядомыя адступленні ад яго, дык вельмі лёгка будзе апраўдацца, спасылаючыся на тое, што ў нас жа заканадаўча зафіксаваны прыярытэт агульначалавечых каштоўнасцей над нацыянальнымі. Вось калі б мы дасягнулі сапраўды пазітыўных зрухаў у фарміраванні нацыянальных асноў у адукацыі, тады можна было б і ў самім Законе памяняць месцамі нацыянальнае і агульначалавечае.

Зусім не апраўдана ў дадзеным варыянце праекта Закона залішняя сцісласць артыкула № 5 «Мова навучання». Лічу, мала сказаць, што яна выбіраецца ў адпаведнасці з Законам «Аб мовах у Беларускай ССР». Яго асноўныя, прынцыповай важнасці думкі па гэтым пытанні патрэбна паўтарыць і ў Законе аб адукацыі з улікам ужо набытай практыкі. Слушна зрабілі аўтары праекта Закона ад Камісіі Вярхоўнага Савета БССР, што не пайшлі такім шляхам і паспрабавалі ўнесці пэўную канкрэтызацыю ў моўную праблему народнай адукацыі, хаця і прапануемае імі нельга прызнаць дастатковым.

З улікам нашых складаных задач па нацыянальна-культурным адраджэнні беларускага народа не вытлумачальна, чаму да крайнасці скупа выкладзены артыкул № 6 «Адукацыя, выхаванне і культура». На мой погляд, у ім патрэбна хаця б у самых агульных рысах вызначыць ролю такіх прадметаў агульнаадукацыйнай школы, як гісторыя Беларусі і геаграфія Беларусі, прычым у якасці самастойных дысцыплін, а не якіх-небудзь дадаткаў да аналагічных прадметаў па СССР у цэлым; падкрэсліць неабходнасць шырокага і дзейснага разгортвання краязнаўства сярод навучэнцаў і студэнтаў як сродку паглыблення іх ведаў аб родным краі, выхавання нацыянальнай самасвядомасці. Калі чытаеш праект Закона, ствараецца ўражанне, што яго аўтары свядома не ідуць на грунтоўнае выкладанне, як гэта імі зроблена ў артыкулах 13, 15, 17, 20 і іншых, тых напрамкаў у галіне адукацыі, якія непасрэдна датычаць культуры і гісторыі беларускай нацыі. Што ж да аналагічнага дакумента дэпутацкай групы Вярхоўнага Савета БССР, то ў ім зусім адсутнічае артыкул «Адукацыя, выхаванне і культура» (што ні ў якім выпадку нельга апраўдаць), а многія пытанні, якія павінны ўключацца ў яго, увайшлі ў не зусім адпаведны для гэтага артыкул № 2 пад назвай «Мэты сістэмы народнай адукацыі ў Беларускай ССР».

Не магу пагадзіцца, што ў разглядаемых праектах Закона аб адукацыі не толькі няма спецыяльнага артыкула, але і зусім не згадваецца чарно-

быльская катастрофа. Мы не маем права абыходзіць дадзеную праблему не толькі ў навучальных праграмах інстытутаў і тэхнікумаў (незалежна ад іх профілю), але і агульнаадукацыйных школ. Сістэма народнай адукацыі на Беларусі павінна садзейнічаць таму, каб у маладога пакалення сфарміраваліся трывалыя тэарэтычныя веды па розных праблемах радыяцыі, меліся разумныя звычкі, як жыць і паводзіць сябе на заражанай радыенуклідамі зямлі.

Накшталт усіх вядомых нам заканадаўчых актаў па адукацыі і ў дадзеных у якасці першапачатковага звяна прысутнічае дашкольнае выхаванне. Але ёсць і адрозненні, у прыватнасці ў тым, каму належыць вядучая роля ў дашкольным выхаванні дзяцей. У надрукаваным цяпер праекце Закона такое права катэгарычна замацоўваецца за сям’ёй, а featuresрознага роду дашкольныя ўстановы (дзяржаўныя, сямейныя, інтэрнатныя і іншыя) абавязаны аказваць ёй у гэтым матэрыяльную і метадычную дапамогу. Улічваючы сапраўднае месца грамадскага дашкольнага выхавання ў фарміраванні асобы дзіцяці, думаецца, не варта падкрэсліваць вядучую ролю ў гэтым сям’і, бо на практыцы вельмі цяжка вызначыць, а парою проста і немагчыма, хто з іх уносіць найбольшы ўклад у гэтую важную справу. Галоўнае тут — цесная, плённая садружнасць паміж сям’ёй і грамадскімі дашкольнымі ўстановамі ў выхаванні самай юнай змены нашага народа.

Раздзяржаўленне ўласнасці, прыватызацыя эканамічнай дзейнасці, якія ўсё мацней авалодваюць думкамі людзей, вымушаюць і па-іншаму глянуць на ўсе формы падпарадкавання ўстаноў народнай адукацыі. Асабліва рашучы крок па асэнсаванні гэтага новага для нашай практыкі напрамку зрабілі аўтары праекта Закона па адукацыі з ліку народных дэпутатаў Вярхоўнага Савета БССР. Цалкам пагаджаюся з імі, што, акрамя дзяржаўных агульнаадукацыйных школ, прафесійна-тэхнічных вучылішчаў, тэхнікумаў і інстытутаў, маюць права на існаванне рознага роду нацыянальна-культурныя цэнтры, народныя ўніверсітэты, нядзельныя школы. Сюды таксама можна было б дадаць тыя духоўныя нацыянальныя ўстановы, якія, напэўна ж, пажадае стварыць царква, бачачы, як расце яе аўтарытэт у народзе, павышаецца ўздзеянне на культурнае жыццё на Беларусі. Заўважу, што ў сярэднявеччы яна мела вельмі багатыя традыцыі ў практыцы такога тыпу навучальных устаноў. І цяпер яны, вядома ж з беларускай мовай навучання, крайне патрэбны нам, каб спыніць уладкаванне на службу ў цэрквы і касцёлы выпускнікоў духоўных семінарый і акадэмій з іншых саюзных рэспублік і Польшчы, якія не валодаюць роднай мовай карэннай нацыянальнасці нашага краю, далёкія ад яго культуры і

звычаяў. Дзейнасць такіх святароў не ў стане дадаць штосьці каштоўнае да беларускай духоўнай культуры, хоць трохі паспрыяць нацыянальнаму абуджэнню народа.

Выступаючы за стварэнне дэцэнтралізаваных (прыватных, муніцыпальных, кааператыўных і г. д.) навучальных устаноў, аўтары альтэрнатыўнага праекта Закона аб адукацыі зусім лагічныя ў сваіх поглядах, калі пішуць, што статус такіх устаноў павінен быць прыраўнаваны да дзяржаўных, для чаго толькі трэба, каб веды выпускнікоў першых ні ў чым не ўступалі тым, хто закончыў апошнія.

Заслугоўвае ўвагі і артыкул 29 «Рэгуляванне адукацыі, якую ажыццяўляюць прыватныя асобы», якога, дарэчы, няма ў праекце Закона аб адукацыі, падрыхтаваным супрацоўнікамі Міністэрства народнай адукацыі БССР. Няма яго і ва ўсіх мне вядомых астатніх аналагічных заканадаўчых актах рэспублікі. Думаю, што народныя дэпутаты Вярхоўнага Савета БССР мелі рацыю на яго ўключэнне ў свой дакумент, таму што ў практыцы шэрагу цывілізаваных краін і сапраўды многія прыватныя асобы прымаюць актыўны ўдзел у стварэнні на свае ўласныя сродкі навучальных устаноў, паасобныя з якіх карыстаюцца вельмі шырокай папулярнасцю. Вялікая хвала будзе таму з грамадзян Беларусі, хто ў ліку першых возьме на сябе гэтую гуманную акцыю. Такога роду абавязкі з усіх пунктаў гледжання належным чынам акрэслены ў названым артыкуле праекта, які, я лічу, заслугоўвае ўхвалы.

Можна было б спыніцца і на іншых палажэннях альтэрнатыўнага праекта Закона аб адукацыі, якія адсутнічаюць ва ўсіх папярэдніх падобнага роду дакументах, і ў першую чаргу на правільным абгрунтаваным выкладзе такіх важных пытанняў, як падрыхтоўка спецыялістаў у ВНУ на дагаворнай (кантрактнай) аснове, адносіны да дысцыплін у звычайнага тыпу навучальнай установе, звязаных з вайсковай падрыхтоўкай, увядзенне аплаты за навучанне для замежных грамадзян. Але найлепш абмяжуюся тым, што парэкамендую аўтарам двух праектаў усю далейшую працу весці толькі шляхам сумесных намаганняў, бо гэта дапаможа на высокім прафесійным узроўні стварыць дакумент, дзе найбольш поўна, з глыбокай навуковасцю будуць выкладзены нялёгкія шляхі фарміравання ў рэспубліцы сапраўды нацыянальнай сістэмы народнай адукацыі.

*Е. Г. Андрэева,*
*доктар педагагічных навук,*
*прафесар кафедры агульнай педагогікі*
*Мінскага дзяржпедінстытута*

*Заўвага:* водгук складзены не пазней як да сярэдзіны 1991 года.

ВЯРХОЎНЫ САВЕТ БССР

КАМІСІЯ ПА АДУКАЦЫІ, КУЛЬТУРЫ І ЗАХАВАННЮ ГІСТАРЫЧНАЙ СПАДЧЫНЫ

220010, г. Мінск, Дом Урада




ВЕРХОВНЫЙ СОВЕТ БССР

КОМИССИЯ ПО ОБРАЗОВАНИЮ, КУЛЬТУРЕ И СОХРАНЕНИЮ ИСТОРИЧЕСКОГО НАСЛЕДИЯ

220010, г. Минск, Дом Правительства

„2" студзеня 1991 г. №20/1-249

Шаноўны-я [illegible]

Паведамляем Вам, што пасяджэнні экспертнай групы па дапрацоўцы Закона аб адукацыі ў БССР, адбудуцца 10 і 11 студзеня г.г. у пакоі № 156 Дома Урада. Іншагароднім забраніраваны месцы ў гасцініцы.

Для даведак тэлефон 26-05-55. Пачатак у 10 гадзін

Намеснік старшыні Камісіі Вярхоўнага Савета БССР Л.П.Баршчэўскі

ВЯРХОЎНЫ САВЕТ БССР

КАМІСІЯ ПА АДУКАЦЫІ, КУЛЬТУРЫ І ЗАХАВАННЮ ГІСТАРЫЧНАЙ СПАДЧЫНЫ

220010, г. Мінск, Дом Урада




ВЕРХОВНЫЙ СОВЕТ БССР

КОМИССИЯ ПО ОБРАЗОВАНИЮ, КУЛЬТУРЕ И СОХРАНЕНИЮ ИСТОРИЧЕСКОГО НАСЛЕДИЯ

220010, г. Минск, Дом Правительства

21 сакавіка 1991 г. № 20 407

Паважаная Ефрасіння Георгіеўна!

Камісія Вярхоўнага Савета БССР па адукацыі, культуры і захаванню гістарычнай спадчыны сумесна з Міністэрствам народнай адукацыі БССР прыняла рашэнне аб стварэнні часовага навукова-даследчага калектыву "Нацыянальная школа Беларусі". з мэтаю распрацоўкі навуковай канцэпцыі нацыянальнай школы Беларусі, а таксама стварэння адпаведных праграм навукова-прыкладнога /метадычнага/ характару.

ЧНДК "Нацыянальная школа Беларусі" будзе належным чынам забяспечаны неабходнымі памяшканнямі, абсталяваннем, аргтэхнікай і фінансавымі сродкамі. Прадугледжваецца праца часткі супрацоўнікаў па праграмах ЧНДК з вызваленнем іх ад асноўных службовых абавязкаў, а таксама на заказных асновах.

Камісія ВС БССР рэкамендавала Вас у склад рабочай групы /групы экспертаў/ ЧНДК "Нацыянальная школа Беларусі" і просіць унесці пасільны ўклад у распрацоўку яго праграм і канцэпцыі нацыянальнай школы Беларусі. Просім прабачыць, калі па тых або іншых прычынах не было папярэдне паведамлена Вам аб прынятым рашэнні.

Прыкладаем склад груп, рэкамендаваных Камісіяй, якія, аднак, будуць дапоўнены з боку Міністэрства народнай адукацыі БССР.

Жадаем поспехаў у працы.

З павагаю

Сакратар Камісіі [signature] Я.А.Цумараў

*Заўвага:* створаны ЧНДК «Нацыянальная школа Беларусі» складаўся з дзвюх груп: патранажнай (сем чалавек) і рабочай (сямнаццаць). Ефрасіння Андрэева ўваходзіла ў апошнюю.

## 2. Мой шлях да беларускага слова*

Упершыню літаратурную беларускую мову я пачула дзесьці на пачатку 50-х гадоў, калі вучылася ва Уфе на філалагічным факультэце Башкірскага дзяржаўнага педагагічнага інстытута. Пастараўся ж аб гэтым дацэнт факультэта Леў Бараг. Да вайны ён працаваў загадчыкам кафедры і дацэнтам Мінскага педагагічнага інстытута, старшым навуковым супрацоўнікам у Інстытуце мовы і літаратуры Акадэміі навук БССР. У Башкірыю, як не раз даводзілася чуць ад студэнтаў, трапіў з-за сваіх беларускіх «нацыяналістычных» поглядаў. Ведучы з намі заняткі па фальклоры ўсходнеславянскіх народаў, не раз цытаваў вытрымкі з беларускай вуснай творчасці. Умеў падабраць з іх больш трапныя і адмысловыя, чым добра садзейнічаў таму, што ў большасці студэнтаў фарміраваўся пазітыўны погляд на беларускую мову.

Не думала і не чакала, але раптам у жыцці мне добра пашчасціла: у сталіцы Башкірыі Уфе пазнаёмілася з беларускім хлопцам, які вучыўся на завочным аддзяленні гістарычнага факультэта педінстытута. Пажаніліся. І ў 1958 годзе прыехалі ў самы тыповы куток Беларусі — на Уздзеншчыну. Вось тут я ўволю наслухалася чысцюткай беларускай мовы. На маё шчасце, яе яшчэ не паспелі як след абрусіць перадачамі па радыё і тэлебачанні, дэманстрацыямі мастацкага кіно, для чаго выкарыстоўвалася пераважна руская мова. Зараз ужо і ў асяроддзі мясцовых жыхароў вёсак добра адчуваецца трасянка.

Сваё працоўнае жыццё ў Беларусі пачала з загадвання адным з дзіцячых садкоў г. Мінска. Радавала, што ў чужым мне краі не ўзнікла аніякай праблемы з мовай: уся праца з дзецьмі і выхавальнікамі не толькі ў маім, але і ва ўсіх мінскіх дзіцячых садах вялася выключна на рускай мове, бо адзінай рабочай мовай яна з'яўлялася ў гарадскіх агульнаадукацыйных школах і ва ўсіх навучальных установах больш высокага тыпу. Але часам, нягледзячы на вялікую радасць з-за панавання ў Мінску рускай мовы ў сістэме адукацыі, прыходзіла да думкі: а ці ў інтарэсах гэта беларускага народа? Адказам на пытанне было: «Не». Бо калі маладыя пакаленні таго ці іншага народа ўзгадоўваюцца ў чужой мове, яны не ў стане быць не толькі актыўнымі, але нават і пасіўнымі носьбітамі яго нацыянальна-культурных традыцый. У выніку такі народ немінуча асімілюецца, сыдзе з гістарычнай сцэны. Значыцца, пры такой сістэме адукацыі, лічыла,

---

* Голас Радзімы. — 1999. — 5 жніўня.

няма будучага ў беларускага народа. Спрабавала не раз гэтае пытанне ўзняць у неафіцыйнай абстаноўцы ў асяроддзі педагогаў беларускай нацыянальнасці. Атрымлівала самыя розныя адказы: «Выцясненне і замена беларускай мовы рускай стварае лепшыя магчымасці для авалодання беларусамі культурнымі, навуковымі дасягненнямі сусветнай цывілізацыі»; «Мы рухаемся да светлага камуністычнага грамадства, і на першым этапе яго існавання ўсе асноўныя моўныя функцыі будзе ажыццяўляць самая развітая ў СССР мова — руская, таму ў захаванні нацыянальных моваў ужо няма аніякай практычнай патрэбы».

Такія адказы мяне нiколькi не задавальнялі, і я працягвала адчуваць нейкую незразумелую і для самой цягу да беларускага слова. Відаць, спрыялі гэтаму штогадовыя адпачынкі на беларускамоўнай радзіме мужа — Уздзеншчыне, рэгулярнае наведванне ў Мінску спектакляў Беларускага драматычнага тэатра імя Янкі Купалы. Можа, я і грашыла, але пры прыёме ў сад на працу свядома перавагу аддавала выхавацелям, у рускай мове якіх адчувалася беларускамоўнае вымаўленне. Што датычыцца нянек-прыбіральшчыц, дык яны практычна ўсе гаварылі на беларускай трасянцы. Часам у размове з імі і я імкнулася ўставіць тое ці іншае беларускае слова. Адчувалася, што гэта ім вельмі падабалася.

Стану выхаваўчай працы майго дзіцячага сада неаднаразова давалася высокая ацэнка інспектарамі Мінскага гарадскога аддзела народнай адукацыі і самога Міністэрства асветы БССР. Відаць, гэта і паслужыла падставай для запрашэння мяне ў 1965 годзе на працу ў дашкольны аддзел гэтага міністэрства. Тут беларускасці мне нават і на ёту не прыбавілася. Яго апарат энергічна працаваў у напрамку далейшага паглыблення працэсу русіфікацыі народнай адукацыі Беларусі. Пасяджэнні калегіі вяліся толькі на рускай мове. Праўда, сяды-тады ўдавалася пачуць беларускую мову на калідоры. Карыстаўся ёю — шкада, не памятаю прозвішча — адзін з інспектараў яўрэйскай нацыянальнасці.

У плане вернасці беларускай нацыянальнай ідэі намнога вышэй за супрацоўнікаў апарату Міністэрства асветы БССР стаялі вучоныя яго Навукова-даследчага інстытута педагогікі, куды я перайшла на працу ў 1971 годзе. Тут я ўжо не толькі чула жывую беларускую мову, але і не раз з’яўлялася сведкам вельмі заклапочаных, глыбока асэнсаваных размоў аб шляхах яе выратавання. Як правіла, усе сыходзіліся на такім варыянце: выратаваць беларускую мову, а разам з ёю і сам беларускі народ ад рускай культурна-моўнай асіміляцыі можна толькі праз нацыянальную сістэму адукацыі. Толькі вось бяда, ніхто не адважваўся давесці гэта высокім

партыйным інстанцыям, бо, мусіць, ведалі, што ў іх не знойдуць аніякай падтрымкі. Баяліся, што Масква абвінаваціць за такую моўную ініцыятыву ў беларускім нацыяналізме. Таму дзеля інтарэсаў будучыні беларускай мовы яе рупліўцам з Інстытута педагогікі даводзілася ўжываць свае, няхай сабе і далёка не эфектыўныя сродкі: пісаць метадычныя рэкамендацыі па правядзенні ўрокаў беларускай мовы і літаратуры ў розных класах рускамоўных адукацыйных школ, падбіраць найлепшыя ўрыўкі з твораў беларускіх пісьменнікаў для пазакласнага чытання і г. д.

Знайшла і я сабе чым заняцца ў гэтым плане: з пачатку 70-х гадоў стала распрацоўваць пытанне аб азнаямленні дзяцей рускамоўных дзіцячых садоў на занятках па развіцці мовы і з некаторымі беларускімі словамі. Дасягалася гэта сродкамі дыдактычнай гульні, у час якой дзецям прапаноўвалася адшукаць беларускія адпаведнікі рускіх слоў: белка — вавёрка, утка — качка і г. д. Па выніках распрацоўкі гэтай тэмы ў 1978 годзе выступіла ў маскоўскім часопісе «Дошкольное воспитание» з артыкулам «О некоторых особенностях развития речи детей в условиях двуязычия (Из опыта работы дошкольных учреждений Белоруссии)».

Большага па даследаванні гэтай праблемы зрабіць не магла, бо давялося змяніць профіль сваёй працы: стала выкладчыцай гісторыі педагогікі ў Мінскім дзяржпедінстытуце. У першыя ж дні кінулася ў вочы, як цяжка было многім выпускнікам беларускамоўных агульнаадукацыйных школ адказваць на семінарскіх занятках па-руску. Хаця такога не практыкавалася ў інстытуце, але я ўсё ж дазваляла студэнтам з выразна беларускім вымаўленнем карыстацца сваёй роднай мовай. А калі ўжо на самым старце гарбачоўскай перабудовы заўважыла прыкметнае ажыўленне нацыянальных пачуццяў у студэнтаў, пачала сама прасіць іх адказваць на беларускай мове ў час семінарскіх заняткаў, здачы залікаў і экзаменаў. Радавалася, што год ад году такіх ахвотнікаў у маіх групах станавілася ўсё больш і больш.

Стыхійнае, неафіцыйнае ўжыванне беларускай мовы студэнтамі, з якімі я вяла заняткі, вымушала і мяне праяўляць большае стаpанне да яе вывучэння. Асаблівая патрэба ў гэтым узнікла пасля прыняцця ў студзені 1990 года Закона «Аб мовах у Беларускай ССР». Я шчыра вітала прыняцце гэтага закона і лічу яго самым выдатным дзяржаўным актам у заканадаўчай практыцы Беларусі дваццатага стагоддзя. Адразу ж пасля апублікавання закона ўзялася за ўдасканаленне сваіх ведаў па беларускай мове. Нават увесь летні адпачынак 1990 года выкарыстала дзеля дасягнення гэтай мэты, хаця чалавеку амаль ужо ў пенсійным узросце крайне неабходна на

працягу года на месяц, а то і болей вызваліць сябе ад напружанай працы. Не вызваліла. Затое ўпершыню ў сваім жыцці з 1990/91 навучальнага года пачала выкладваць свой прадмет па-беларуску. Акрамя мяне, яшчэ толькі адзін чалавек больш чым з дваццаці прафесараў і выкладчыкаў кафедры стаў ужываць беларускую мову на занятках са студэнтамі.

Заўжды з вялікай прыемнасцю згадваю час, калі перад беларускай мовай расчыніліся дзверы ў аўдыторыях сталічнага педінстытута. А якімі радаснымі былі твары ў студэнтаў! І на калідорах не толькі філалагічнага, але і іншых факультэтаў стала зусім звычайным пачуць беларускае слова з вуснаў студэнтаў. Здавалася, ужо ніякай сіле непадуладна будзе спыніць магутную хаду беларускага нацыянальнага адраджэння. Але беларусам, мо як ніякаму з іншых славянскіх народаў, гэтак страшэнна не шанцуе з роднай мовай. Яе забаранялі антыбеларускія сілы Рэчы Паспалітай і Расійскай імперыі, не праяўляла аб ёй клопату і савецкая ўлада. Не пайшоў на карысць беларускай мове і майскі рэферэндум 1995 года. Як гісторык па адукацыі, я вельмі добра прадбачыла ўсе магчымыя негатыўныя наступствы гэтай задумы, таму ў час рэферэндуму галасавала за тое, каб толькі беларускай мове забяспечваўся статус дзяржаўнай на яе этнічнай тэрыторыі. Ці ж яна (беларуская мова) магла вытрымаць канкурэнцыю з рускай мовай, паколькі на той час апошняя панавала практычна ва ўсіх сферах грамадскага жыцця Беларусі і галоўнае — у навучальна-выхаваўчым працэсе вышэйшай і сярэдняй спецыяльнай школы, дзяржаўным справаводстве? Майскі рэферэндум 1995 года, як вядома, зрабіў зусім не абавязковымі валоданне і выкарыстанне роднай мовы тытульнай нацыі Рэспублікі Беларусь, што скрозь пацвярджаецца практычнай дзейнасцю нават саміх дзяржаўных органаў улады і кіравання ўсіх рангаў. Ад іх жа бяруць прыклад міністэрствы і ведамствы, прадпрыемствы і ўстановы.

Пасля рэферэндуму шмат людзей «адкінулася» ад беларускай мовы і ў Беларускім дзяржаўным педагагічным універсітэце імя Максіма Танка. Зараз зусім не той нацыянальны ўздым і сярод студэнтаў. І ў іх хапае розуму, каб убачыць бесперспектыўнасць беларускага слова пры сучаснай дзяржаўнай моўнай палітыцы. А вось маё шчырае, бескарыслівае жаданне служыць нацыянальнаму інтарэсу беларускага народа не дазваляе ў гэтую цяжкую для яго часіну адрачыся ад выкладання свайго прадмета на беларускай мове. Гэта маё крэда. Мне, як рускай па нацыянальнасці, вельмі не хочацца на ніве асветы ў беларускім краі выступаць у ролі асімілятара яго карэннага насельніцтва, быць паслядоўніцай і прадаўжальніцай тых заганных педагагічных традыцый, якія тут былі закладзены ў перыяд

правядзення палітыкі паланізацыі і русіфікацыі, калі маладыя пакаленні беларускага народа вучылі на чужых для іх мовах. Трэба ж нам, рускім на Беларусі, нарэшце сплаціць тыя даўгі, якія на яе зямлі пакінулі пасля задушэння паўстання Кастуся Каліноўскага галоўны начальнік Паўночна-Заходняга краю Міхаіл Мураўёў і ўсе яго прыхільнікі і паслядоўнікі, прысланыя ад таго часу сюды з цэнтральных губерняў Расіі настаўнікі, святары, чыноўнікі.

Мая арганічная інтэграцыя ў беларускамоўную педагагічную дзейнасць ніколькі не падарвала ўва мне прыродных рускіх асноў. Наадварот, служэнне ідэі беларускага нацыянальнага адраджэння толькі ўмацавала гэтыя асновы. У час сёлетняга (1999 года) перапісу насельніцтва Беларусі запісалася рускай па нацыянальнасці, роднай мовай назвала рускую, а дома заявіла, што карыстаюся беларускай мовай. Пакуль жыву на сваёй другой радзіме — Беларусі, буду рабіць усё залежнае ад мяне, каб яе мова пачувала сябе тут так, як пачуваюцца руская, польская, нямецкая, французская… мовы на сваіх гістарычных тэрыторыях.

*Ефрасіння Андрэева,*
*доктар педагагічных навук,*
*прафесар БДПУ імя Максіма Танка*

## 3. Заўвагі і прапановы на «Проект Закона Республики Беларусь “Об образовании в Республике Беларусь”»

Асноўным сродкам, з дапамогай якога ўсе народы свету выходзілі і выходзяць са стану культурна-моўнай асіміляцыі, з’яўляецца адпаведная гэтай мэце адукацыя. Увесь змест яе павінен у максімальнай ступені садзейнічаць фарміраванню не толькі ўсебакова развітых, высокай культуры маладых пакаленняў. Дзяржава, якая шчыра жадае выратаваць свой тытульны народ ад этнічнага вымірання, павінна клапаціцца яшчэ і аб тым, каб яго новая змена пасля заканчэння вучобы валодала здаровай гістарычнай памяццю, вызначалася трывалай нацыянальнай самасвядомасцю, з’яўлялася носьбітам уласных прыродных культурна-моўных традыцый, усяляк імкнулася сваёй стваральнай працай садзейнічаць умацаванню дзяржаўнага суверэнітэту, эканамічнаму і духоўнаму росквіту Бацькаўшчыны. Дасягненне такіх якасцяў у вырашальнай ступені залежыць ад навукова-выхаваўчага працэсу, таму зусім лагічна прысутнасць у «Проекте…» спецыяльнага 5-га артыкула «Языки обучения и воспитания». Толькі вырашальную для лёсу народа ролю мова адыгрывае

ў тым выпадку, калі яна будзе не чужой — няхай сабе і адной з самых развітых і распрацаваных у свеце, — а роднай.

Ахілесавай пятой нашай адукацыі з'яўляецца выкарыстанне ёю на працягу ўжо некалькіх стагоддзяў лацінскай, польскай, рускай моваў і амаль поўнае выключэнне з педагагічнага працэсу роднага слова беларусаў. І як вынік, сёння сярод палітыкаў і інтэлігенцыі, г. зн. тых катэгорый грамадства, якія ў найбольшай ступені ўплываюць на ўсе бакі жыцця краіны, мы не маем дастатковай колькасці людзей, што былі б у стане годна працаваць у беларускай культурна-моўнай стыхіі. Абсалютная колькасная перавага рускамоўных дзяржаўных дзеячаў і блізкіх да іх інтэлігентаў над такімі беларускамоўнымі прэстыжнымі катэгорыямі людзей не дазволіла з моманту ўводу ў краіне прэзідэнцкага кіравання ні кроку зрабіць па ўмацаванні сацыяльнай ролі беларускай мовы ва ўсіх сферах грамадскага жыцця, у т. л. і ў сістэме народнай адукацыі.

Зусім не ставіцца мэтай хоць трохі паправіць жабрацкае становішча беларускай мовы ў адукацыі ў дадзеным «Проекте…». Фармулёўка першага абзаца яго 5-га артыкула «Основными языками обучения и воспитания в образовательных учреждениях республики являются белорусский и русский» нікога не абавязвае мяняць моўную палітыку ў гэтай важнай сферы на карысць роднага слова народа, назву якога носіць суверэнная Рэспубліка Беларусь. Усякія спробы нацыянальна-патрыятычных, прагрэсіўных колаў грамадства павысіць ролю беларускай мовы ў выхаванні і навучанні маладых грамадзян краіны будуць рашуча і паспяхова адхілены спасылкамі рускамоўных палітыкаў, кіраўнікоў і педагогаў усіх тыпаў навучальных устаноў (а такіх жа асобаў у нас большасць) на дадзены закон, у якім і руская мова вызначана як асноўная ў навучанні і выхаванні.

Нам пара нарэшце спыніцца здзіўляць свет буйнымі непаладкамі ў дзяржаўнай моўнай палітыцы і без усялякіх хістанняў у заканадаўчым парадку надзяліць родную мову беларусаў такім аб'ёмам функцый у сістэме народнай адукацыі, якімі ў гэтай сферы руская мова карыстаецца ў Расіі, польская — у Польшчы, нямецкая — у Германіі, балгарская — у Балгарыі… І дакуль мы будзем жыць не так, як усе цывілізаваныя народы? Не толькі іх, але і наш уласны вопыт, назапашаны практычна ад самага часу ўтварэння ў студзені 1919 г. Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспубліцы, пераканаўча сведчыць, што народ не можа нармальна развівацца, калі яму дзяржава навязвае афіцыйнае двухмоўе. У такіх варунках мовы немінуча ўступаюць у бязлітасную канкурэнцыю паміж сабой, у выніку чаго перамагае тая з іх, на баку якой стаіць дзяржаўная ўлада. На

працягу ўсяго XX стагоддзя яна садзейнічала беларускай мове толькі ў час узлёту міжваеннай беларусізацыі і на пачатку 90-х гадоў, калі найбольш свядомая, патрыятычная частка грамадства ў чарговы раз стала на шлях нацыянальна-культурнага адраджэння.

Афіцыйнае двух- і шматмоўе неабходна толькі для краін, дзе — і больш нідзе! — два ці шмат народаў маюць сваю этнічную тэрыторыю, што дае кожнаму з іх законнае права захоўваць, развіваць, узбагачаць сваю культуру і мову, вольна карыстацца імі. У межах Беларусі этнічную, гістарычную тэрыторыю мае толькі яе адзін тытульны народ. Калі б такую тэрыторыю ў нашай краіне мелі рускія, палякі, украінцы… дык і іх мовам, у межах рассялення дадзеных народаў, улады павінны былі б надаць статус дзяржаўных. Добра ці кепска, але, яшчэ раз паўторымся, у Рэспубліцы Беларусь толькі беларусы жывуць на сваёй спрадвечнай этнічнай зямлі, з'яўляюцца яе абарыгенамі, карэннымі жыхарамі. Уся ж астатняя частка яе насельніцтва — гэта этнічныя супольнасці, нацыянальныя меншасці, што ніколькі не прыніжае іх сацыяльна-палітычнага, культурнага статусу, як не прыніжае аналагічнае становішча беларусаў Расіі, Украіны, Малдовы ці якіх-небудзь іншых краін. Пра гэта намі так падрабязна пішацца толькі дзеля таго, каб абгрунтаваць выснову, што дзяржаўныя органы Беларусі свядома павінны надаваць прыярытэтнае значэнне выкарыстанню ў народнай адукацыі беларускай мове, бо пра функцыянаванне рускай мовы ў сябе дома ў гэтай сферы духоўнага жыцця паклапоціцца Расія, польскай — Польшча, украінскай — Украіна, літоўскай — Літва… Разработчыкі ж «Праекта…» наўмысна абышлі ў яго артыкулах 25, 29, 35, 39, 44, 55, 60, 65 моўнае пытанне, ні ў адным з іх не зафіксавана, што незалежна ад мовы навучання ўсе тыпы навучальных устаноў абавязаны даць выпускнікам такі аб'ём ведаў па беларускай мове, якіх хапіла б для паспяховага выканання імі сваіх прафесійных функцый.

Зусім не задавальняе нас змест трэцяга абзаца 5-га артыкула: «Граждане имеют право на выбор языка обучения и воспитания в пределах возможностей, предоставленных системой образования». Гэтыя словы вельмі добра перадаюць сутнасць сумнавядомай практыкі партыйных і савецкіх органаў, якія з канца 50-х гадоў тонка выкарысталі ўжо даволі высокую ступень рускай культурна-моўнай асіміляцыі беларусаў, амаль поўную незапатрабаванасць іх роднага слова ў грамадскім жыцці і пачалі рукамі маладасведчаных у складанасці нацыянальна-культурнага пытання людзей пераводзіць у гарадах і раённых цэнтрах сельскай мясцовасці беларускамоўныя школы ў рускамоўныя, а трохі пазней — увогуле выз-

валяць вучняў, у т. л. беларускай нацыянальнасці, ад наведвання ўрокаў беларускай мовы і літаратуры.

І як разлічвалі высокія чыноўнікі, што сядзелі ва ўтульных кабінетах ЦК КПБ і Савета Міністраў БССР, нашыя навучальныя ўстановы, укараніўшы такую заганную практыку, падрыхтавалі процьму людзей (на жаль, і з дыпломамі аб заканчэнні ВНУ), у якіх крайне адмоўная рэакцыя на пачутае беларускае слова, якія не з'яўляюцца нават пасіўнымі носьбітамі беларускай культуры і мовы. Усе нашыя няўдачы з выхадам у канцы 80-х — пачатку 90-х гадоў на шлях нацыянальна-культурнага адраджэння правaліліся толькі з-за лютага супраціўлення яму ў першую чаргу адарваных ад сваіх гістарычных і духоўных традыцый беларусаў. Сусветная практыка, ды ў значнай меры і наша беларуская, поўная фактамі, што асіміляваная частка таго ці іншага народа, нават тытульнага, часта выступае больш агрэсіўна супраць нацыянальна-культурнага адраджэння сваёй краіны, чым гэта назіраецца сярод яе этнічных меншасцяў. Апошніх хоць трохі сорам разбірае, а свае ж асіміляваныя пласты — асабліва калі яны яшчэ займаюць высокія пасады ў грамадстве — нават ганарацца, што ў сябе дома з'яўляюцца праваднікамі чужых культурна-моўных стандартаў. Таму з улікам русіфікацыі беларускага народа, не выключаючы нават яго многіх дзяржаўных дзеячаў, прадстаўнікоў навуковай, мастацкай, педагагічнай інтэлігенцыі, з-за амаль поўнай незапатрабаванасці беларускай мовы ў афіцыйным жыцці, поўнай адсутнасці беларускамоўных вышэйшых і крайне малога працэнту сярэдніх спецыяльных навучальных устаноў сфармуляванае ў 5-м артыкуле «Праекта…» палажэнне: «Граждане имеют право на выбор языка обучения и воспитания…» не толькі не паспрыяе, а, наадварот, стане непераадольнай перашкодай для стварэння БЕЛАРУСКАЙ НАЦЫЯНАЛЬНАЙ СІСТЭМЫ НАРОДНАЙ АДУКАЦЫІ.

Пачынаючы з часоў расійскай імператрыцы Кацярыны ІІ, руская сістэма народнай адукацыі ў нашым краі ўкаранялася дзяржавай, і цяпер яна павінна ўзяць на сябе асноўны цяжар па планамерным павышэнні ў навучанні і выхаванні маладых пакаленняў краіны ролі беларускага нацыянальнага фактару, ідэалагічна рыхтуючы да такіх прагрэсіўных перамен усё грамадства. Яно ж адразу стане гарачым, шчырым прыхільнікам нацыянальнай сістэмы адукацыі, як толькі пачуе і ўбачыць, што органы дзяржаўнай улады, міністэрствы і ведамствы, прадпрыемствы і ўстановы запрацавалі па-беларуску, што ў краіне сталі ствараццa беларускамоўныя вышэйшыя навучальныя ўстановы, і ў першую чаргу

Беларускі дзяржаўны нацыянальны ўніверсітэт. У сённяшняй афіцыйнай культурна-моўнай сітуацыі моцна зрусіфікаваныя грамадзяне проста не ў стане зрабіць такі выбар мовы навучання і выхавання, які адпавядаў бы нацыянальным інтарэсам беларускага народа, скіраваў бы яго на шлях уласнага этнакультурнага развіцця, вызваліў бы ад усіх формаў асіміляцыі. Дэнацыяналізацыя тытульнага народа Рэспублікі Беларусь дайшла да такіх пагражальных межаў, што выратаваць яго ад канчатковага этнічнага вымірання можа толькі дзяржава. І пачынаць ёй трэба, зыходзячы з набытага сусветнай практыкай вопыту, у першую чаргу са стварэння сапраўднай, а не сімвалічнай, паказной сістэмы нацыянальнай адукацыі.

*Ефрасіння Андрэева,*
*доктар педагагічных навук, прафесар*
*Леанід Лыч,*
*доктар гістарычных навук, прафесар*

*(Надрукавана ў газеце «Народная воля»)*

# ПРЫСВЯЧЭННІ ЕФРАСІННІ ГЕОРГІЕЎНЕ АНДРЭЕВАЙ

## З нагоды 75-годдзя БДПУ імя Танка

*

Вы робіце добрую справу:
Родную мову ўзнеслі НА ТРОН,
Чым заслужылі права
На нізкі зямны паклон.

Зялёнае Вам святло, прафесар!

*Калектыў БДПУ імя М. Танка, 1997 г.*

*

Андрэева… Сардэчнасць маці
У творчых вывадах ідаць,
І гэту ўвагу да дзіцяці
Змаглі і нам вы перадаць.

*Мікалай Грудзінскі (Настаўніцкая газета. 1997. 4 снежня)*

* * *

Мы не забудзем Вашу шчырасць
І дабрыню не напаказ.
Матулі толькі так вучылі
З любоўю і даверам нас.

*30-я група факультэта беларускай філалогіі і культуры БДПУ імя М. Танка, 13 чэрвеня 1990 г.*

* * *

Праз шмат стагоддзяў к нам з нябёс ідзе
Адзіны вобраз вечнай Ефрасінні,
І у руках сваіх нам крыж яна нясе,
Каб мы спачылі з ёй на ўспаміне.

І нам на шчасце гэты вось анёл
Паслаў цудоўную спадзвіжніцу сваю,
І не дарма палон душы памёр,
Каб выказаць лабоў да Вас маю.

І мы, народ, пакрыўджаны даўно,
Павінны ведаць і ўслаўляць такіх
Жанчын, чыё ляціць святло
Да душаў грэшнікаў святых.

Яна прыйшла, зацьміла ўсіх сабой,
Прынесла веды, мудрасць на вустах,
Каб мы панеслі разам іх з табой,
Каб не мроілася шчасце ў снах.

Яна падобна той святой Прадславе,
Якая азарыла сабой свет,
І нават забруіліся канавы,
Якія высыхалі многа лет.

І бляскам добрым вочы заблішчэлі,
Калі яна загаварыла зноў,
І нават казачныя белыя арэлі…
Усё гайдаюцца арэлі сноў.

Няхай жыве святая Ефрасіння,
Якая паўтарае вечны шлях,
Паміж Пасожжам  і аж да Падзвіння
Яе ляжыць цудоўнейшы прасцяг.

Мая падзяка Вам не мае краю,
Як Свіслач бесканечная цячэ,

Жадаю Вам свайго зямнога раю,
Шырокай думкі, як на той рацэ.

*Вольга Клачко, студэнтка 102-й групы
факультэта беларускай філалогіі БДПУ імя М. Танка,
23 чэрвеня 1999 г.*

* * *

Не, Вы не такая, зусім не такая,
Як ёсць тысячы нашых людзей.
Ваш Божы дар, і талент,
І прызванне вучыць дзяцей.

А яшчэ відавочны і мудрасць,
І вопыт вялікі ў яе.
Ефрасіння Радзіме служыць,
Праз дзяцей сваю службу нясе.

Барацьбіт за свабоду краіны
І за чыстыя душы людзей,
Дзякуй Вам, што Вы ёсць, Ефрасіння!
Вашу справу працягнем далей.

*Кацярына Мусько, Таццяна Рудзінская,
студэнткі 106-й групы факультэта беларускай
філалогіі і культуры БДПУ імя М. Танка,
28 чэрвеня 2000 г.*

# З УСПАМІНАЎ КАЛЕГ ПА ПРАЦЫ

## 1. Такую Асобу заўжды трэба помніць

Вось і яшчэ адна зорачка загарэлася на небе… Гэта душа нашай Ефрасінні Андрэевай адляцела і ператварылася ў зорку.

Пасля пахавання цудоўнай жанчыны, настаўніка і сапраўднага вучонага, гледзячы ў начное неба, успамінаю самыя яскравыя дні сустрэчы з ёй.

Я ведала Ефрасінню Георгіеўну Андрэеву як кіраўніка дзіцячых садоў. Некалькі гадоў яна працавала ў Міністэрстве асветы БССР інспектарам і размаўляла са сваімі калегамі на цудоўнай беларускай мове. Нягледзячы на тое, што яна сама з Расіі, вельмі балюча ўспрымала тое, што нашы беларусы добра не ведаюць сваёй мовы, культуры, гісторыі і не асабліва дбаюць аб тым, каб іх дзеці вывучалі родную мову, пачынаючы з дзіцячага сада.

Канешне, на яе светапогляд, развіццё самасвядомасці, станаўленне як грамадзянкі нашай краіны вялікую ролю адыграў муж — Лыч Леанід Міхайлавіч, масціты вучоны-гісторык, прафесар.

Таму невыпадкова Ефрасіння Георгіеўна пачала глыбока вывучаць гісторыю станаўлення і развіцця дашкольнага выхавання ў нашай краіне на працягу XIX–XX стагоддзяў.

Пазнаёмілася бліжэй я з Ефрасінняй Андрэевай, як з вялікім вучоным, у свае сталыя гады, калі працавала начальнікам упраўлення дашкольнай адукацыі Міністэрства Рэспублікі Беларусь. Мы тады сумесна з вядучымі вучонымі, гісторыкамі, пісьменнікамі, мастакамі, практыкамі стваралі першую нацыянальную праграму выхавання і навучання дзяцей у дашкольных установах. На той час яна была ўжо доктарам педагагічных навук, прафесарам і працавала ў Беларускім дзяржаўным педагагічным універсітэце імя Максіма Танка.

Глыбей пазнаёмілася я з Ефрасінняй Георгіеўнай праз свайго навуковага кіраўніка, Чалавека і Вучонага з вялікай літары — Грымаця Адама Антонавіча. Яны значна паўплывалі на маё далейшае станаўленне як прафесіянала і грамадзяніна нашай любімай Беларусі.

Неаднаразова была я і ў гасцях у Лыча Леаніда Міхайлавіча і Андрэевай Ефрасінні Георгіеўны, дзе слухала душэўныя, інтэлектуальныя разважанні аб гісторыі нашай краіны, яе цудоўных людзях, аб мясцінах, дзе яны нарадзіліся.

Гледзячы на гэтую апантаную, прыгожую пару, я ганарылася тым, што такія людзі жывуць і працуюць у нашай краіне, што я маю магчымасць з імі сустракацца, набірацца розуму ад іх і несці ў сваім сэрцы праменьчык святла, які ўмацоўвае твой светапогляд і твае духоўныя сілы дзеля добрых учынкаў у сям'і, працы, грамадскіх справах і г. д.

Сустракалася з Ефрасінняй Георгіеўнай і ў цяжкія для яе гадзіны, калі яна хварэла. Але, нягледзячы на гэта, яна заставалася моцная духам, цікавілася маёй навуковай працай, падзеямі, якія адбываліся ў адукацыі, грамадстве.

Як прыгожа з яе вуснаў гучала беларуская мова…

А разам заўсёды быў побач яе каханы, яе муж, добры і клапатлівы, які не адыходзіў і ад невылечна хворай да апошніх хвілін яе зямнога жыцця.

Вельмі хачу, каб праца Ефрасінні Андрэевай была прадоўжана яе вучнямі, адмыслоўцамі і добрымі людзьмі, якія дбаюць пра развіццё беларускай культуры, адукацыі ў нашай краіне.

*Т. М. Карасцялёва,*
*кандыдат педагагічных навук,*
*дацэнт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта*

## 2. Удзячная лёсу за знаёмства

Калі да пытання: «Кім для вас з'яўляецца Ефрасіння Георгіеўна Андрэева?» паставіцца як да афіцыйнага, то мой адказ на яго будзе каротка-дакладным: доктар педагагічных навук, прафесар кафедры агульнай педагогікі БДПУ імя Максіма Танка. Ефрасіння Георгіеўна Андрэева была маім навуковым кіраўніком.

Праўда, адбылося гэта ў некаторай ступені нечакана. Трэба сказаць, што жаданне вучыцца ў аспірантуры і абараняцца практычна не назаляла мне і таму ні з кім не абмяркоўвалася. Але пасля аднаго з мерапрыемстваў грамадскага згуртавання татар-мусульман «Аль-Кітаб» пад час размовы з Леанідам Міхайлавічам Лычом пачула: «А чаму вы не працуеце над кандыдацкай дысертацыяй? Гэта ж робяць нават тыя, каму няма чаго сказаць… Ды званне і статус у немалой ступені ўзнімаюць аўтарытэт чалавека».

Падумала, што калі займацца навуковым даследаваннем, то тэму шукаць мне не давядзецца. Гэта тое, над чым працавала з канца 1990-х гадоў, — далучэнне дзяцей дашкольнага ўзросту да беларускай культуры і мовы. Але як жа з кіраўніком?! Таго, хто можа здзейсніць навуковае кіраўніцтва ў напрамку маёй тэмы, не так лёгка вылучыць. Не менш цяжка высветліць: ці знойдзецца паміж намі паразуменне?! Леанід Міхайлавіч супакоіў: такі чалавек ёсць — гэта яго жонка. А пасля была размова з хатняга тэлефона, пад час якой стала відавочна: мы з Ефрасінняй Георгіеўнай знойдзем агульную мову.

І вось прызначана першая сустрэча ў адной з аўдыторый педагагічнага інстытута. Бачу перад сабой статную, прыгожую жанчыну. Я нават крыху разгублена… Яна вельмі прыгожая! Яе постаць гаворыць шмат аб чым! Але ўручаю букет з ружаў, якія яна з удзячнасцю прымае. Яшчэ раз прадстаўляемся адна адной, а пасля Ефрасіння Георгіеўна вельмі проста і разам з тым сур'ёзна задае пытанні, нешта ўдакладняе для сябе і дае згоду на кіраўніцтва. Забягаючы наперад, скажу, што ў чалавечых якасцях і навуковай кампетэнцыі майго навуковага кіраўніка не памылілася. Я здавала экзамены, працавала над тэмай, але да абароны справа не дайшла, хоць на гэтым мая даследчыцкая дзейнасць не скончылася.

З таго часу паміж намі склаліся шчырыя адносіны. Я з вялікай павагай ставілася да Ефрасінні Георгіеўны. Калі ўзнікала пытанне, магла ў любы час звярнуцца па кансультацыю да яе. Мы маглі пажартаваць, але пры гэтым я не дазваляла сабе нетактоўнасці ці нейкага перабольшання. Не здарылася так, каб я распытала Ефрасінню Георгіеўну аб яе бацьках,

дзяцінстве. Гэтыя пытанні ўзніклі ў мяне пазней, і адказы на іх, у многім нечаканыя, атрымала ад Леаніда Міхайлавіча. Даведалася, што працавітая сям'я Георгія Андрэева жыла ажно ў сібірскай вёсцы пад Омскам.

У 1958 годзе Ефрасіння Георгіеўна разам з мужам пераехалі на яго радзіму ў Беларусь. Не цяжка здагадацца, што, каб рашыцца апынуцца там, дзе табе незнаёмае амаль усё, трэба вельмі давяраць свайму мужу. Яна хутка палюбіла яго радзіму, а калі ў канцы 80-х — пачатку 90-х гадоў XX ст. пачалося нацыянальна-культурнае адраджэнне, Ефрасіння Георгіеўна горача і смела выступала за выхаванне дзетак у дашкольных, моладзі ў школьных установах, ССНУ і ВНУ на роднай мове. Дадзеныя пытанні яна вельмі грунтоўна выклала ў сваіх навуковых працах.

Беларуская мова, любоў да яе як да «мовы душы» моцна з'яднала мужа і жонку. Апынуўшыся на роднай зямлі Леаніда Міхайлавіча, яны ўзяліся за руплівую стваральніцкую працу, абаранілі кандыдацкія і доктарскія дысертацыі. Кожны быў вельмі заняты, але жылі яны і справамі адзін аднаго. Беларуская мова і беларуска-татарская справа пазнаёмілі нас, далі магчымасць супрацоўніцтва ў грамадскіх справах, адчынілі дзверы даверу. Два гэтыя чалавекі мною пачалі ўспрымацца разам. Я не магу сказаць, што мы параднілiся, але зусім нядаўна задумалася аб супадзеннях, якія маглі б быць выпадковымі, але ж… Ефрасіння Георгіеўна нарадзілася ў 1931 г., мая мама — на год раней, Леанід Міхайлавіч і мой тата — аднагодкі; пазнаёміліся Ефрасіння Георгіеўна і Леанід Міхайлавіч у лёсавызначальным для многіх людзей 1956 годзе — у гэтым годзе было наканавана мне з'явіцца на свет у сям'і беларускіх татараў Альміры — Ліліі Аляксандраўны і Адама Сулейманавіча Александровічаў.

Маё супрацоўніцтва з Леанідам Міхайлавічам працягваецца. Калі размаўляю з ім, заўсёды ўзгадваю яго верную спадарожніцу і апякунку ўжо з нябёсаў.

*Разалія Адамаўна Александровіч*

## 3. Гонар беларускай педагогікі

Амаль 35 гадоў назад — у 1978 годзе я пачаў працаваць у Мінскім дзяржаўным педагагічным інстытуце імя А. М. Горкага, які ў 1993 годзе быў пераўтвораны ў Беларускі дзяржаўны педагагічны ўніверсітэт, а хутка яму прысвоена імя М. Танка.

Памятаю, што ў першыя месяцы сваёй працы на факультэце пачатковых класаў я сустрэў прыгожую і, як хутка высвечылася, вельмі эрудзіраваную жанчыну. Гэта была дацэнт Ефрасіння Георгіеўна Андрэева. Толькі пазней я даведаўся, што яна была жонкай майго старога знаёмага — знакамітага і слыннага беларускага вучонага-гісторыка Леаніда Лыча.

Ефрасіння Георгіеўна прыемна здзівіла мяне добрым веданнем гісторыі Беларусі, а таксама адданасцю гісторыі беларускай педагогікі. Мы неаднаразова сустракаліся і гутарылі на розныя тэмы. Памятаю, яна вельмі зацікавілася біяграфіяй і дзейнасцю Уладзіміра Іванавіча Пічэты, аб якім я абараніў кандыдацкую дысертацыю.

З таго часу я сачыў за публікацыямі Ефрасінні Георгіеўны, якая ў 1988 годзе стала доктарам педагагічных навук, а ў 1991 — прафесарам.

Дачка рускага народа, выпускніца Башкірскага педагагічнага інстытута, яна ў 1958 годзе прыехала ў Мінск і адразу пачала вучыць беларускую мову. Свабодна валодаючы гэтай мовай, яна доўгія гады прапагандавала яе на старонках рэспубліканскага друку, у сродках масавай інфармацыі, на сваіх лекцыях і семінарах сярод студэнтаў. Між іншым, па прыкладу Е. Г. Андрэевай шэраг выкладчыкаў нашай вышэйшай навучальнай установы пачалі вывучаць беларускую мову, не гаворачы ўжо аб студэнтах.

Аўтару гэтых радкоў давялося сустракацца з работнікамі Міністэрства адукацыі Беларусі і навуковымі супрацоўнікамі Навукова-даследчага інстытута педагогікі, якія добрымі словамі ўспаміналі сваю былую калегу Ефрасіннію Георгіеўну Андрэеву.

Навуковая грамадскасць, вучоныя ў галіне педагогікі высока ацанілі яе працы «Гісторыя педагогікі. Ч. 1: Гісторыя замежнай педагогікі са старажытных часоў да 1992 г.» (Мінск, 1992) і «Гісторыя педагогікі. Ч. 2: Гісторыя педагогікі Беларусі са старажытных часоў да 1917 г.» (Мінск, 1993). Пасля выдання гэтых кніг і без таго вялікі аўтарытэт прафесара Ефрасінні Георгіеўны Андрэевай рэзка павысіўся.

Гэтага вучонага па праву можна назваць гонарам беларускай педагогікі. Е. Г. Андрэева была адным з самых таленавітых даследчыкаў гісторыі на-

роднай асветы і педагагічнай думкі Беларусі, аўтарам вельмі каштоўных, змястоўных і карысных дапаможнікаў для студэнтаў ВНУ.

Найбольш вядомым вучэбным дапаможнікам Ефрасінні Георгіеўны акрамя «Гісторыі педагогікі Беларусі са старажытных часоў да 1917 г.» стала «Гісторыя народнай адукацыі Беларусі (1917–1941)» (Мінск, 2001).

Між іншым, гэта выданне было дапушчана Міністэрствам адукацыі Рэспублікі Беларусь у якасці вучэбнага дапаможніка для студэнтаў педагагічных спецыяльнасцей вышэйшых навучальных устаноў. Яно прызначаецца выкладчыкам і студэнтам педагагічных ВНУ, тэхнікумаў і кафедраў педагогікі, настаўнікам, а таксама работнікам народнай адукацыі Рэспублікі Беларусь.

Кніга Е. Г. Андрэевай «Гісторыя народнай адукацыі Беларусі (1917–1941)» прыемна здзіўляе не толькі сваім зместам, але і навуковай смеласцю яе аўтара. У ёй раскрываюцца шляхі станаўлення і далейшага развіцця нацыянальнай сістэмы народнай адукацыі і школы на Беларусі ў 1917–1941 гадах. На аснове аналізу шматлікіх гістарычных крыніц, у тым ліку самых навейшых, з улікам сучасных поглядаў на развіццё беларускага грамадства ў гэтым вучэбным дапаможніку распрацаваны тэарэтычныя асновы нацыянальнай адукацыі, паказана дзейнасць Народнага камісарыята асветы БССР, наркамаў Усевалада Ігнатоўскага, Антона Баліцкага, іх паплечнікаў і пераемнікаў па стварэнню нацыянальнай школы і дзіцячага сада, развіццю ідэй гуманізацыі, дэмакратызацыі школы і ўстанаўлення гарманічных сувязей паміж нацыянальным, інтэрнацыянальным і агульначалавечым.

Шмат новага для свайго часу і цікавага змешчана ў вучэбных дапаможніках Е. Г. Андрэевай «Асвета ў старажытнай Беларусі і Вялікім Княстве Літоўскім» (Мінск, 2000) і «Асвета і педагагічная думка Беларусі ў перыяд Рэчы Паспалітай» (Мінск, 2000).

Шэраг цікавых і змястоўных прац Ефрасінняй Георгіеўнай напісана сумесна з сваім мужам — вядомым не толькі ў Беларусі, але і за яе межамі вучоным-гісторыкам Леанідам Міхайлавічам Лычом. На мой погляд, самай высокай ацэнкі заслугоўвае іх вучэбны дапаможнік «Шляхі сталення. Да 70-годдзя ўтварэння Вышэйшага педагагічнага інстытута ў Мінску» (Мінск, 2001). У ім на багатым фактычным матэрыяле, з выкарыстаннем невядомых архіўных матэрыялаў з фондаў Нацыянальнага архіва Рэспублікі Беларусь выкладзены пытанні ўзнікнення і развіцця Вышэйшага педагагічнага інстытута ў Мінску ў перыяд 1914–1940 гадоў.

Е. Г. Андрэева карысталася вялікім аўтарытэтам сярод выкладчыкаў і студэнтаў БДПУ імя М. Танка. Многія студэнты імкнуліся паслухаць яе даклады і выступленні на міжнародных і рэспубліканскіх навуковых канферэнцыях. Некаторыя студэнты называлі яе педагогам з вялікай літары.

Няхай светлая памяць аб гэтым таленавітым вучоным, педагогам з лепшымі чалавечымі якасцямі назаўсёды застанецца ў нашых сэрцах.

*Эмануіл Рыгоравіч Іофе,*
*доктар гістарычных навук,*
*прафесар БДПУ імя М. Танка*

# ЗМЕСТ



## ДАДАТАК

**Лыч, Л.**

**Л88** Рускі прафесар на ніве беларускага нацыянальнага адраджэння : успаміны / Леанід Лыч. — Мінск : Кнігазбор, 2013. — 120 с.

ISBN 978-985-7057-27-6.

У кнізе аўтар прасочвае жыццёвы і творчы шлях сваёй жонкі, усведамленне ёю як навукоўцам-педагогам неабходнасці праз узгадаванне студэнтаў, напісанне і выданне падручнікаў, дапаможнікаў, выступленне ў перыядычным друку ўсяляк спрыяць фарміраванню такой маладой змены беларускага народа, якая б даражыла нацыянальнай самабытнасцю, была адданым носьбітам яго культурна-моўных традыцый. Кніга разлічана на шырокае кола чытачоў, і асабліва тых, хто імкнецца да актыўнага ўдзелу ў нацыянальна-культурным руху.

**УДК 94(476)(092)+929 Андрэева**
**ББК 63.3(4Беи)-8**

